ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

25 ЖНІЎНЯ 1995 г. № 34 (3806) Кошт 2 000 руб.

## ТУТ НІ ДАДАЦЬ, НІ АДНЯЦЬ...

**_Віктар НЕСЦЯРОВІЧ: "У 30—50-ыя гады неабгрунтавана рэпрэсіравана ў адміністрацыйным парадку 349 тысяч грамадзян рэспублікі, а агульная лічба ахвяр палітычных рэпрэсій у Беларусі складае каля 600 тысяч чалавек... Не будзе памылкай лічыць, што сярод іх былі і тыя з двух мільёнаў "працоўных Савецкай Беларусі", што падпісалі хвалебную оду вялікаму Сталіну"._**

**4**

## "МММ" ПА-БЕЛАРУСКУ?

**_Міхась ЗАМСКІ: "Сёння толькі ў Мінску ўзбуджаны крымінальныя справы супраць 12 фірмаў па фактах прыцягнення сродкаў грамадзян без дазволу на гэта нацыянальнага банка рэспублікі, г. зн. не маючы яго ліцэнзіі. У выніку, падманутымі, абкрадзенымі аказаліся дзесяткі тысяч грамадзян"._**

**5, 12**

## КАЛПАШОЎСКІ ЯР...

**_Ігар КУЗНЯЦОЎ: "Толькі ўжо ў перабудовачныя часы праўда аб калпашоўскім захаванні сяк-так пачала прабівацъ сабе дарогу. Нават орган ЦК КПСС газета "Правда" 11 мая 1989 года ў артыкуле спецкара В. Чарткова, праўда, вытрыманага ў духу партыйнасці і сацыялістычнага рэалізму, дазваляў звычайнаму савецкаму чытачу ўлавіць страшную карціну знішчэння..."_**

**14—15**

## ЁН ІМКНУЎСЯ ДА ІСЦІНЫ

**_Іван МІРОНЧЫК: "Чаадаеў пісаў: "У нашай крыві ёсць нешта варожае ўсялякаму сапраўднаму прагрэсу. Мы жывём толькі дзеля таго, каб паслужыць якім-небудзь важным урокам для аддаленых продкаў..."_**

**16**

ТРЭЦІ МІЖНАРОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ ДУХОЎНАЙ МУЗЫКІ "МАГУТНЫ БОЖА"



*Дом, адкрыты для ўсіх.*




*Хор "Санорус".*

# "СЭРЦ МАЛЫХ" ЯДНАННЕ

## ГОРАД М. -- РАДЗІМА ПАРАДОКСАЎ

І праўду казаў няўрымслівы лонданец-беларусіст Гай дэ Пікарда, назваўшы Скарыну містыкам, а беларусаў — містычнай нацыяй. Мала хто, аднак, гэта чуў: развагі свае наш госць з туманнага еўрапейскага вострава падараваў за фестывальнай вячэрай вузкаму колу суседзяў па століку. І вось на колькі дзён пазней, і ўжо за іншым сталом, па якім раскіданы паперы, я ўспамінаю тую Пікардаву выснову.

А ведаеце, як ён яе абгрунтаваў? Пытаннямі. Маўляў, якой нацыяй кіраваў адначасова і чалавек, і воўк? У гісторыі якой нацыі было каля паўдзесятка сталіц? Дзе яшчэ, як не ў беларусаў, убачыш па дарозе ўстаноўленыя амаль побач два зусім розныя паказальнікі адлегласці да таго ж самага паселішча — на 200 метраў і на 5 кіламетраў?

Паводле энцыклапедычнага вызначэння, "усе містычныя дактрыны схіляюцца да ірацыяналізму, інтуітывізму, знарочыстай парадаксальнасці". Значыць, магу ўзяць на сябе дзёрзкі чын — дапоўніць назіранні шаноўнага іншаземца над нашай містычнай нацыяй. І ўрэшце выгукнуць: "А ўсё-ткі дзіўнае месца — беларускі горад Магілёў! Містычная радзіма ірацыянальнасці ды парадоксаў..."

Тут, у цэнтры горада, не адзін год сходжанага-пераходжанага, толькі сёлета схамянулася, знячэўку заўважыўшы, што тапчуся па вечку каналізацыйнага люка, на якім горда блішчыць чыгуннымі літарамі слова "Madrid"!

Тут, "у цэнтры абласнога цэнтра", можна, зачапіўшыся абцасам, падняць з асфальту жэтончык на праезд у мінскім метро. Тут жа, у цэнтры, можна падзівіцца на будаўнічы паўтор архітэктурна непаўторнага нашага Дома ўрада.

І, напэўна, толькі ў Магілёве архікафедральны касцёл, адзначаны імем св. Станіслава, стаіць на вуліцы пад бязбожнаю назвай — "Камсамольская".

Дык мо і заканамерна, што менавіта ў містычным беларускім горадзе М. нарадзіўся Міжнародны фестываль духоўнай музыкі "Магутны Божа"?

*(Працяг на стар. 10-11)*



*"Божая радасць — як рака..."*

# ЛІТ КОЛА ДЗЁН

***Яшчэ тыдзень і скончыцца лета. Ужо зараз сям-там пажаўцела лісцё. Восень — час падвядзення рахункаў напярэдадні зімовых халадоў, час збору ўраджаю. І не толькі на палетках... Летнія страйкі і асабліва супрацьстаянне ўладаў і метрапалітэнаўцаў паказалі, што нешта выспявае і ў грамадстве... Можа, новыя страйкі, а можа, нарэшце, усведамленне ўладамі неабходнасці рэформаў. Што будзе модным гэтай восенню? Няўжо "мадэльеры" з Дома ЦК зноў прапануюць краіне "трышкін кафтан"...***

## НЕБЯСПЕКА ТЫДНЯ

Пасля таго, як былі звольнены з працы машыністы метрапалітэна, што бралі ўдзел у страйку, іх месца згодна інфармацыі расійскіх "Известий" занялі былыя работнікі метро з ліку тых, хто пайшоў на пенсію альбо быў звольнены за п'янку, а таксама ў хуткім тэмпе перавучаныя машыністы прыгарадных электрычак. Прычым кожнага машыніста ахоўвае міліцыянер. Але хто паклапоціцца аб жыцці і здароўі, аб бяспецы пасажыраў, што вымушаны карыстацца цягнікамі, якімі кіруюць "рэкрутаваныя" пенсіянеры і машыністы з чыгункі, нязвыклыя да падземных умоў? Яўген Пуськоў, адзін са звольненых з працы за ўдзел у страйку машыністаў, заявіў карэспандэнту "Народнай газеты", што "не шкадуе, што так атрымалася". Ён раіць не шукаць у дзеяннях забастоўшчыкаў палітыкі. "Ёсць канкрэтнае незадавальненне, мякка кажучы, некарэктнымі паводзінамі начальніка метрапалітэна Набешкі. Не трэба лічыць нас за быдла".

## АРЫШТ ТЫДНЯ

Арыштаваны кіраўнікі метрапалітэнаўскіх прафсаюзаў Мікалай Канах (афіцыйны прафсаюз) і Уладзімір Макарчук (свабодны прафсаюз). Арышт здзейснілі спецназаўцы з маскамі на тварах (як у Авальнай зале Вярхоўнага Савета, калі "эвакуіравалі" апазіцыю). Чакаюцца арышты і іншых актывістаў рабочага руху.

## СТРАТА ТЫДНЯ

У рэдакцыі газеты "Советская Белоруссия" "чэпэ" — згублены ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга, якім газета ў свой час была ўзнагароджана за поспехі ў камуністычным выхаванні працоўных. Ордэн знік з зачыненага сейфа. Версія аб крадзяжы з мэтай рэалізацыі на рынку адпадае: за "Працоўны Чырвоны Сцяг" больш трох долараў не дадуць — не мае сэнсу дзеля гэтага рызыкаваць.

## ЗАГАЛОВАК ТЫДНЯ

"МЕТРОном запущен" — так назваў свой артыкул Аляксандр Фядута ў "Белорусской деловой газете" за 21 жніўня.

## МЕРКАВАННЕ ТЫДНЯ

У тым жа нумары "БДГ" Юрый Дракахруст друкуе пад загалоўкам "Гульні пад круглым сталом" развагі аб прэзідэнцкай ініцыятыве "круглага стала", на які ён запрашае ўсе палітычныя партыі і рухі. На думку аўтара, А. Лукашэнка, сканцэнтраваўшы ў сваіх руках, бадай, усю ўладу, і выканаўчую, і заканадаўчую, цяпер вымушаны несці асабістую адказнасць за стан дзяржавы. А гэтага вельмі не хочацца. Вось і ўзнікла думка сабраць "круглы стол", каб падзяліць адказнасць на ўсіх, захаваўшы ўладу і свабоду дзеянняў толькі за прэзідэнтам. Ю. Дракахруст мяркуе, што той "стол" патрэбны толькі прэзідэнту і толькі ён будзе мець выгоду, калі "стол" адбудзецца.

## ВІЗІТ ТЫДНЯ

21 жніўня з аднадзённым рабочым візітам сталіцу Беларусі наведаў міністр замежных спраў ФРГ Клаус Кінкель. Падпісанне беларуска-германскіх дамоваў не планавалася. Германскі міністр пакланіўся Крыжу пакут у Курапатах і наведаў мінскі аўтамабільны завод.
Клаус Кінкель — уплывовы еўрапейскі палітык. Пасля здзеку над дэпутатамі апазіцыі ў Авальнай зале Вярхоўнага Савета Беларусі ён выступіў з рэзкай заявай у адрас прэзідэнта Лукашэнкі. Зразумела, сродкі масавай інфармацыі Беларусі пра гэта не паведамлялі.

## ДАЗВОЛ ТЫДНЯ

У лютым прэзідэнт Лукашэнка прыпыніў дзейнасць спецыялізаваных інвестыцыйных фондаў (СІФ). Нібыта на месяц, нібыта дзеля праверкі іх дзейнасці на прадмет адпаведнасці заканадаўству. Праверка зацягнулася на чатыры месяцы. Нічога крымінальнага ў дзейнасці фондаў знойдзена не было. Днямі спецыялізаваныя інвестыцыйныя фонды Беларусі павінны былі аднавіць сваю дзейнасць. Аднак за час, пакуль беларускія СІФ былі "пад каўпаком" пракуратуры, у Беларусі створана некалькі буйных фондаў з расійскім капіталам, і цяпер, як піша журналіст Павел Шарамет, "беларускія СІФ могуць і не аднавіць работу". Мімволі паўстае пытанне: хто ў нашай краіне "заказвае музыку" і ў чыіх інтарэсах дзейнічае ўлада?

## ЗДАРЭННЕ ТЫДНЯ

Згарэлі два вагоны дызель-цягніка Брэст—Баранавічы. Гэта адбылося ў мінулую нядзелю каля 16 гадзін, калі перапоўнены цягнік ішоў па перагону ў накірунку Баранавіч. Дзякуючы прафесіяналізму і аператыўнасці лакаматыўнай брыгады (машыніст Аксёнаў, памочнік Ігнацюк) чалавечых ахвяр няма. Пажарныя прыбылі на месца здарэння толькі праз гадзіну.

## СКАРАЧЭННЕ ТЫДНЯ

У Мінгарвыканкаме падрыхтаваны загад аб скарачэнні на 10 працэнтаў транспартнай работы ў горадзе. Стане меней машын на лініях, будуць перагледжаны маршруты.

## ПАТРЫЯТЫЗМ ТЫДНЯ

У Віцебску ствараецца грамадскі рух у падтрымку герба "Пагоня" і бел-чырвона-белага сцяга. Першая мэта руху: дабіцца ад уладаў выдачы пашпартоў з выявай герба "Пагоня". Ініцыятары руху лічаць, што "паслярэферэндумная" сімволіка з'яўляецца знешнім атрыбутам існуючага рэжыму, але ніяк не сімвалам незалежнай беларускай дзяржавы.

## НАМЕР ТЫДНЯ

Міністэрства абароны Беларусі плануе адмовіцца ад практыкі вясновых і восеньскіх прызываў і праводзіць прызыў на працягу ўсяго года. Як толькі хлопец адсвяткуе паўналецце альбо скончыць навучальную ўстанову, ён атрымае "повестку на бумаге явиться в райвоенкомат" — як пяецца ў старой рэкруцкай песні.



З нагоды

# САВЕЦКІ САЮЗ У АСОБНА ЎЗЯТАЙ РЭСПУБЛІЦЫ

Чатыры гады таму распачаўся і скончыўся безвынікова жнівеньскі неабальшавіцкі путч. Не, вынікі ўсё ж былі, ды не такія, што планаваліся "товарищами" з ГКЧП. Яны хацелі паўтарыць кастрычніцкі 1917 года поспех сваіх папярэднікаў: рэзкім ударам збіць з ног апанентаў і надаць гісторыі іншы напрамак, павярнуць назад краіну, што ўжо ступіла на шлях дэмакратыі. Так было ў 1917 годзе, калі бальшавікі стрэлам з "Аўроры" і штурмам Зімняга (яго, дарэчы, асабліва і не абаранялі) знішчылі парасткі народаўладдзя, што маглі ўзысці на расійскай глебе пасля ліквідацыі самадзяржаўя, паступовай, мірнай рэалізацыі эканамічнай і палітычнай праграмы Часовага ўрада і выбараў у Заснавальны Сход. Так было і ў жніўні 1991 года. ГКЧП — гэта спроба спыніць працэс перабудовы савецкай імперыі ў пабудаванню на здаровым сэнсе садружнасць суверэнных краін (штосьці накшталт Еўрапейскага Саюза); знішчыць набыткі "перабудовы" (найперш, у духоўнай галіне); не дапусціць, каб чарговыя выбары былі свабоднымі. Але тут як нідзе дарэчы выслоўе "Гісторыя паўтараецца двойчы..." Сапраўды, у кастрычніку 1917-га адбылася трагедыя, у жніўні 1991-га — фарс. Бяздарна пастаўлены і таму лагічна правалены.

А'ектыўна путч паспрыяў паскарэнню працэсаў, якія ГКЧП мела мэтай спыніць: пазбаўленню кампартыі манаполіі на ўладу, дэзінтэграцыі Савецкага Саюза, пераходу ад размеркавальнай эканомікі да рыначнай. Менавіта гэкачэпісты сарвалі падпісанне новага Саюзнага дагавора і праклалі дарогу ў Віскулі. Дзякуй ім за гэта! Каб не яны, імперыя магла б пратрымацца яшчэ колькі гадоў, пры гэтым значна памяншаючы шанцы на мірны "развод".

Здавалася б, што нам за сённяшнімі клопатамі да бяздарнага палітычнага фарсу чатырохгадовай даўніны? Аднак, не... Сённяшнія падзеі на Беларусі, на жаль, сведчаць, што справа ГКЧП, прагарэўшы на абшарах велізарнай імперыі, жыве і нават квітнее ў адной дзяржаве — Рэспубліцы Беларусь. Не інакш як наш прэзідэнт, пабачыўшы як мала ў яго шанцаў заняць кабінет Ельцына ў Крамлі, узяўся адрадзіць СССР у "асобна ўзятай" Беларусі. Вось ужо вярнуліся БССРаўскія сцягі (з нязначнымі карэктывамі, але серп-молат і пяцікутную зорку Лукашэнка можа аднавіць на сцягу без усялякага "рэферэндуму"). "Новы" герб Рэспублікі Беларусь па духу — герб СССР, на тым зямны шар, перакрыжаваны савецкай эмблемай, на гэтым — карта Беларусі ўзнесена над зямным шарам. Даруйце, але гэта шавінізм! Нагадаю, што Нацыянальны гімн Германіі сёння ўяўляе сабою "песню без слоў". Бо словы, знітаваныя з музыкай гімна пачынаюцца радком: "Германія, Германія, найвышэй за ўсё, найвышэй за ўсё ў свеце!" Немцы лічаць, што такія словы не могуць быць слоўнай эмблемай дэмакратычнай дзяржавы, якая хоча ткай нацыі больш балюча, чым ягоныя эканамічныя "эксперыменты". Рэч у тым, што наш суверэнітэт сёння мае апірышча не столькі ў эканоміцы і палітыцы (кіраўніцтва краіны нічога не робіць, каб хаця б паменшыць залежнасць ад усходняга суседа), як у культурнай галіне, у духоўнай сферы. Нарадзілася пакаленне, якое ўсведамляе сябе грамадзянамі Рэспублікі Беларусь. Праз некалькі год яны прыйдуць на выбарчыя ўчасткі... І гэтая акалічнасць не можа не турбаваць "бацьку".



Малюнак Л. РАЗЛАДАВА

мець добрыя стасункі з суседзямі, а вось на нашым "новым" гербе — Беларусь "über alles, über alles in der welt".

Вяртаючца з нябыту школьныя падручнікі па гісторыі ўзору 1991 года (тое ж і для вышэйшай школы). Там няма Беларусі як краіны, ёсць толькі Беларуская ССР як частка абшару ад Таліна да Уладзівастока. Гвалт над падручнікамі — гэта, па сутнасці, гвалт над адроджанай гістарычнай памяццю, а значыць, і над будучыняй нацыі. Ёсць рэчы, якія чалавек, выхаваны на "Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)", проста няздольны ўсвядоміць. А ўсё незразумелае выклікае трывогу. Вось каб не трывожыцца і вырашыў наш "бацька" па-бальшавіцку закрыць пытанне. "Ёсць гісторыя — ёсць праблема, няма гісторыі — няма праблемы". Гэтак, глядзіш, ён і пытанне з беларускай дзяржаўнасцю паспрабуе закрыць...

Прэзідэнцкае ўмяшанне ў сферу адукацыі ўспрымаецца свядомай час-

Галоўнае, чаму сённяшняя сітуацыя на Беларусі прымушае прыгадаць ГКЧП, — гэта тая ж стаўка на сілу, на гвалт у вырашэнні сацыяльных праблем. Нядаўні страйк працаўнікоў мінскага метро абвешчаны незаконным. Улада нават не шукала кампрамісу з забастоўшчыкамі. Іх проста замянілі машыністамі прыгарадных электрычак, якіх за адзін дзень навучылі кіраваць цягнікамі метрапалітэна. Мабыць, калі страйк аб'явяць урачы, прэзідэнт заменіць іх (на вялікую радасць хворым людзям) ветэрынарамі...

Жнівеньская спроба павярнуць грамадства, краіну ў "кастрычнік" у 1991 годзе правалілася. Богу не дападобы, калі нехта спрабуе лезці ў яго сцэнарый і "карэкціраваць" Гісторыю. Хто сёння памятае імёны гэкачэпістаў? Хто праз нейкі час прыгадае, як звалі гэтага — ну гэтага, як жа яго?..

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

Памяркуем

# "КВЕТАЧКІ" ЗАКРАСАВАЛІ...

10 гадзін раніцы — час навін на рэспубліканскім радыё. Што ў іх лічыцца навінамі, цяжка сказаць, бо ў дзень страйку Мінскага метрапалітэна ні слова пра надзвычайную падзею сказана не было. У дацкім каралеўстве, трэба разумець, поўны парадак... Калі я пазваніла ў рэдакцыю інфармацыі і пацікавілася, у чым справа, жаночы голас мне параіў раней уставаць, бо ў 7 гадзін па "Радыёфакту" пра гэта, маўляў, гаварылася...

Ну вось... Яны ўжо не толькі вызначаюць, па якіх падручніках і на якой мове вучыць нашых дзяцей, — рэжым дня нам пачынаюць устанаўліваць праз "кішэнны" эфір. Каб ведаць, што адбываецца ва ўласнай дзяржаве, трэба прыкласці намаганні: адшукаць у кіёсках незалежныя, цудам уцалелыя выданні, не прапусціць навін расійскага тэлеканала. Толькі там сказалі, якім чынам запрацавала наша метро. А "запушчаня" яно класічна, у добрых традыцыях краін капіталу — з дапамогай наспех перавучаных чыгуначнікаў, якія, вокам не міргнуўшы, прадалі "братоў па класу". Цікава, што пра гэта думае тав. Антановіч, дауні знаўца з буржуазнай ідэалогіяй і член таямнічай камісіі па падручніках?

Вернемся да пачатку забастоўкі. Ініцыятарамі яе былі транспартнікі Гомеля, іх падтрымалі тралейбуснае дэпо N 1 г. Мінска і той самы метрапалітэн. Першым кінулі костку — затрыманую палучку, і гэтага хапіла. Другія паказалі характар і паспрабавалі давесці, што справа не ў грашах. Што з гэтага атрымалася, мы бачым. Ёсць звесткі, што 16 машыністаў звольнена, 4 было затрымана. Многія з удзельнікаў страйку "раскаяліся" і ў панядзелак пайшлі працаваць назад. Іх зразумець не цяжка: сем'і, дзеці, жыць жа неяк трэба... Яны зараз апраўдваюцца тым, што не вылучалі палітычных патрабаванняў. Таму й прайгралі, што не вылучалі, плюс апатыя астатніх пралетарыяў.

І ўсё ж, патрабаванні машыністаў — рабочай эліты — не былі цалкам эканамічнага характару. Хутчэй яны палягалі ў сферы маралі, бо тыкаліся асобы кіраўніка і пачуцця самапавагі. Той жа, вакол каго запахла паленым... тэрмінова захварэў. Звыклы наменклатурны прыём, калі не знаходзіцца іншага выйсця, як пакінуць поле бою. У. Набешка палічыў за лепшае і на суд не з'явіцца, дзе разглядаецца справа аб незаконнасці забастоўкі. Прысутнасць міліцыі ў падземцы сведчыць пра тое, што канфлікт не вычарпаны, і невытлумачальная ўпартасць улад можа яшчэ адгукнуцца.

Тым часам свабодныя прафсаюзы мусяць збірацца і абмяркоўваць становішча. Частка тэрыторыі на плошчы Свабоды, дзе знаходзіцца іх цэнтр, была ачэплена. Прэса не дапускалася. Камандуючы ўнутранымі войскамі даў загад высвятліць, хто з журналістаў вёў здымкі. Наўрад ці рваліся туды прадстаўнікі нашай тэлерадыёкампаніі. Паўла Шарамета, былога яе супрацоўніка, каторы раз "па-харошаму" папярэдзілі.

Там і тут на палосах газет мы ўсё часцей бачым мілагучнае рускае прозвішча "Замяталін". Гэткі кардынал Рышэльё пры Яго Вялікасці... Адзін з нямногіх памочнікаў Кебіча, каму "даравалі" і каго далуцілі да сябе А. Лукашэнка. Гэта само па сабе наводзіць на роздум і схіляе да малапрыемных высноў. "Каму служыш, таварыш Замяталін?" — з бясхітраснай праматой спыталі б у часы, калі рос і фармаваўся гэты чалавек.

І вось зараз уся моц ідэалагічнай замяталінскай прапаганды накіравана на сотню рабочых людзей, якія пасмелі быць нечым незадаволенымі ў найлепшай з рэспублік. Ім адразу паказалі, да чаго гэта прыводзіць і што чакае іншых смельчакоў у такой дэмакратычнай краіне, як наша.

Здаецца, закрасавалі "кветачкі". Будуць і "ягадкі" неўзабаве, і выспеляць іх як аб'ектыўныя ўмовы, так і лінія паводзін прэзідэнта.

Неспакойны месяц жнівень шмат каму адкрые вочы і шмат для каго стане сапраўдным урокам мужнасці і грамадзянскага сталення.

**Г. К.**

Фестывалі

# НЯСПРАЎДЖАНАЕ АДКРЫЦЦЁ

## НАПЯРЭЙМЫ ЭДЫНБУРГСКАМУ ФЕСТЫВАЛЮ "FRINGE"

Падобна, што абяцанае спадаром прафесарам Рычардам Дэмарка шатландскай публіцы адкрыццё Беларусі на фестывалі ў Эдынбурзе, не спраўдзілася. Сцэнічныя пляцоўкі і пляцовачкі Сэнт Мэры скул ніяк не стасаваліся са складанымі беларускімі спектаклямі. Пад творамі фотамайстроў Уладзіміра Парфянка і Ігара Саўчанкі за два тыдні так і не з'явілася ні подпісаў, ні прозвішчаў. Іх, праўда, можна даведацца са знакамітага "Фотаманіфесту" — кнігі амерыканскага выдання. На абмеркаванне працы віцебскіх мастакоў Васільевых так і не знайшлося часу. На лекцыі рэктара міжнароднага інстытута па радыеэкалогіі імя А. Сахарава Аляксандра Люцко здолеў папрысутнічаць хіба... Вітаўтас Лансбергіс ды перакладчыкі беларускіх тэатральных гуртоў. Беларускім днём, пра які мы размаўлялі са спадаром Дэмарка яшчэ ў Мінску, зрабіўся... дзень нараджэння аднаго з беларускіх рэжысёраў. Таксама падстава для абмеркавання мастацкіх праблем?

Шкада. Прыезд беларускіх тэатраў у Эдынбург дорага абышоўся і самім тэатрам, і тэатральным спонсарам. Напрыклад, выдаткі Альтэрнатыўнага тэатра ўзяла на сябе брытанска-японская карпарацыя ОКІ. Яна выканала ўсе свае абяцанні. Пра Еўрапейскі фонд мастацтваў Дэмарка гэтага не скажаш. Фонд парушыў амаль усе пункты дамовы з альтэрнатыўнікамі. А дакляраваныя сняданкі ды абеды ў школе Святой Марыі шмат каму з беларускіх акцёраў здаліся проста зняважальнымі.

Чакаем спадара Дэмарка з абяцаным візітам на Беларусь у верасні: да канца фестывалю фестывальляў засталося два тыдні. Дарэчы, на якім жа з іх, шасці па ліку (аднначасова!) прадстаўляліся беларускія тэатры "Дзе-Я?", "Вольная сцэна" ды Альтэрнатыўны? Спадар Дэмарка называў спачатку найпрэстыжны Міжнародны эдынбургскі фестываль, дзе працуюць знаныя прафесійнікі з усяго свету (да прыкладу, сёлета прадстаўлены Кіраўскі тэатр з Пецярбурга з операй і балетам). Потым у размовах (яшчэ ў Мінску) і афармленні дамоваў фігураваў не менш знаны і папулярны "Fringe". Я адшукала сваіх усіх у праграме "Fringe", аднак пра гледачоў, рэкламу і нават пра сціплыя апавесткі (штодзе-калі) тэатры мусілі клапаціцца... самі. Такім чынам, ашчаджалі не адно на акцёрскіх страўніках, але і на амбіцыях.

І тым не менш "The Skotsman" у фестывальным дадатку змясціў некалькі водгукаў на беларускія спектаклі, даў ім неблагія ацэнкі. На апошніх спектаклях — "Рычард III" (рэжысёр В. Анісенка) і "Чорт і баба" (рэжысёр М. Трухан) — публікі было шмат. Альтэрнатыўны тэатр, нягледзячы на пэўную цікавасць да "Апошняй стужкі Крэпа", даіграць запатрабаванае Еўрапейскім фондам мастацтваў Дэмарка адмовіўся. Дырэкцыя "Fringe" не здзівілася гэткаму рашэнню, калі даведалася пра ягоныя падставы. Здаецца, не здзівіўся і сам спадар Дэмарка. Зрэшты, Усходняя Еўропа вялікая, тэатраў — мноства, а дзень народзінаў у Эдынбурзе са смажанай лустаю і бобам — чаму б не адсвяткаваць?

"Fringe" толькі пачаў убірацца ў сілу, калі беларускія тэатральныя гурты пакідалі Эдынбург. Вылюднела і занядбаная школа Святой Марыі — прыбралася смецце, з'явіліся шыльды, расклад, апавесткі.

Зрэшты тое, што выпала пабачыць на пляцоўках ды пляцовачках школы Святой Марыі па бальшыні сваёй было і адметным, і прафесійным. Толькі вось сумясціць у адным апавядзе захапленне мастацкімі праявамі ды ацаніць праявы побыту я не здужала. Чытайце наступны "ЛіМ"...

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Эдынбург — Мінск*

# ЗАМАХ НА БУДУЧЫНЮ НАЦЫІ

Распараджэнне прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі аб выключэнні падручнікаў узору 1992—1995 гадоў з сістэмы школьнай і вышэйшай адукацыі з'яўляецца, паводле нашага перакананння, працягам небяспечнай палітыкі, пачатай рэферэндумам 14 мая 1995 года. Новы крок вярхоўнай улады — не што іншае, як замах на духоўную і інтэлектуальную свабоду нацыі, а значыць, на яе будучыню.

Тое, што пад забарону трапляюць усе без выключэння новыя падручнікі гуманітарнай сферы, перакрэслівае велізарную працу ў пераарыентацыі на сусветны ўзровень адукацыі, у вяртанні гістарычнай праўды і вызваленні грамадства ад дурману таталітарызму. Сістэма нацыянальнай адукацыі будзе адкінутая ў мінулае і не здолее даць краіне духоўна свабодных і высокаадукаваных грамадзянаў, гатовых да жыцця ў сучасным дэмакратычным свеце.

На практыцы рэалізацыя распараджэння азначае, што ў новым навучальным годзе школьнікі і студэнты застануцца без падручнікаў гісторыі, мовы, літаратуры і іншых гуманітарных дысцыплінаў, якія фармуюць светапогляд асобы. Можна ўявіць колькі будуць каштаваць дзяржаве падрыхтоўка і выданне новых падручнікаў. А дзе гарантыя, што іх абяцанае "шырокае грамадскае рэцэнзаванне" не будзе такім самым "публічным", як дзейнасць таямнічай экспертнай камісіі, матэрыялы якой сталі падставаю прэзідэнцкага рашэння?

Робіцца спроба павярнуць гісторыю назад, хоць досвед еўрапейскіх краінаў, у тым ліку і бліжэйшых суседзяў Беларусі, сведчыць, што падобныя сацыяльна-палітычныя эксперыменты раней ці пазней канчаюцца крахам.

**Васіль БЫКАЎ, народны пісьменнік Беларусі;**
**Ніл ГІЛЕВІЧ, народны паэт Беларусі;**
**Рыгор БАРАДУЛІН, народны паэт Беларусі;**
**Уладзімір АРЛОЎ, віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра;**
**Святлана АЛЕКСІЕВІЧ, пісьменніца;**
**Васіль ЗУЁНАК, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў;**
**Карлас ШЭРМАН, віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра;**
**Генадзь БУРАЎКІН, лаўрэат дзяржаўнай прэміі Беларусі;**
**Сяргей ЗАКОННІКАЎ, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі;**
**Анатоль КУДРАВЕЦ, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.**

Рэпліка

# ЛЯЦЯЦЬ "ВУТКІ" СЯРОД ЛЕТА...

"Дзве трэціх кіяўлян за інтэграцыю з Расіяй", — так сцвярджала карэспандэнцыя "Звязды" за 4 жніўня г. г., падпісаная абрэвіятурамі УНІАН-БелаПАН. Гэта выглядала так, быццам аўтарства належыць абодвум агенцтвам, украінскаму і беларускаму. Апытанне ж праводзіла фірма "Ukraine Sociology Service" па заказу агенцтва УНІАН.

На дадзеныя гэтага апытання спасылаецца і маскоўская газета "Коммерсантъ-DAILY" за 12 жніўня, прычым вывады робіць дыяметральна супрацьлеглыя. Анонс нумара выглядае так: "Украинцы не хотят обратно в СССР". Прывядзём фрагмент тэксту: "Опросы показывают, что украинцы не горят желанием воссоздавать с Россией единое государство. За это высказалось лишь 22,8% киевлян, опрошенных "Ukraine Sociology Service".

У пацвярджэнне прыводзяцца красамоўныя лічбы. Пра паходжанне БелаПАНаўскага загалоўка, які, разам з матэрыялам, маглі надрукаваць многія нашы газеты, можна толькі здагадвацца.

Так ці інакш, перад намі — самая звычайная газетная "вутка". Дазволім сабе яшчэ адну цытату з "Коммерсантъ-DAILY": "Каково общее впечатление от результатов опроса? Во-первых, ясно, что ошибочно довольно широко распространенное в России обывательское мнение, что, мол, "неблагодарные" бывшие братские республики, столь поспешно отделившиеся от матушки-России, скоро будут сыты по горло своим суверенитетом и запросятся обратно. Не запросятся. Во-вторых, преобладающие среди украинцев настроения показывают, что всякие сомнения насчет крепости государственной идеи в республике (в силу слишком долгого отсутствия национальной государственности), как, например, в Белоруссии, совершенно беспочвенны — идея эта овладевает все большим числом граждан Украины".

Як інтэрпрэтуе адны і тыя ж лічбы ўкраінская прэса — невядома.

**Наш. кар.**

# НЕ ДАДЗІМ ЗНІШЧЫЦЬ РОДНУЮ МОВУ

## ЗВАРОТ ДА ГРАМАДЗЯНАЎ БЕЛАРУСІ

Дарагія людзі!

Ганебны, навязаны народу рэферэндум, інспіраваны вялікадзяржаўнымі, імперскімі сіламі Расіі, праведзены яго ініцыятарамі ў парушэнне адлаведных законаў і палажэнняў дзейснай Канстытуцыі, паставіў пад смяротную пагрозу лёс беларускай мовы — бясцэннага скарбу нашага народа, усёй славянскай і сусветнай культуры.

Адчуваючы падтрымку прэзідэнцкага кіраўніцтва, пры патуранні Міністэрства адукацыі і навукі, шавіністычна, па-русіфікатарску настроеныя дырэктары і настаўнікі ў шмат якіх школах, не толькі сабатуюць утварэнне беларускіх першых класаў, але і падбухторваюць бацькоў, каб тыя яшчэ раз "выказалі сваё волевыяўленне" ды змянілі мову навучання сваіх дзяцей, якія ўжо некалькі гадоў вучацца па-беларуску. Фактычна поўным ходам вядзецца праца па расфармаванні беларускамоўных класаў. Гэткі ж працэсназіраецца і ў дзіцячых садках. У многіх беларускіх (паводле статусу) школах, парушаючы нават фармальную роўнасць моваў, утвараюцца рускамоўныя першыя класы, хоць у тым жа Мінску амаль палова школаў — рускамоўныя, і ў іх могуць вучыцца ўсе ахвотныя. Такім чынам разбураецца беларускае школьніцтва, нішчыцца перспектыва стварэння сістэмы нацыянальнай адукацыі краіны.

З мэтай згортвання нацыянальна-патрыятычнага выхавання вучняў пераглядаюцца школьныя праграмы і падручнікі, у тым ліку толькі што створаныя кампетэнтнымі навукоўцамі па гісторыі нашай Айчыны — на беларускі народ зноў імкнуцца надзець ярмо каланіялізму, зноў хочуць пасеяць у душах беларусаў семя рабскай псіхалогіі.

Тыя сілы, што так моцна крычаць пра славянскую еднасць ды братэрства, на самай справе прыкладаюць усе намаганні, каб знішчыць мову, культуру, духоўнасць сапраўды братняга для ўсіх славянаў (і не толькі славянаў) беларускага народа.

Марная справа звяртацца па справядлівасць да сённяшніх кіраўнікоў дзяржавы, якія ў сваёй варожасці да найважнейшых каштоўнасцяў народа — незалежнасці, мовы, гістарычных сімвалаў, дэмакратыі — пайшлі на злачынства, правёўшы яго праз ганьбу самагубнага рэферэндуму.

Прэзідэнт і ягоныя памагатыя-палітрукі, верхаводзячы ў сістэме нацыянальнай адукацыі, занятыя цяпер (на смех усяму свету) то прыдумваннем адыёзных тэмаў сачыненняў ці неверагоднай складанасці беларускіх дыктовак для абітурыентаў ВНУ; то пераробкай на свой капыл беларускай гісторыі; то ўвядзеннем у ВНУ "вертыкальна"-паліцэйскага рэжыму ўступных экзаменаў.

Марна было б ушчуваць і тых, хто, жывучы на нашай зямлі, карыстаючыся гасціннасцю і цярплівасцю яе народа, ненавідзіць усё беларускае, марыць пра аднаўленне былой імперыі, хто сёння з шалёным імпэтам здзяйсняе ў Беларусі выпрабаваны стагоддзямі імперскі прынцып: "што не змог зрабіць рускі штык, даробіць руская школа". З такімі ў дэмакратычных краінах гавораць мовай закона пракуратура і суд.

Але ў Беларусі ўсталявалася ўлада беззаконня. Таму толькі няўхільнае выкананне Канстытуцыі, у якой беларуская мова зацверджана, як адзіная дзяржаўная мова; свядомае супрацьдзеянне спробам знішчэння нацыянальнай школы і культуры дазволяць перамагчы антыдзяржаўныя, антыбеларускія сілы.

Мы звяртаемся да тых бацькоў-беларусаў, чые дзеці сёлета пойдуць у першы клас ці прадоўжаць сваю вучобу ў наступных беларускіх класах. Шаноўныя бацькі! Аддавайце дзетак у беларускія класы. Захавайце паўсюль тыя класы, што ўжо існуюць. Не пазбаўляйце сваіх дзяцей будучыні — не адрывайце іх ад родных каранёў. Не дайце сфармавацца ў іх душах здраднай пагардзе да роднай мовы, культуры, гісторыі. Сёння Вы ў іх адымеце родную мову, як некалі яе адабралі ў Вас, а заўтра гэта абернецца здрадаю вашых дзяцей не толькі Айчыне, але і вам самім. Маці, Бацькаўшчыну, родную мову не выбіраюць. Яны нам дадзены прыродай і гісторыяй. Наш ганаровы абавязак іх любіць, шанаваць, берагчы і абараняць.

Мы звяртаемся да нашых суграмадзянаў, прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў: рускіх і палякаў, украінцаў і татараў, яўрэяў, літоўцаў і іншых. Толькі незалежная, дэмакратычная, заможная, з квітнеючай культурай і моцнай нацыянальнай адукацыяй Беларусь гарантуе развіццё на нашай агульнай Радзіме і вашых культураў і нацыянальных школаў. Дык падтрымайце ж сёння беларускую мову, найперш вучачы сваіх дзетак па-беларуску, дапамажыце ёй у гэты няпросты час.

Мы звяртаемся да беларускай творчай і навуковай інтэлігенцыі. Узвысце на поўную моц свой голас, скажыце сваё рашучае, важкае слова ў абарону самага святога, што ёсць сёння ў нас — матчынай мовы.

Дарагія суайчыннікі! Мы перакананыя, што сённяшняя змрочная часіна міне. Беларусь скіне з сябе чорную навалу і ачмурэнне, каб назаўжды сцвердзіць сваю мову і культуру, верне праўдзівую гісторыю і свае святыя сімвалы — зойме, як прарочыў наш геніяльны паэт, "свой пачэсны пасад між народамі". Мы цвёрда верым: будучыня нашай Бацькаўшчыны — светлая і прыўкрасная. Дык жа будзьма вартымі гэтай будучыні, наблізім яе.

Жыве Беларусь!

Жыве беларуская мова!

**Грамадскі Каардынацыйны камітэт абароны беларускай мовы.**

## НАВАГРУДКУ — 950!



**Свой 950-гадовы юбілей рыхтуецца адзначыць адзін са старэйшых гарадоў Беларусі — Навагрудак.**

**За сваю доўгую гісторыю ён меў розныя назвы: Ноўгарад і Навагародак, Ноўгарадзец і Наваградак. І жылі тут людзі працавітыя, якія займаліся земляробствам і ганчарствам, выплаўкай жалеза і ювелірным промыслам. Але былі іх рукі звыклыя і да мяча і шчыта. Не раз зыходзіліся яны ў бітве пад сценамі горада з татарамі, крыжаносцамі, шведамі... Старажытныя камяні Навагрудка помняць поступ Міндоўга і Вітаўта, Трайдэна і Баторыя. Навагрудская зямля дала свету не толькі вялікіх воінаў і палітыкаў. Яна нарадзіла і выхавала цэлую плеяду асветнікаў, паэтаў, філосафаў. Адам Міцкевіч і Уладзіслаў Сыракомля, Ян Чачот і Ігнацій Дамейка, Тамаш Зан і Яфім Карскі... Гэтыя і многія іншыя імёны — гонар старажытнага горада, які помніць і шануе іх памяць.**

**Яўген КАЗЮЛЯ,**
**БЕЛІНФАРМ**



*На здымках: сведкі гісторыі і веліч Навагрудка; помнік паэту Адаму Міцкевічу.*

## У "ГРАМАДЗЯНІНА" ЁСЦЬ СВОЙ ТВАР

**У Грамадзянскай партыі з'явілася свая газета — "Грамадзянін". Не так даўно выйшаў яе пробны нумар, затым нулявы, а цяпер і першы. Пакуль гэта — штомесячнае выданне, а ў перспектыве мяркуецца, што "Грамадзянін" стане штотыднёвікам, а далей, як кажуць, час пакажа. Як гаворыць у звароце да чытача галоўны рэдактар "Грамадзяніна" Я. Агурцоў, "мэта газеты — публікуючы шматграннейшы спектр меркаванняў па розных пытаннях нашага жыцця, расказваючы аб зусім непадобных партыях і людзях, прадстаўляючы часам палярныя эканамічныя сістэмы — паспрабаваць пераканаць чытачоў у тым, што толькі мы самі зможам пабудаваць утульны еўрапейскі дом — Беларусь".**

**Пра тое, што Грамадзянская партыя і сам "Грамадзянін" не збіраюцца, як кажуць, ад іншых аддзяляцца, сведчаць і матэрыялы першага нумара. У ім даецца слова старшыні выканкома АДПБ М. Пліско, палітычнаму аглядальніку "БДГ" А. Фядуту, генеральнаму сакратару Эканамічнага суда СНД В. Ганчару, намесніку старшыні БНФ Ю. Хадыку, члену Нацыянальнага камітэта ГП Л. Злотнікаву, старшыні БСДГ М. Статкевічу і іншым.**

**Змешчана таксама гутарка Я. Агурцова з лідэрамі партый: Грамадзянскай — В. Шлындзікавым і Аб'яднанай дэмакратычнай — А. Дабравольскім ("У нас няма супярэчнасцяў").**

**Жаданыя аўтары на старонках "Грамадзяніна" і пісьменнікі. М. Мятліцкі ("Выбар і выбары") разважае пра ход нядаўняй выбарчай кампаніі. А. Дудараў ("Мужчына не павінен быць бедным...") адказвае на пытанні С. Бартахавай.**

**Час пакажа, наколькі "Грамадзянін" зойме сваё месца сярод шматлікіх перыядычных выданняў нашай дзяржавы. Адно несумненна, што газета, як бачна з першага нумара, імкнецца мець свой твар.**

*Адгалоскі*

# ТУТ НІ ДАДАЦЬ, НІ АДНЯЦЬ...

## РОЗДУМ НАД АДНОЙ ПУБЛІКАЦЫЯЙ

*...Когда кремлевскими стенами*
*Живой от жизни огражден,*
*Как грозный дух он был*
*над нами, -*
*Иных не знали мы имен.*
*Гадали, как еще восславить*
*Его в столице и селе,*
*Тут ни убавить,*
*Ни прибавить, —*
*Все это было на земле.*
*(А. Твардоўскі, "За даллю — даль".)*

Было тое ў маім раннім, яшчэ даваенным маленстве. Старэйшая з сясцёр прынесла аднаго разу са школы прыгожа афармленую кніжачку. Кніжачка тая была незвычайнай: на старонках яе быў змешчаны тэкст "Пісьма вялікаму Сталіну ад беларускага народа". Трэба сказаць, што ў сям'і нашай быў своеасаблівы культ кнігі, па вечарах наладжваліся гучныя чытанні. Не стала выключэннем і "Пісьмо...". Тады і адклаліся ў памяці асобныя радкі і нават строфы. Тым больш што і я сам перачытаў гэтае ўзнёслае пасланне вялікаму правадыру (балазе, чытаць навучыўся ў пяць год). Гэтаксама запаміналіся песні пра Сталіна, якія гучалі з грамафонных пласцінак (радыё мы не мелі). Накшталт той, дзе "казачэнькі" запрашалі правадыра да сябе ў госці: "Приезжай, товарищ Сталин, приезжай, отец родной".

А праз добры дзесятак гадоў, калі слава Сталіна дасягнула свайго эпагею, твор гэты мне прыйшлося вывучаць нараўне з паэмамі Купалы і Коласа ў дзесятым класе на ўроках беларускай літаратуры. Больш таго, нават пісаць сачыненне па "Пісьму..."

Прызнацца, мне праз гады карцела перачытаць гэты твор, проста дзеля цікавасці. Чытаем жа оды прыдворных паэтаў, што ўслаўлялі "могучих мира сего" розных эпох.

Выпадак такі нядаўна прадставіўся. Зайшоў у лагойскую бібліятэку, папрасіў паглядзець свежую пошту. Разгарнуў апошні нумар часопіса "Крыніца" і быў нечакана здзіўлены: на апошніх старонках надрукавана тое самае "Пісьмо..." Прабегся вачыма па тэксце — знаёмыя з дзяцінства радкі:

**Хай смутак вачэй тваіх добрых не росіць,**
**Ці сонейка захад, ці сонейка ўсход.**
**Прымі прывітанне, якое прыносіць**
**Табе, правадыр, беларускі народ.**

Аўтары "Пісьма...", а ў іх ліку паэты Я. Купала, Я. Колас, П. Броўка, П. Глебка, А. Александровіч, І. Харык, выконвалі найважнейшы сацыяльны, ідэалагічны заказ. І выканалі яго па мерках таго часу з поспехам. Цяпер цяжка сказаць, што вадзіла іх калектыўным пяром, у якой меры яны праявілі сапраўдную шчырасць, творчае натхненне. Хутчэй за ўсё, у тых мясцінах, дзе расказваецца пра свой край, пра яго шматпакутны лёс. У раздзеле, што пачынаецца словамі "А было нядаўна, а было калісьці, калі мы з зямелькі не мелі карысці", яўна адчуваецца купалаўскі голас, яго стылёвая інтанацыя.

Увогуле ж расказ пра дасягненні беларускага народа пры савецкай уладзе перасыпаны штампамі тыпу: "гімн перамогі савецкіх жанчын", "мы гордыя славай сваіх перамог", „сцяг славы здабытай нясём з году ў год", "як добра, як весела стала нам жыць". А то і проста зарыфмавана звычайная газетчына: "Так працуе таварыш Батоўкін Мікіта, спрактыкованы конюх з калгаса "Окцябр". А хіба не здзекам успрымаюцца сёння наступныя радкі, дзе гаворыцца пра беларускую мову: "Мы расцілі яе клапатліва, надзейна, за яе правялі мы з нацдэмамі бой". Цяпер нам добра вядома, колькі сапраўдных патрыётаў Айчыны было загублена толькі за тое, што былі яны прыхільнікамі беларушчыны, роднай мовы. Такім і навешвалі ярлыкі "нацдэмаў", "ворагаў народа". Блюзнерства бачыцца і ў радку "У Віцебску сілы згуртоўваў Яжоў". Той самы Яжоў, імя якога асацыіруецца ў нашай свядомасці з генацыдам 30-ых гадоў.



*Малюнак Л. РАЗЛАДАВА*

Тыя, каму выпала жыць пры сталінізме, добра памятаюць, як у песнях і вершах, у фільмах і жывапісе на ўсе лады, не шкадуючы эпітэтаў і параўнанняў, услаўлялі, абагаўлялі правадыра, бюсты якога ставілі нават на паднябесных горных вяршынях, а партрэты малявалі на недаступных уцёсах. Твор, пра які ідзе размова, — яшчэ адзін прыклад бязмернага ўхвалення Сталіна.

Мы ведаем, як абышоўся "мудры" правадыр з тымі, хто служыў яму верай і праўдай, хто рабалепстваваў перад ім. Слепа адданыя свайму куміру, яны і паміралі на краі свежавыкапанай ямы са словамі "Няхай жыве вялікі Сталін!" Не выратавала ад рэпрэсій і смерці паэтаў Андрэя Александровіча і Ізі Харыка тая акалічнасць, што яны з'яўляліся сааўтарамі вершаванага паслання Сталіну.

Пасля перачытвання "Пісьма беларускага народа вялікаму Сталіну", рука мая міжволі пацягнулася да выйшаўшай не так даўно кнігі У. Адамушкі "Палітычныя рэпрэсіі на Беларусі ў 30-50 гады". Кнігі, радкі якой апякаюць сэрца. Які жахлівы кантраст з тымі дыфірамбамі, што вышывалі шоўкам беларускія майстрыхі, каб перадаць потым у дарунак крамлёўскаму дыктатару. Вось яна, праўда, якую хавалі ад народа, ад імя якога паднасілі правадыру пасланне, фальшывае ў самай сваёй аснове.

Як доказна сцвярджае У. Адамушка, у 30-50-ыя гады неабгрунтавана рэпрэсіравана ў адміністрацыйным парадку 349 тысяч грамадзян рэспублікі, а агульная лічба ахвяр палітычных рэпрэсій у Беларусі складае каля 600 тысяч чалавек. За гэты ж час за "контррэвалюцыйныя злачынствы" было прыгаворана да вышэйшай меры пакарання звыш 35 тысяч чалавек. Не будзе памылкай лічыць, што сярод іх былі і тыя з двух мільёнаў "працоўных Савецкай Беларусі", што падпісалі хвалебную оду вялікаму Сталіну.

**Віктар НЕСЦЯРОВІЧ**

*г. Лагойск*

*Анонс*

## СВЯТА Ў "АКОПАХ"

26 жніўня ў музеі-сядзібе "Акопы", які працуе ў вёсцы Харужанцы на Лагойшчыне, пройдзе Свята паэзіі — Спасаўскі кірмаш. Удзельнікі свята ўскладуць кветкі да помніка вялікаму паэту, агледзяць экспазіцыю музея Янкі Купалы, прымуць удзел у адкрыцці фотавыставы Альберта Цэхановіча "Аб гэтых блізкіх мне, а цесных так мясцінах..." (Сцежкамі Янкі Купалы).

У гэты ж дзень святары асвецяць Купалаву крынічку, якая выбіваецца з глыбінь зямлі, як сімвал невычэрпнай паэзіі Янкі Купалы. А апоўдні, у амфітэатры, на зялёнай паляне, пачнецца паэтычна-музычны Спас, у якім прымуць удзел вядомыя паэты, фальклорныя калектывы і артысты.

На працягу дня — гасцяванне ды гулянне, падарункаў выбіранне, частаванне, смакаванне, танцам, песняй паяднанне, кірмашова забаўлянне.

Дабрацца ж у вёску Харужанцы не так і цяжка. Ад аўтастанцыі "Кульман" ходзіць рэйсавы аўтобус Мінск-Янушкавічы, які адпраўляецца ў 7-30 і 10-00. Ідзе аўтобус па Даўгінаўскаму тракту, якому паэт прысвяціў радкі прызнання:

**Знаёмы гэты мне шлях**
**родны, —**
**Даўгінаўскі вядомы шлях.**

**Мікола ЧЫРСКІ**

***Пазваніў знаёмы, пачаўшы з нечаканага пытання: "Ты помніш карціну рускага мастака-перасоўніка Макоўскага "Крах банка"?". Я адказаў, што нешта такое, не вельмі дакладнае па дэталях, помніцца. Здаецца, шматфігурная кампазіцыя — банкаўская зала, па якой мітусяцца разгубленыя людзі, падлога, усыпаная паперамі, на пярэднім плане жанчына, уся постаць якой выказвае глыбокі адчай — заліты слязьмі твар, нервова абхоплены рукамі... Нешта прыблізна такое. "Так, так, — узрадаваўся мой суразмоўнік, — калі не паленуешся, з'ездзі на Казлова, 18, там нажывую пабачыш карціну Макоўскага".***

# "МММ" — ПА-БЕЛАРУСКУ?

На Казлова, 18, што, бадай, у самым цэнтры сталіцы, у двары дома я ўбачыў усхваляваны натоўп, які складаўся з пераважна сталых людзей. З асобных выкрыкаў, якія час ад часу пераходзілі ў істэрычны жаночы лямант, мала-памалу пачала вымалёўвацца карціна таго, што адбылося з гэтымі людзьмі. Усе яны, як аказалася, з'яўляліся кліентамі фірмы, што яшчэ ўчора тут атабарвалася. Калі ж сёння раніцай людзі прыйшлі па разлік, яны знайшлі ўваходныя дзверы зачыненымі і апячатанымі, а каля іх міліцыянера, які, не хаваючы ўсмешкі, сказаў, што фірма "приказала долго жить", што грошыкі іх "плакалі", бо гаспадары фірмы з імі збеглі...

Я выйшаў са двара і, азірнуўшыся, убачыў прымацаваную да брамы вялікую жоўтую шыльду: "Адкрытае акцыянернае таварыства "Тэхінпрамгруп". Адно з утварэнняў, што апошнім часам расплодзіліся па нашых "городах и весях", прыцягваючы ўвагу трыма таямнічымі нулямі, якімі пазначаны іх назвы і якія на самай справе азначаюць абрэвіятуру з трох літар — "О", па-руску: "Общество с ограниченной ответственностью" — таварыства з абмежаванай адказнасцю.

І хоць такі тып камерцыйнага утварэння юрыдычна ўзаконены (з "абмежаванай адказнасцю" — значыць, як мне растлумачылі кампетэнтныя людзі, з адказнасцю ў межах статутнага фонду фірмы), вызначэнне гэтае, дальбог, хочацца ўспрымаць літаральна. Не толькі што з "абмежаванай", а наогул без усякай адказнасці перад богам і людзьмі. Ну, як там перад богам, а перад людзьмі і дзяржавай — гэта дакладна. Сёння толькі ў Мінску ўзбуджаны крымінальныя справы супраць 12 фірмаў па фактах прыцягнення сродкаў грамадзян без дазволу на гэта Нацыянальнага банка рэспублікі, г. зн. не маючы яго ліцэнзіі. У выніку, падманутымі, абкрадзенымі аказаліся дзесяткі тысяч грамадзян.

Тут мне хочацца зрабіць адступленне, каб больш да гэтых маральных матэрый не вяртацца. Справа ў тым, што так званая грамадская думка настроена калі не варожа, дык, усё-такі, непрыязна да людзей, што сталі ахвярамі гэтых кампаній. Маўляў, не трэба было квапіцца на лёгкія, не заробленыя мазалём грошы. Але давайце глядзець праўдзе ў вочы. Ніякія папярэджанні не давяраць гэтак званым фінансавым пірамідам накшталт маскоўскай "МММ" Сяргея Маўродзі не могуць вынішчыць у чалавеку прыроднага азарту Homa Ludens — чалавека гуляючага. Мабыць, цяжка знайсці чалавека, які б ніколі не купляў білетаў грашовых і рэчавых латарэй, розных там "Спрынтаў", "Лота-мільёнаў" і да т. п. Хай і без асаблівай надзеі атрымаць вялікі выйгрыш. Ну, а тут, калі фірма дзейнічае абсалютна легальна, а, значыць, па дазволу дзяржавы, калі рэкламу сваю, так бы мовіць, салідную, выгады, якія абяцаюць кліентам, праз усе літаральна сродкі масавай інфармацыі, калі з падобнай рэкламай сутыкаешся на кожным кроку (рэклама таго ж "Тэхінпрама" спусцілася і пад зямлю ў выглядзе ўлётак, прымацаваных да вокнаў вагонаў цягнікоў у метро, "узляцела" ў паветра — назву фірмы можна было ўбачыць на рэкламным "паветраным" шары, што красаваўся над дахам вышыннага дома на рагу вуліц В. Казлова і праспекта Ф. Скарыны), ці будзеш тады асуджаць чалавека, што паверыў у такую магчымасць аблегчыць сваё цяжкое жыццё. Ва ўсякім разе, для большасці грамадзян. Тым больш, для пенсіянераў, якія пастаўлены грамадствам на мяжу выжывання. І тут нельга не пагадзіцца з аўтарам артыкула, змешчанага ў адным з апошніх нумароў "Советской Белоруссии", дзе таксама закранаецца тэма апошніх фінансавых скандалаў, які піша: "Сутнасць адна — людзі, а гэта ў пераважнай большасці пенсіянеры, аддалі апошнія зберажэнні і зараз адчуваюць сябе абрабаванымі. Дарэчы, не толькі "адчуваюць": многія з іх сапраўды засталіся без капейчыны, той самай, што збіралася на "чорны" дзень... Сярод іх няма ні біржавых ігракоў, ні авантурыстаў. Гэта, паўтараю, у масе сваёй сталыя, спрацаваныя людзі, шмат былых франтавікоў..."

Дадамо толькі, што не на базары, не ў трамваі, дзе, як кажуць, "на чужой роток не накинешь платок", а ў некаторых органах дзяржаўнай улады, якая ў нашым разуменні павінна выступаць гарантам бяспекі грамадзян, у тым ліку і ад рознага роду махляроў, мне давялося сутыкнуцца з непрыхаваным зларадствам на адрас людзей, што пацярпелі ад ліпавых кампаній. Маўляў, так ім і трэба. "Колькі разоў гучала ў прэсе папярэджанне старшыні праўлення Нацбанка Беларусі Багданкевіча, каб людзі не неслі грошы ў гэтыя падазроныя траставыя кампаніі, што працуюць без ліцэнзіі, — гаварыла мне загадчыца аддзела эканомікі і рыначных адносін Савецкага райвыканкама г. Мінска В. Жукоўская, якая, дарэчы, у лютым гэтага года акурат і зарэгістравала той "Тэхінпрам", г. зн. дала яму пуцёўку ў жыццё. — Не, каб панесці свае зберажэнні ў Дзяржашчадбанк, — працягвала яна, — дык, бачыце, пакваліліся на высокія працэнты".

Кажучы папросту, хітрыла ў нечым гэтая рашучая з выгляду жанчына, папракаючы "несвядомых" грамадзян у ігнараванні ашчаднага банка, што працуе пад эгідай дзяржавы. Не магла не ведаць яна, што ў людзей даўно памерла вера ў гэтыя дзяржаўныя фінансавыя ўстановы. Не магла не помніць, што на самым пачатку дзевяностых гадоў у адзін "цудоўны" дзень дзесяткі мільёнаў укладчыкаў па ўсім былым Савецкім Саюзе апынуліся ля "разбітага карыта", іх зберажэнні, давераныя дзяржаве, ператварыліся ў прах, у нішто. І ці не таму людзі зараз кінуліся ў абдымкі камерцыйных структур, якія абяцаюць ім ледзь не залатыя горы, толькі даверся ім... Праўда, спадарыня Жукоўская распавяла мне, што працуючы ў свой час у партыйных органах, а цяпер у савецкіх, не магла дазволіць сабе раскошы трымаць грошы ў ашчадным банку, з чаго можна было зрабіць высновы, што менавіта гэтая катэгорыя нашых грамадзян у матэрыяльным сэнсе была (і ёсць) самая занядбаная. Што і казаць, старое паданне, ды верыцца ў яго з цяжкасцю...

Прыблізна ў такім ключы пачалася ў нас гаворка і з намеснікам начальніка Мінскага гарадскога ўпраўлення па антыманапольнай палітыцы і развіцці прадпрымальніцтва П. Шпакоўскім. Пётр Яўгенавіч, чалавек, як я зразумеў, схільны да філасофскіх абагульненняў, доўга даводзіў мне, што селяніну, якім, напрыклад, з'яўляецца ягоны бацька, і які ўсё жыццё жыве з "мазаля", ніколі ў галаву не прыйдзе мець справу з якім-небудзь там "Тэхінпрамам". "А вам?" — пацікавіўся я. "А я ўжо некалькі гадоў назад даў сабе слова не гуляць у гэтыя гульні", — адказаў мой суразмоўнік. "Што, апякліся?" — спытаў я. "Была справа", — не стаў удавацца ў падрабязнасці Пётр Яўгенавіч.

Але не для таго, каб даведацца яго думкі наконт пацярпелых ад усіх гэтых акцыянерных фірм, траставых кампаній, завітаў я сюды. Хацелася высветліць, як удаецца падобным утварэнням легальна ўсталёўваць свой бізнес. Адразу скажу, што барані мяне божа кінуць цень на ўсіх, хто займаецца прыватным прадпрымальніцтвам (як паведаміў мне П. Шпакоўскі, у Мінску дзейнічае каля 37 тысяч камерцыйных юрыдычных суб'ектаў гаспадарання і больш як 50 тысяч прадпрымальнікаў), але ж і фінансавыя скандалы, пра якія мы тут распавядаем, таксама рэальнасць, прычым далучанасць да іх уладам цяжка схаваць.

Як атрымаць дазвол на прадпрымальніцкую дзейнасць, ці лёгка прайсці гэтае "чысцілішча" ў райвыканкаме, на які ўскладзены абавязак рэгістрацыі бізнесменаў? Пётр Яўгенавіч запэўніў мяне, што падобная працэдура не з лёгкіх. "Наадварот, — гаварыў ён, — нас часта папракаюць, напрыклад, той жа Беларускі саюз прадпрымальнікаў у асобе яго прэзідэнта У. Карагіна, што мы занадта ўскладняем гэтую справу, што ва ўсім цывілізаваным свеце дзейнічае так званы заяўны прынцып — ты пішаш заяву ў адпаведны орган і табе даюць дазвол на камерцыйную дзейнасць. "Як я зразумеў, — заўважыў я, — у нас прайсці рэгістрацыю кандыдату ў бізнесмены невыносна цяжка?". У адказ П. Шпакоўскі працягнуў мне танюсенькую, у дзве-тры старонкі інструкцыю, на тытульнай старонцы якой было пазначана: "Пастанова Савета Міністраў БССР "Аб палажэнні аб дзяржаўнай рэгістрацыі суб'ектаў гаспадарання". Чытаю, вось яны, умовы, неабходныя для рэгістрацыі. Вядома ж, пасведчанне асобы. Заява. Унясенне грошай у статутны фонд у памеры не менш 20 тысяч рублёў (кошт паўкіло таннай кілбасы). І, галоўнае, — прадстаўленне статута будучага суб'екта гаспадарання. Гэты пункт палажэння самы вялікі — трэба падрабязна апісаць усе віды дзейнасці, якімі збіраешся займацца. Як мне потым расказаў намеснік пракурора Партызанскага раёна С. Осіпаў, у статуце таго ж "Тэхінпрама", пададзеным для рэгістрацыі ў Савецкі райвыканкам, было ўказана больш як восемдзесят накірункаў дзейнасці будучага ТАА — ад будаўніцтва кватэр у розных раёнах сталіцы да дабрачыннай дзейнасці. Не быў указаны толькі адзін, сапраўдны від дзейнасці — стварэнне фінансавай пірамiды, каб потым, у зручны момант з сабранымі ў даверлівых грамадзян грашыма — "змыцца".

Адным словам, мне здаецца, што няўміручаму Асталу Бэндару заснаваць яго кантору па нарыхтоўцы рагоў і капытоў было куды цяжэй. Ва ўсякім разе, як пішуць аўтары "Залатога цяляці", ужо на трэці дзень існавання канторы яе ўладальнік атрымаў восем пакетаў, у якіх знаходзіліся павесткі з запрашэннем на рознага роду пасяджэнні і нарады, а таксама патрабаванні аб прадстаўленні розных звестак, каштарысаў і ведамасцяў. У час працы над гэтым артыкулам мне захацелася перачытаць гэты кавалак славутага рамана. Павінен сказаць, што аддаючы належнае знішчальным іроніі і сарказму, з якімі аўтары распраўляюцца з бюракратыяй, што тады нараджалася (сярэдзіна дваццатых гадоў), міжволі падумаў: няма, на жаль, на тых сённяшніх махляроў сапраўдных бюракратаў, якія б, адданыя інструкцыі, скрупулёзна, "занудліва" правяралі б дзейнасць сваіх падапечных, што абадралі, як ліпку, тысячы даверлівых грамадзян. Нагаданая вышэй Г. Ялінская з гарадской пракуратуры расказвала мне, што, даследуючы, як ужо гаварылася, крымінальную справу, узбуджаную супраць таварыстваў з абмежаванай адказнасцю: "Белінкамтраст" і "Белінкамрас", гаспадары якіх таксама збеглі з грашыма ўкладчыкаў, яна сутыкнулася з такімі фактамі — пазначаныя ў зарэгістраваных Фрунзенскім і Кастрычніцкім райвыканкамамі дакументах так званыя юрыдычныя адрасы аказаліся ліпавымі. Як выявіла следчая група, па гэтых адрасах размяшчаліся зусім іншыя арганізацыі.

Дарэчы, начальнік юрыдычнага аддзела Мінскай гарадской падатковай інспекцыі Т. Ісаева пры сустрэчы зачытала мне палажэнне аб рэгістрацыі юрыдычных суб'ектаў гаспадарання (у тым ліку і камерцыйных), паводле якога іх рэгістрацыя праводзіцца райвыканкамамі па месцы знаходжання суб'екта. Па-канцылярску суха, але затое дакладна. І, тым не менш, нагаданая вышэй В. Жукоўская рэгіструе той злашчасны "Тэхінпрам", хоць не можа не ведаць, што яго офіс знаходзіцца ў іншым раёне. Гэта яна дае пуцёўку ў жыццё заснавальнікам "Тэхінпрама". Аднаго з іх, менавіта Гайжаўскаса, аказваецца, даўно і беспаспяхова шукае каўнаская паліцыя. Другі "заснавальнік" — Манюшас, вядомы ў Літве як прафесійны картачны шулер. Трэці іх хаўруснік — Кучынскас таксама паўкрымінальны элемент. Вось бы і пацікавіцца спадарыні Жукоўскай, каму яна падпісала дакументы, праверыць, хто гэтыя, завітаўшыя з суседняй краіны, грамадзяне. "Гэта не ўваходзіць у мае абавязкі", — не міргнуўшы вокам сказала мая суразмоўніца. А ў чые? Зараз, калі грымнуў гром, калі ў розных месцах Мінска, у тым ліку каля рэзідэнцыі прэзідэнта пачалі амаль не штодня збірацца натоўпы ашуканых тымі ТАА людзей, улады ўдарылі ў званы і пачалі шукаць вінаватых.

Я пазваніў начальніку падатковай інспекцыі Савецкага раёна С. Дуброўскай, каб дамовіцца аб сустрэчы, але, пачуўшы слова "Тэхінпрам", яна пачала нервова крычаць у трубку, што ніякіх размоў на гэтую тэму весці не будзе, што хопіць з яе ледзь не штодзённых выклікаў у пракуратуру, якая, па яе словах збіраецца ўзбуджаць супраць яе крымінальную справу. На мае роспыты — за што? — не адказала, абмежаваўшыся злосным: "Вы што, не ведаеце, як у нас заўсёды шукаюць крайняга?"

Я папрасіў яе супакоіцца і хоць па тэлефоне расказаць мне сутнасць справы. Вядома, яна не лічыць сябе ні ў чым вінаватай. У раёне некалькі тысяч суб'ектаў гаспадарання і праверыць усіх своечасова не хапае ні сіл, ні часу. Яна ўжо не памятае, калі іх інспекцыя праводзіла планавыя праверкі прадпрыемстваў, камерцыйных фірм, іншых юрыдычных суб'ектаў гаспадарання. Дзейнічаюць у асноўным па званках "зверху" — правер гэтага, правер таго... Разам з тым, многае з таго, што паспела па тэлефоне распавесці спадарыня Дуброўская, не магло не выклікаць, мякка кажучы, здзіўлення. Як я зразумеў, "Тэхінпрам" за паўгода свайго існавання не заплаціў дзяржаве ні капейкі падатку, хоць круціў сотнямі мільёнаў. Фірма адгарадзілася ад падатковай інспекцыі нейкімі даведкамі, што яна не займаецца фінансава-гаспадарчай дзейнасцю (?!), а таму не павінна плаціць падаткі. "І толькі калі пасля скандалу мы трапілі ў офіс "Тэхінпрама", — распавядала спадарыня Дуброўская, — нам удалося натрапіць на дакументы, якія сведчылі пра адваротнае".

Вядома, не злоўлены — не злодзей. Але ці такія ўжо беспадстаўныя чуткі, якія ходзяць сярод падманутых кліентаў тых махлярскіх фірм, што пэўная частка вялізных грошай, якія тут "круціліся", асела па кішэнях асобных чыноўнікаў, дзякуючы чаму і змаглі прайдзісветы разгарнуцца на поўную моц.

Дарэчы, падчас сваёй сустрэчы з С. Осіпавым я пацікавіўся ягонай думкай на гэты конт. Сяргей Андрэевіч, не раздумваючы, адказаў, што са мной згодны. Але, маўляў, як даказаць... Ён нават паспрабаваў павярнуць гаворку ў тэарэтычную плынь, паведаміўшы, што ў многіх заходніх краінах законам дазваляецца следчым органам "падсоўваць" хабар асобам, што падазраюцца ў падобных злачынствах. "Але ж такі "тэст" — чыстая правакацыя", — запярэчыў я. "Ну, а што зробіш, трэба ж шукаць нейкія эфектыўныя сродкі для барацьбы з гэтым злом", — адказаў Осіпаў. Я выказаў меркаванне, што нашыя заканатворцы не пойдуць на такі крок, па-першае, з-за хісткасці чыста маральных абгрунтаванняў, а, па-другое, з-за таго, што як толькі прымуць яны такі закон, адразу давядзецца пашыраць следчыя ізалятары і папраўча-выхаваўчыя калоніі.

"І ўсё-такі, — спытаў я, — як так сталася, што пад бокам у пракуратуры доўгія месяцы арудавалі прайдзісветы з таго "Тэхінпрама"? "Дзейнічалі яны сапраўды ў нашым раёне, але ж зарэгістраваныя ў Савецкім, — парыраваў Сяргей Андрэевіч, — і, нарэшце, гэта ж мы ўзбудзілі супраць гэтай фірмы крымінальную справу".

І ва ўзбуджэнні крымінальнай справы, і ў тым, што адбылося далей, ёсць шмат незразумелага, але даць тлумачэнне гэтаму С. Осіпаў не змог, ці не захацеў, спаслаўшыся на адсутнасць пракурора раёна Грушы, які пайшоў у адпачынак. Але давайце паглядзім, як разгортваліся падзеі. Сапраўды, 18 чэрвеня пракуратура Партызанскага раёна ўзбуджае крымінальную справу супраць "Тэхінпрама", але па артыкуле 151 КК Рэспублікі Беларусь — "Парушэнне парадку ажыццяўлення прадпрымальніцкай дзейнасці". Не вельмі, скажам, "страшны" артыкул, асабліва, калі ўлічыць, што ўладальнікі канторы да гэтага часу ўцяклі з грашыма за межы рэспублікі. Далей — болей. Пракуратура падае на "Тэхінпрам" іск у абласны гаспадарчы суд з патрабаваннем пазбавіць яго статуса юрыдычнай асобы, адным словам, ліквідаваць (збіранне сродкаў грамадзян без ліцэнзіі Нацбанка рэспублікі, парушэнне правілаў інкасацыі грошай і г. д., і г. д.). Гаспадарчы суд у асобе суддзі Р. Баязітава іск пракуратуры не задавальняе.

Я пацікавіўся ў Сяргея Андрэевіча, што ён пра гэта ўсё думае? Ён адказаў, што пракуратура на гэтым не спыніцца — падасць апеляцыю ў Вышэйшы гаспадарчы суд рэспублікі. "Нас у гэтым абяцаў падтрымаць пракурор горада Мікалай Міхайлавіч Купрыянаў, — сказаў мой суразмоўнік і прапанаваў: — хочаце, я зараз у вашай прысутнасці яму пазваню..." І сапраўды — пазваніў. Нагадаў пра сутнасць справы, спытаў, што рабіць далей, доўга слухаў начальства. Нарэшце, вымавіўшы кароткае: "Зразумеў", паклаў трубку і, крыху сумеўшыся, растлумачыў: "Сказаў мне, што на самым версе лічаць — з ліквідацыяй таго "Тэхінпрама" трэба пачакаць".

Наогул, ва ўсёй гэтай гісторыі шмат неадназначнага, незразумелага, загадкавага. Яшчэ факт з гэтага раду. Пасля таго, як ужо быў арыштаваны рахунак фірмы, супраць яго кіраўнікоў узбуджана крымінальная справа, тут яшчэ амаль тры тыдні працягвалі прымаць грошы ў грамадзян, якія нічога не падазравалі. Няўжо і пра гэта не ведаў райвыканкам, падатковая інспекцыя, праваахоўныя органы?

*(Працяг на стар. 12)*

## "ДАЙСЦІ ДА БЕЛАРУСІ..."

Такую назву атрымала новая рубрыка часопіса "Роднае слова". Прадстаўляючы яе ў сёмым нумары, галоўны рэдактар "РС" М. Шаваркін зазначае: "Пад ёй плануем змяшчаць матэрыялы не проста культурна-асветніцкага характару, а перш за ўсё з развагамі, меркаваннямі, прапановамі, што паспрыяюць педагогам у іх творчай, напружанай працы, дапамогуць актывізаваць працэс выхавання". Змешчаны першы матэрыял — "Мы — дзеці Галактыкі" А. Міраслаўча, а ў якасці каментарыя да яго гутарка М. Шаваркіна з аўтарам — "Парадокс нашых уяўленняў".

Жыццё і творчасць П. Глебкі ("...І сябе асудзіў на пакуты") у цэнтры ўвагі В. Максімовіча. Друкуюцца пачатак артыкула І. Навуменкі "На пераломе эпох" (новае прачытанне творчасці Я. Купалы), працяг артыкула А. Бельскага "Гарыць зямля ад фарбаў летніх..." (лета ў беларускай паэзіі).

Роля К. Чорнага ў развіцці беларускай літаратурнай мовы — тэма артыкула М. Абабуркі "Годна размаўляў з усім светам". У. Дзіско ("Рыцары роднага слова") расказвае пра вынікі Рэспубліканскай алімпіяды школьнікаў па беларускай мове.

Працягваецца публікацыя нарысаў з гісторыі сусветнай літаратуры. Гэтым разам Л. Баршчэўскі выступае з артыкулам "Старагрэцкая проза".

Не толькі настаўнікаў і вучняў зацікавяць і такія публікацыі як "Вобраз Бандароўны ў паэме Янкі Купалы і яго інтэрпрэтацыя ў іншых відах мастацтва" І. Драўніцкага, "Складзена і напісана працаю Івана Ужэвіча" Д. Паўлаўца, "Міфалагічныя формы шлюбу" (заканчэнне артыкула) Т. Шамякінай і іншыя. У раздзеле "На ростанях" — шэраг матэрыялаў, што тычацца жыцця народнага песняра Я. Коласа, знаёмячы з яго роднымі мясцінамі, акружэннем.

## КАЛІ ЎЗЯЦЬ СЁМЫ НУМАР

часопіса "Пралеска" і выняць з яго ўнутраныя старонкі, то лёгка можна зрабіць кніжку-вершаванку "Хітруха" Л. Парэмскага — чарговае папаўненне ў "Бібліятэчцы "Пралескі". У гэтым жа нумары — ліст галоўнага рэдактара "Пралескі" А. Сачанкі "Аблога", слова Л. Забалоцкай пра П. Броўку "Між вясной і летам", гутарка А. Сачанкі з дырэктарам Навукова-даследчага інстытута аховы мацярынства і дзяцінства А. Усціновічам "Пра дэмаграфію без дэмагогіі", нарыс Л. Забалоцкай "Гімназія — гэта асенні сад", сцэнарый свята для дзяцей і дарослых Л. Макаранкі "Сустрэча ля самавара", артыкул В. Скідана "Трыпутнік, трыпутнік, ты стаіш пры дарозе", падборка загадак, дасціпныя дыялогі дзяцей "Россыпы", занатаваныя А. Хазянінам.

## ПРА ШТО ДУША БАЛІЦЬ...

Малады крытык Алесь Бельскі ўважліва сочыць за станам сучаснай беларускай літаратуры, у тым ліку, вядома ж, і маладой. Пра гэта сведчаць артыкулы, рэцэнзіі

А. Бельскага, што апошнім часам досыць рэгулярна з'яўляюцца на старонках рэспубліканскай перыёдыкі. А нядаўна ў яго выйшла і першая крытычная кніжка, што папоўніла "Бібліятэку часопіса "Маладосць". А. Бельскі і даў ёй назву "Пакуль баліць душа". Аб накірунку цікавасцяў аўтара сведчаць артыкулы, што ўвайшлі ў яе. Вершы аб прыродзе, напрыклад, аналізуюцца ў артыкуле "А ліра як гучыць?". Тэма Чарнобыля ў беларускай паэзіі асэнсоўваецца ў артыкуле "У нашых песнях — небяспечны стронцый". Яшчэ колькі матэрыялаў: "Выпрабаванне смерцю і чалавечнасцю" — вайна ў Афганістане і літаратура; "На зыходзе квадры" — паэзія 90-га: тэмы, матывы, вобразы, настрой; "Па вясёлцы да сонца" — нататкі пра паэтычныя кніжкі для дзяцей...

Дарэчы, у "Бібліятэцы..." А. Бельскі выступае ў другі раз — адзінкавы выпадак з гісторыі існавання гэтага выдання. А дэбютаваў тут А. Бельскі як празаік, выдаўшы ў лютым мінулага года кніжку "Ружовая знічка", змест якой склалі аповесць і апавяданні. Праўда, выступіў не пад сваім уласным прозвішчам, а пад псеўданімам — Алесь Ветах.

*Урбанія... Яшчэ да таго, як адкрываеш гэтую маленькую кніжачку, адкрываеш не толькі ў глыбокім, але і ў літаральным сэнсе, узнікае папярэдняе — непазбежнае — тлумачэнне яе назвы: прадугадваецца скіраванасць аўтара на гарадскую тэматыку. І вось кнігу —* адкрываеш. *І пачынаеш разумець, што сэнс яе наймення значна глыбейшы: Урбанія — гэта своеасаблівае канцэптуальнае ядро, філасофскі стрыжань кнігі, гэта, так бы мовіць, — жанр жыцця, яго разгорнутая метафара. Метафара, да вытлумачэння якой чытач, вядома, будзе імкнуцца і якая ў той жа час наўрад ці можа быць вытлумачана да канца, як, да прыкладу, і назва славутай апалінэраўскай паэмы "Зона".*

# "Я І САМ БЫЎ КРАІНАЙ..."

## АНАТОЛЬ КІРВЕЛЬ. "УРБАНІЯ": ВОПЫТ ПРАЧЫТАННЯ

Urbs. "Абнесенае сцяной паселішча, у адрозненне ад адкрытага месца", — так вытлумачваецца гэтае лацінскае слова. Абнесенае сцяной... Ці не праўда, нешта знаёмае? То ж нашае жыццё з яго палярнымі тэндэнцыямі: з аднаго боку, да працягу жыцця "за сцяной", да стандартызацыі, безасабовасці, да страты чалавекам каранёў, ператварэння яго ў абстрактную істоту без роду і радзімы, без гістарычнага вопыту, без мовы, без усведамлення нацыянальнай прыналежнасці; а з другога — да разбурэння "сцяны", да адкрытасці, душэўнасці і духоўнасці. Кожнаму застаецца выбіраць...

Для чытача назва заўсёды папярэднічае зместу; у той жа час яна заўсёды — вынік. Вынік таго ж зместу, але перадусім нашай з аўтарам сатворчасці, нашага роўнаснага суіснавання ў абсягах мастацкага свету, што сплаўляе ў сабе паэтычны і праблемна-этычны аспекты.

Што датычыць праблематыкі "Урбаніі", дык менавіта яе разнастайнасць не ў апошнюю чаргу абумовіла сэнсавую шырыню назвы кнігі. Лірычны герой А. Кірвеля разважае над сутнасцю такіх антыномій, як памяць і бяспамяцтва ("Багацце", "Помнікі", "Шэрыя качкі"), дзеянне і бяздзеянне ("Воля", "Новая хата", "Шчаслівы", "Еду!", "Тры хаткі"), самаадэкватнасць і канфармізм ("Блыха", "Давайце вернемся!", "Здрада", "Змяя"), выбар і лёс ("Крыж", "Каму лягчэй?", "Падалі зоркі", "Два пацалункі на дзень", "Тонкая нітачка") ды інш.

Турбуе А. Кірвеля і праблема творчай асобы, аўтарская канцэпцыя якой, на мой погляд, нечым дужа блізкая да тлумачэння творчай асобы рамантыкамі: творчы чалавек зусім неабавязкова валодае майстэрствам ігры на тым ці іншым музычным інструменце або ўпэўнена маніпулюе пэндзлем, галоўнае — уменне спрычыняцца да жыцця ва ўсёй яго шматколернасці і нязмушанасці, тонка адчуваць і глыбока спачуваць — іншаму чалавеку, прыродзе, праявам жывога і прыгожага ў акаляючым свеце. Паказальны ў гэтым сэнсе верш у прозе А. Кірвеля "Агеньчык":

"Жыў у целе агеньчык. А як прыбіўся да яго другі, больш агністы, дык той, першы, і патух: толькі на адзін раз пагарэць яго і хапіла.

Цела тое — яшчэ жыве, нават ходзіць — сустракаў нядаўна. Агеньчыка ж — няма... Гэтаксама, як і таленту — таленту жыць".

Амаль аб тым жа — у "Шчаслівым" А. Кірвеля:

"Аднаго чалавека спыталі:

— Чаму ты жывеш так доўга?

— Жыць не шкадую, — адказаў той. — Не азіраюся!"

Аднак і роздум над прызначэннем мастака ў канкрэтным разуменні апошняга займае досыць значнае месца ў кнізе. Ці кожны мастак мае права творцам звацца? Не пазбыўшыся разліку, гвалту, "капаць" можна; адкрыць жа "скарбы — боль і радасць душы чалавечай" — наўрад ці. "Пнучы жылы", не зведаеш творчага экстазу, таго самага "полымя", якое для аднаго з персанажаў А. Кірвеля, "дзікуна" Здзіслава, "было ўсё", якое рабіла яго "такім відушчым", але ўзамен вымагала "высокага знішчэння самога сябе ў імя... Бог ведае, у імя чаго..." У кожным разе, не ў імя "поўных скрыняў" ды "доўгачаканай улады".

Істотнае месца ў кнізе А. Кірвеля займае ўласна беларуская праблематыка. У шэрагу твораў менавіта яна з'яўляецца вызначальнай канстантай светаадчування пісьменніка ("Пагоня", "Мова", "Пра Любку"). Тут часам самі назвы ўжо гавораць за сябе. Але і ў гэтых апавядах лёс Беларусі, яе мінуўшчына, сучаснасць і будучыня — не аўтаномныя ад праблем агульначалавечых; зусім невыпадкова ў "Пагоні" словы Вораг і Сябра, Забыццё і Свабода ідуць поруч і пішуцца з вялікай літары, а людзі, пабачаныя маленькай Любачкай у Мінску, усе, "як звяры ў казцы, бо адзін ваўком глядзіць, другі — нібы ліс хітры, трэці — як вожык натапырыўся..." Яшчэ ў большай ступені гэтая абагульненасць уласціва апавядам "Сляды", "Тры хаткі", "Здрада", дзе Левашова, Катынь, Курапаты ці Гомельшчына, Чарнобыль — не проста геаграфічныя каардынаты, а сапраўды "сляды", "крывавыя адбіткі", сімвалы невымерных маральных і фізічных пакут чалавека і чалавецтва. І наадварот, асацыяцыі менавіта з беларускай рэчаіснасцю непазбежна ўзнікаюць падчас асэнсавання калізій падкрэслена абагульненых ("Жабрачка", "Новы век" ды інш.).

Галоўная з "беларускіх" праблем, узнятых аўтарам "Урбаніі", — гэта, на мой погляд, праблема памяці — нацыянальнай, гістарычнай, родавай. Прадстаўнікі іншых літаратур пасляваеннага часу (чэшскай, балгарскай, польскай) звярнуліся да яе, як вядома, значна раней; да прыкладу, у Балгарыі 60—70-х гг. выразна акрэсліўся літаратурны рух, што атрымаў найменне "пошукаў каранёў". "Напэўна, я не перабольшу, калі скажу, што ўся наша проза апошнім часам прасякнута прагай пошука каранёў, неспатоленай настальгіяй па таямніцы пераемнасці, імкненнем убачыць мінуўшчыну і сучаснасць, будучыню і мінуўшчыну як па-філасофску асэнсаваную арганічную цэласнасць народнага жыцця", — пісаў вядомы балгарскі літаратуразнаўца Б. Нічаў. Задамося і мы ўслед за А. Кірвелем пытаннем: "Дзеці нашы — хто яны: нечаканцы ці спадчыннікі?"

Аб чым бы ні ішла размова ва "Урбаніі", у полі зроку аўтара заўсёды застаецца дылема: абыякава назіраць за далейшым руйнаваннем душы і гэтым патураць яму ці супрацьстаяць жудаснаму працэсу? Па вялікім рахунку, творы А. Кірвеля ў сукупнасці сваёй уяўляюцца парадыгмай духоўна-сацыяльнага жыцця нашага сучасніка. Асаблівую ж увагу звяртае на сябе па-майстэрску пабудаваная маленькая навела "Ганчак" — аб маральна-псіхалагічнай несумяшчальнасці герояў, якіх толькі на некалькі імгненняў звёў выпадак: яго — "ганчака" ("ганяюся за прадуктамі") і яе — яшчэ не страціўшую, нягледзячы на шэрую будзённасць існавання, надзею на свята, каханне, шчасце.

Пры мініяцюрных памерах творы А. Кірвеля валодаюць значнай сэнсавай канцэнтрацыяй. Праз што гэта дасягаецца? Праз разлік на чытацкую арыентаванасць, праз глыбокі падтэкст і ў вялікай ступені — праз зварот да міфалагічных (найперш — біблейскіх) сітуацый і вобразаў, інтэрпрэтацый якіх вельмі багата ў кнізе (тут Бог і Сын Божы, Святая Тройца і Марыя Магдалена, Адам і Ева...). Міф не толькі надае асаблівую паэтычнасць адпаведным мініяцюрам і вершам у прозе, але і ўзнімае іх змест на філасофска-сімвалічны ўзровень. Напачатку, праўда, выклікае сумнеў суседства ў адных і тых жа цыклах кнігі калізій сучасна-канкрэтных з міфалагічнымі. Ці не мэтазгодней было б аб'яднаць заснаваныя на міфах творы ў асобныя цыклы? Тым больш, што сучасны герой А. Кірвеля — чалавек урбанізаваны; урбанізацыя ж далёка не спрыяе захаванню і развіццю эмацыянальнай памяці, філасофска-маральным стасункам чалавека са спрадвечным.

Ды хутка (як ужо здаралася са мной падчас асэнсавання гэтага пярэйсця сучасных творцаў у міфалагічную прастрань) прыходзіш да высновы: мусіць, мы якраз і маем справу з тым выпадкам, калі вяртанне назад ёсць умова перспектывы, руху і развіцця. І тады ў новым святле прачытваецца суседства міфа і сучаснасці. Г. Гаўптман калісьці сказаў: "Быць паэтам — значыць дазволіць, каб за словамі прагучала праслова". Дадамо: і каб за чалавекам, якім бы ён ні быў сёння, "цяпер і тут", даў аб сабе знаць **прачалавек**. Абуджэнне ў чалавеку чалавечага, першаснага, існага — можа, адна з галоўных мэт звароту сучасных пісьменнікаў, у тым ліку А. Кірвеля, да міфа.

Чалавек не тоесны Богу, але хто — ці ўжо што — ён без боскага пачатку? А Бог, якім ён уяўляецца аўтару "Урбаніі"? Нехта слушна заўважыў: чым больш сучасны літаратурны чорт, тым ён бліжэй да чалавека. Здаецца, тое ж можна сказаць пра Бога. У А. Кірвеля ён розны. Бог — рупны Сейбіт, "надзіва сумленны", ды і ў яго надараюцца "абмылкі": "супраць Яго волі і намеру на Зямлі пачало вырастаць зусім не тое, што Ён хацеў, — і Сейбіт не разумеў, дзе ён пралічыўся..." ("Сейбіт").

Міфалагічныя рэмінісцэнцыі ў творах А. Кірвеля вартыя спецыяльнага аналізу. Мне ж хочацца звярнуць увагу яшчэ на адну акалічнасць. Адзін са спосабаў суаднесці, паяднаць праблемы чалавечыя з боскімі — своеасаблівая дэміфалагізацыя, якая знаходзіць месца і ў мастацкай сістэме А. Кірвеля. Маецца на ўвазе "гульня" з міфам, яго іранічнае, парадыйна-травесційнае пераасэнсаванне, змяненне яго анталагічнай дамінанты, нават вяртанне міфа да міфалагемы — першавобраза, інварыянта, зыходнай семантычнай адзінкі, падуладнай далейшым самым розным канкрэтна-паэтычным напаўненням. На вачах чытача і не без яго ўдзелу адбываецца разбурэнне звыклай сэнсавай рэпутацыі персанажаў. Зрэшты, гэта даволі трывалая ў сусветнай літаратуры традыцыя; да прыкладу, Іуда ў Л. Андрэева ("Іуда Іскарыёт") ці ў Ю. Нагібіна ("Улюбёны вучань") любіць Хрыста. Адбываецца пераасэнсаванне не толькі біблейскіх вобразаў (успомнім хаця б "Споведзь Дон Хуана" К. Чапека, дзе Дон Жуан не здатны спакушаць жанчын). Надчасавыя персанажы нібы ўключаюцца ў новы сацыяльна-гістарычны, часам нават канкрэтны нацыянальны кантынуум, чалавек жа, наадварот, уводзіцца ў кантэкст вечнага. Падумаем, ці ж толькі пра боскія клопаты, а не пра клопаты канкрэтных людзей, не агульначалавечыя, нарэшце, ідзе размова ў А. Кірвеля: "...рука Ягоная рассявала зярняты не так дбайна, як раней, а чало цьмянела і хмурылася: ці не пара заканчваць Сяўбу: як праклюнуцца зярняты, ці паспееш тады ўратавацца ад таго, што Сам і пасеяў?" ("Сейбіт"). Або яшчэ: "Ці хочаш, каб і мы, на цябе гледзячы, дзяцей сваіх адракліся?! І на смерць паслалі? Каб твой грэх — і нашым зрабіўся?.. Агульны грэх — дык ён нібыта і не твой, га?" ("Бацька і Сын").

Важнае месца ў сістэме паэтыкастваральных сродкаў А. Кірвеля займае фальклорны элемент. Ён адчуваецца ў нязмушанасці, імправізацыйнай непасрэднасці аповяду, яго, так бы мовіць, "вуснасці". Творы А. Кірвеля багатыя на традыцыйна народныя, казачныя выразы, зачыны, канцоўкі ("Чалавек падумаў-падумаў...", "Аднаго чалавека спыталі...", "Дай жа Бог!", "Ішлі трое мужыкоў...", "Трапіла неяк...", "Жыў сабе..." і г. д.). Звыклыя насельнікі паэтычнай прозы А. Кірвеля — беларускія прымаўкі ды прыказкі. Многія аповяды А. Кірвеля блізкія да вуснай народнай творчасці і ў жанравых адносінах.

Дарэчы, аб жанравай прыродзе твораў. Вядома ж, не прыняць пад увагу аўтарскае азначэнне нельга; аднак ад яго, відавочна, аніяк не звесці ўвесь жанравы дыяпазон маленькіх, але такіх ёмістых твораў. Тут показкі і абразкі, замалёўкі і жанравыя карцінкі, афарызмы і навелы... Ці не большыня іх мае прытчавы характар; у сукупнасці ж яны ўтвараюць своеасаблівую лірычна-філасофскую споведзь. Асацыятыўнасць, элементы сімультаннай тэх-

нікі і "плыні свядомасці" робяць надзвычай адметным, шырокім і інтанацыйны рэгістр "Урбаніі".

Адзін з асноўных сродкаў стварэння мастацкай прасторы ў А. Кірвеля — колер. У дачыненні да асобных мініяцюр ("Дзікун", "Колер таго вечара"), а таксама "Маленькіх апавяданняў" ("Полымя", 1994, N 9) можна гаварыць не толькі пра эстэтыку, але і філасофію колеру. Амаль фізічна адчуваеш, што піша менавіта мастак, не піша нават — малюе словам. Здаецца, бачыш, як нараджаюцца, кладуцца на паперу словы-мазкі, словы-штрыхі, фарбы-пачуцці. Колер у А. Кірвеля можа быць знакам душэўнай неўтаймаванасці, або абуджэння да жыцця, або псіхалагічнай неўпарадкаванасці... "Колер душы" — трапна назваў аўтар адно з "Маленькіх апавяданняў", але гэта і эстэтычнае крэда, і сэнс мастакоўскіх пошукаў. Апошнія ж, на мой погляд, выразна блізкія да колішніх памкненняў сімвалістаў і асабліва імпрэсіяністаў, якія ў свой час паўплывалі і на некаторых беларускіх пісьменнікаў, у тым ліку — М. Багдановіча.

Прывядзём, да прыкладу, радкі з "Колеру душы" А. Кірвеля: "Вада ў Няве сапраўды загадкавая. Як сфінкс. Колер яе вызначыць немагчыма. Нібыта яна і чорная, як ноч, нібыта і празрыстая, як аблокі, нібыта і сінявата-блакітная або зеленавата-срэбная... штосьць прысутнічае ў гэтай срэбнасці альбо блакітнасці такое, што не вызначыць словам, што ўспрымаеш толькі зрокам і адчуваеш душою, а слова... слова ніяк не даецца ў рукі, і мо якраз у гэтым... чароўнасць, загадка... якую прыемна разгадваць і прыемна не разгадаць... бо застаецца таямнічасць, неспазнанасць ці ўжо невычэрпнасць — якраз тыя якасці, на якіх трымаецца наша душа, якую мы таксама вельмі рэдка разумеем і не спазнаем да канца..." Параўнаем гэты імпрэсіяніcцка-сімвалісцкі малюнак з выказваннем буйнейшага французскага сімваліста С. Малармэ: "Назваць прадмет — гэта згубіць тры чвэрці асалоды ад мастацкага твора, якая вынікае са шчаслівай мажлівасці паступовага ўгадвання; унушыць уяўленне аб ім — вось мара. Глыбокае спасціжэнне гэтай таямніцы і складае сімвал: мала-памалу ўваскрашаць у памяці прадмет і ў ім знайсці адбітак душэўнага стану шляхам шматразовага расшыфроўвання" ("Аб літаратурным развіцці"). А гэта ўжо з П. Верлена: "Душа твая — малюнак артыстычны..." (пер. М. Багдановіча), або: "Всего милее полутон. // Не полный тон, но лишь полтона..." ("Мастацтва паэзіі". Пер. Б. Пастэрнака). Схільнасць да рэфлексіі, сканцэнтраванасць вакол душэўных рухаў, фрагментарнасць, калейдаскапічнасць аповяду, цякучасць уражанняў і фарбаў, багацце нюансаў, дваістасць пейзажна-душэўнага малюнка, нават тэма горада, надзвычай прыцягальная ў свой час для сімвалістаў і імпрэсіяністаў, — гэта і іншае сведчыць, што А. Кірвель у шэрагу твораў — спадкаемца згаданых мастацкіх накірункаў. (Шкада, што ў свой час я не пабывала на выставе беларускіх мастакоў з Санкт-Пецярбурга "Маю гонар", дзе выстаўляліся і творы А. Кірвеля. Цікава б было параўнаць свае ўражанні...")

Маюць сваю традыцыю і жанры, у якіх працуе пісьменнік. Згадаем толькі: сфармаваны ў эпоху рамантызму, верш у прозе (тэрмін, як вядома, увёў ва ўжытак пазней, у сярэдзіне XIX ст., Ш. Бадлер) меў апірышчам біблейскую рэлігійную лірыку ў прозе і знайшоў працяг у літаратуры другой паловы XIX—XX стст., у тым ліку беларускай. Разнастайнасцю вытокаў (сярэднявечныя малюнкі-маргіналіі на старонках рукапісных "Часасловаў", народныя календары ды інш.), а таксама нацыянальнага і канкрэтна-індывідуальнага ўвасаблення адзначана і гісторыя жанру літаратурнай мініяцюры, да якой, зноў жа, звярталіся і вядомыя беларускія пісьменнікі.

Такім чынам, пагаджаючыся з думкай Я. Лецкі, аўтара прадмовы да "Урбаніі", аб урослсці А. Кірвеля ў беларускую мову і культуру, аб адсутнасці менавіта "знарочлівай дэманстрацыі нейкага новага стылю, чагосьці экстравагантнага, перанесенага на нашу глебу з заморскіх краёў", можна і трэба гаварыць аб арганічнай далучанасці пісьменніка да сусветнай літаратурнай традыцыі.

Мастацкі свет А. Кірвеля шматмерны і складаны, як складаны і свет яго лірычнага героя. "Я і сам быў Краінай..." — прагучыць з вуснаў апошняга даверліва-інтымнае прызнанне. Паспрабуем гэтую Краіну — і сябе праз яе — спасцігнуць.

**Ева ЛЯВОНАВА**

Сярод кніг

# АБЯЗДОЛЕНЫЯ ВАЙНОЙ




У нашым доме жыве старэнькая бабулька. Я часта сустракаю яе ў двары. Бывала, і ўсміхаўся: не зразумець было, ці гэта бабулька прагульвае сабачку, ці сабачка яе, нямоглую.

Зусім па-іншаму глянуў я на бабульку пасля таго, як прачытаў дакументальную аповесць Уладзіміра Ліпскага і Багдана Чалага "Любі мяне пры ўсякай долі" — пра трагічны лёс хлопцаў і дзяўчат, сілай вывезеных гітлераўцамі на працу ў Германію. У кніжцы няма прозвішча бабулі, але яна — адна з тых, вывезеных некалі на чужыну, каму доля не спрыяла ў жыцці. Ні ў маладыя гады, ні ў старасці. Дажывае век пры малодшай сястры.

Ніхто з юных нявольнікаў і не чуў раней пра нямецкі гарадок Косвіг. А якраз сюды, на ваенны завод, прывезлі іх з Беларусі і Украіны. Уцячы, схавацца, адмовіцца ехаць нельга было: за аднаго маглі расстраляць усю сям'ю.

У заводскім архіве захавалася шэсцьсот анкетных картак — са здымкамі і прозвішчамі. Шэсцьсот лёсаў! Адны выжылі і вярнуліся ў родныя мясціны. Другія навекі засталіся ляжаць у чужой зямлі. Зачахлі ад хвароб і знясільваючай працы, загінулі, кінутыя за сабатаж у канцэнтрацыйны лагер, павесіліся ці ўтапіліся, каб не пакутаваць у няволі.

У кніжцы шмат фотаздымкаў. З мінулага, з юнацтва свайго, глядзяць суайчыннікі, просяць, здаецца, вачыма: раскажыце пра нас, вярніце нашы імёны з нябыту. Гэтую маўклівую іх просьбу першай пачула сэрцам Розамары Канопка, якая працавала архіварыусам на заводзе ў Косвігу. Яна і паспрыяла, каб анкетныя карткі трапілі на радзіму юных вязняў. А два пісьменнікі, беларускі і ўкраінскі, зацікавіліся незвычайным архівам, пачалі пошук людзей — праз газеты і радыё. Знайшлі тых, хто яшчэ жыве. Сустрэліся з роднымі нябожчыкаў. І напісалі шчымліва-хвалюючую аповесць пра лёс вязняў, жывых і мёртвых.

Кніжка адметная, уражвае найперш незвычайным для нашай літаратуры зместам, трагедыяй людскіх лёсаў, багаццем фактычнага матэрыялу. Гэта — цаліна, упершыню так глыбока ўзнятая пісьменнікамі. Тут і гістарычныя звесткі, і вытрымкі з архіўных дакументаў, і пісьмы, дзённікі, успаміны саміх нявольнікаў, і аўтарскі аповед пра іх жыццё, працу, быт за калючым дротам. Як у нейкім панарамным калейдаскопе, мільгаюць-змяняюцца твары, характары і ўчынкі людзей, бытавыя падрабязнасці і падзеі, якія надоўга застануцца ў памяці. Экскурсы ў мінулае чаргуюцца з аповедам пра сённяшні лёс герояў, сухаватая публіцыстыка — з эмацыянальнымі лірычнымі адступленнямі.

Аўтары не адной фарбай малююць і вобразы немцаў, зацятых гітлераўцаў, і тых, хто не трапіў пад нацысцкі гіпноз. Не ўсе жыхары Косвіга былі антыфашыстамі, але многія стараліся аблегчыць жыццё рабочых-нявольнікаў. І добрым словам, і ўсмешкай, і бульбінай ці кавалачкам хлеба. Ім і сёння ўдзячныя тыя, хто выжыў і вярнуўся на Радзіму.

"Любі мяне пры ўсякай долі" — так напісаў на фотаздымку юнак з мінулага. Каму адрасуецца просьба-заклік? Думаецца, не толькі каханай. Гэта і зварот да кожнага з нас. І мальба да Радзімы: зразумей і падтрымай сваіх дзяцей, вайной закінутых на чужыну. Не віна, а бяда іх, што так нешчасліва склалася жыццё на самым узлёце. Ім бы хадзіць у школу, марыць, кахаць. А іх зрабілі рабамі — з парадкавым нумарам замест імя.

Як жа сустрэла пакутнікаў Радзіма? Кніжка сведчыць: доля не спрыяла ім і пасля вызвалення. Гады, праведзеныя на чужыне, паўплывалі на ўсё астатняе жыццё. На іх глядзелі як на адшчапенцаў. Не прымалі ў інстытуты, цяжка было ўладкавацца і на працу. Як жа, разважалі некаторыя, іх равеснікі ваявалі на фронце, ішлі ў партызаны, змагаліся ў падполлі, а яны — працавалі на ворага. Што было рабіць ім, без віны вінаватым? Не крычаць жа тады, у сталінскі час, што і яны, рабочыя-нявольнікі, шкодзілі ворагу як маглі. Кожны раз — рызыкуючы жыццём. Не сам жа ўзарваўся нарэшце ваенны завод у Косвігу восенню сорак чацвёртага года. І зноў запрацаваў толькі пасля вайны, ужо як мірны хімічны завод. Вядома, людзі пасля такіх пакут спадзяваліся дома акрыяць, знайсці душэўны спакой, а жыццё зноў павярнулася да іх бокам... Не збываліся надзеі, распадаліся сем'і, маці адны гадавалі дзяцей-сірот, некаторыя і сёння дажываюць век у адзіноце. Як сказаў адзін з герояў аповесці: "Споведзь мая не зусім вясёлая, але сумленная. У ёй — усё жыццё".

У летапісе вайны не павінна быць чыстых старонак або старонак выкрасленых цэнзурай. Людзі жывуць не толькі памяццю, але і сумленнем. Вайна прынесла шмат гора ўсім, і пераможцам і пераможаным. І нашчадкам з абодвух бакоў трэба ведаць, як калечыла яна людскія лёсы. Ведаць, каб гэта ніколі не паўтарылася. Сёлета, у год 50-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, дакументальная аповесць Уладзіміра Ліпскага і Багдана Чалага выйшла з друку ў Германіі, у прыватным выдавецтве Ірмы Карл. Пераклалі яе на нямецкую мову Розамары Канопка і Вераніка Ільшэ, якая працуе інжынерам на хімічным заводзе ў Косвігу. Кніжка называецца "Дзяўчаты, дзе вы?" Ужо сама назва сведчыць, што апошняя кропка ў гэтай гісторыі не пастаўлена — пошук людзей, абяздоленых вайной, працягваецца — на нашай зямлі і за мяжой.

Кожны з нас можа падключыцца да гэтага пошуку. Пацікаўцеся, магчыма, і ў вашым доме жыве чалавек, які меў некалі парадкавы нумар замест імя, дадзенага бацькамі.

**Мікола МАЛЯЎКА**

# ЁН ПЕРАКЛАДАЎ КУПАЛУ

## ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ УСЕВАЛАДА РАЖДЗЕСТВЕНСКАГА

За знаёмства з творчасцю Усевалада Раждзественскага (10.4.1895—31.8.1977), як і з лірыкай шэрагу іншых рускіх паэтаў, я ўдзячны Янку Купалу, вершы, паэмы і п'есы якога ўзрушылі мяне яшчэ ў дзяцінстве. Калі ў другой палове 60-х гадоў перада мною паўстала пытанне аб напісанні кандыдацкай дысертацыі, я палічыў, што выкажу сваю глыбокую пашану любімаму песняру, звярнуўшыся да гісторыі і якасці перакладаў яго твораў на рускую мову, да праблемы, у той час зусім не даследаванай. У пераліку зместу Купалавых зборнікаў, выдадзеных па-руску, часта сустракалася і імя Ус. Раждзественскага. Пасля азнаямлення з яго перакладамі адчуў, што яны зроблены прафесійна, што перакладчык валодае пачуццём своеасаблівасці арыгінала, умее данесці да рускага чытача сілу і выразнасць слова песняра. Захацелася даведацца, калі Ус. Раждзественскі звярнуў увагу на беларускую літаратуру, ці даводзілася паэту сустракацца з Янкам Купалам, што натхніла яго на актыўную працу над перакладамі беларускіх твораў. Доўга хістаўся, але усё ж надумаў адправіць ліст паэту.

Неўзабаве атрымаў падрабязны адказ, напісаны выразным бісерным почыркам з невялікім нахілам у левы бок. З ліста даведаўся, што з творамі Купалы Ус. Раждзественскі пазнаёміўся яшчэ ў гімназічныя гады. Яго школьны таварыш беларус Сідар Галаўня аднойчы паказаў яму кніжку на беларускай мове. Гэта была Купалава "Жалейка". Ус. Раждзественскага надзвычай узрушылі яе радкі. Яны ўзмацнялі ў сэрцы павагу да простых людзей, абуджалі спачуванне да прыгнечанага беларускага народа, захапленне яго працавітасцю, маральнай стойкасцю, а яшчэ зачаравалі сілай лірычнага пачуцця, надзвычайнай пявучасцю гучання. З таго часу і запала ў душу светлая любоў да мілагучнай беларускай мовы, а Купала азарыў яго лёс "большим, ясным светлом".

Асабістае ж знаёмства з аўтарам "Жалейкі" адбылося амаль праз тры дзесяцігоддзі. Ус. Раждзественскі нагадваў, што ўпершыню сустрэўся з Купалам у лютым 1936 года ў Мінску ў дні правядзення III выязнога пленума Саюза пісьменнікаў СССР, прысвечанага праблемам паэзіі. У складзе групы паэтаў ён быў запрошаны ў госці на кватэру песняра.

Потым у іх былі сустрэчы на розных пісьменніцкіх форумах, пленумах, юбілейных урачыстасцях у Маскве, Ленінградзе, Кіеве.

Асабліва запомнілася Ус. Раждзественскаму сустрэча з Янкам Купалам у маі 1939 года ў Кіеве падчас правядзення VI пленума СП СССР, прысвечанага памяці Т. Шаўчэнкі. Паэты правялі разам цудоўную майскую ноч на палубе парахода, які вёз удзельнікаў пленума з украінскай сталіцы ў Канеў, да магілы Кабзара. У тую ж салаўіную ноч Ус. Раждзественскі расказаў Купалу пра сваё першае знаёмства з ягонай "Жалейкай", прызнаўся, што ў вершах зборніка адчуў сапраўдны боль і крыўду за лёс прыгнечанай Беларусі, нават апісаў аўтару знешні выгляд кніжкі, зазначыў, што яна мела поспех сярод беларускага зямляцтва Пецярбургскага універсітэта. Купалу расчулілі ўспаміны рускага паэта. Ус. Раждзественскі падрабязна напісаў пра гэта ў артыкуле "Народны паэт Беларусі" (1972).

Класіку нашай літаратуры Ус. Раждзественскі прысвяціў таксама артыкулы "Паэт народнага шчасця" (1953) і "Зачаравала слова" (1973), у якіх ахарактарызаваў паэзію Купалы як сапраўдны ўзор творчасці, цалкам прысвечанай роднаму народу. Да таго ж, слова і сама асоба песняра настолькі ўразілі яго, што натхнілі на верш поўны захаплення прарокам беларускага Адраджэння:

**Купалава родная песня**
**Ад сэрца да сэрца пайшла.**
**Былі ў ёй і веліч народа,**
**І новы арліны парыў —**
**Усё, чым і слаўна свабода**
**З размахам раскованых крыл.**

**Як сонца, яе сустракала**
**Зямля Беларусі, і ёй**
**Пра шчасце пеў Янка Купала**
**На ліры цудоўнай сваёй.**

*(Пераклад Я. Семяжона.)*

Ус. Раждзественскі не быў абыякавым і да таго, што пісалі пра Купалу ў іншых літаратурах. З натхненнем пераклаў ён з украінскай мовы вершы М. Рыльскага "Янка Купала" і "Помнік Янку Купалу".

Перакладаць жа творы Купалы на рускую мову Ус. Раждзественскі распачаў у канцы 20-х гадоў. У лісце ён пацвердзіў, што ў вялікай ступені на перакладчыцкую працу яго натхняла і спрыяла ёй асабістае знаёмства з песняром, адзначыў, што ў першую чаргу выбіраў для перакладаў тыя творы, якія былі больш за ўсё сугучнымі лірычнаму голасу ўласных вершаў.

З вершаў Купалы пачалася ўвага Ус. Раждзественскага да беларускай паэзіі, шчырая прыхільнасць да яе творцаў. Да сваіх апошніх дзён ён ганарыўся сувязямі з беларускай літаратурай. На яго творчым рахунку пераклады з Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны, Цёткі, М. Багдановіча, Я. Коласа, М. Танка, У. Дубоўкі, П. Панчанкі, М. Лужаніна, А. Вялюгіна, А. Зарыцкага, С. Грахоўскага, К. Кірэенкі, Э. Агняцвет, П. Прыходзькі, А. Бажко і іншых паэтаў зямлі Беларусі.

Ус. Раждзественскі ўважліва сачыў за развіццём беларускай літаратуры, спасылаўся на яе ў сваіх артыкулах, на асобныя кніжкі адгукаўся рэцэнзіямі.

Беларускія паэты М. Танк, У. Дубоўка, А. Вялюгін, А. Вольскі, Г. Кляўко, Р. Няхай, У. Паўлаў, Я. Сіпакоў, В. Зуёнак, Р. Баравікова пераклалі вершы Ус. Раждзественскага на родную мову. Гэтыя пераклады з'яўляліся ў перыядычным друку, увайшлі ў анталогію "Руская савецкая паэзія" (1953), у зборнікі "Паэты Ленінграда" (1948), "Прызнанне. Вершы паэтаў Ленінграда" (1979) і інш.

**Цімох ЛІЯКУМОВІЧ,**
**доктар філалагічных навук**
**прафесар.**

*г. Брэст*

# "ГРАМАТЫКА..." ЯЗЭПА ЛЁСІКА

Яшчэ адной унікальнай кнігай папоўнілася серыя "Беларуская мова: гісторыя і сучаснасць", што выходзіць у выдавецтве "Народная асвета". Да аматараў роднай мовы прыйшла "Граматыка беларускае мовы. Фанетыка" самааддананага працаўніка на ніве нацыянальнага Адраджэння Язэпа Лёсіка. Гэта факсімільнае выданне, якое акурат паўтарае тое, што з'явілася ў 1926 годзе.

Як вядома, Я. Лёсік, рыхтуючы дапаможнікі "для настаўнікаў, педтэхнікумаў і для самаасветы", паступова ажыццяўляў сваю задуму — стварыць поўную і навуковую граматыку беларускай мовы. Пачатак гэтаму кроку быў зроблены ў 1924 годзе, калі пабачыў свет "Сінтаксіс беларускае мовы", затым згаданы дапаможнік і, нарэшце, у 1927 годзе выйшла "Граматыка беларускае мовы. Марфалогія".

Безумоўна, было б проста цудоўна, каб пабачылі свет і яшчэ дзве кнігі Я. Лёсіка. Пакуль што будзем удзячнымі выдавецтву і за гэты падарунак, які, думаецца, асабліва зацікавіць бібліяфілаў.

# ДЗЯКУЮЧЫ НВК "ТЭХНАЛОГІЯ"

Шчырыя аматары беларушчыны, прыхільнікі нацыянальнага Адраджэння атрымалі магчымасць пазнаёміцца з чарговым, майскім за сёлетні год нумарам газеты "Беларус", якая, як вядома, вось ужо сорак чацвёрты год выдаецца беларускай эміграцыяй, і цяпер больш-менш рэгулярна трапляе на Бацькаўшчыну. Як і папярэднія, нумар змястоўны. Багата грамадска-палітычнай інфармацыі, аб чым, у прыватнасці, сведчаць ужо назвы матэрыялаў — "Ці перамаглі фашызм? Чым адзначыць Перамогу?", "Імперскі менталітэт расейцаў", "Стан амерыканскай дапамогі Беларусі", "Праект пабудовы ў Вашынгтоне мемарыялу ахвярам камунізму".

Друкуецца ліст старшыні Камітэта сувязі беларускіх ветэранаў на чужыне К. Акулы старшыні Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ветэранаў у Мінску В. Быкаву, у якім гаворыцца: "Жадаем беларускаму народу, каб ён асягнуў поўную вольнасць і незалежнасць, а ў Рэспубліцы Беларусь захаваў беларускую дзяржаўную мову і сімвалы дзяржавы — Пагоню і бел-чырвона-белы сцяг. Памажы яму, Божа!"

Янка Жамойцін выступае з артыкулам "Песняру зямлі беластоцкай — 70 год", у якім падрабязна аналізуе жыццёвы і творчы шлях В. Шведа. Я. Запруднік ("Паэтычнае заглыбленне ў мінуўшчыну") рэцэнзуе кнігу паэзіі С. Панізніка "А пісар земскі...", выпушчаную выдавецтвам "Мастацкая літаратура", у якой дае высокую ацэнку творчасці паэта: "...вершы Сяргея Панізніка — клічнікі, што заклікаюць да новага жыцця — жыцця духова паўнейшага, багацейшага, калі грудзі ўбіраюць не толькі ўдушлівае курапацка-чарнобыльскае паветра, але і асвяжаюць азонам прывабнай даўніны, якая мацуе веру ў заўтрашні дзень".

Працяг "Успамінаў" Н. Орсы прадстаўлены раздзелам "Купала ў Празе", які, безумоўна, выкліча цікавасць у кожнага, хто хоча болей ведаць пра народнага песняра Беларусі. Увазе чытачоў прапануецца агляд "Хрысціянская прэса ў Беларусі", падборка інфармацый аб святкаванні ў замежжы 77-ых угодкаў [illegible]шчэння БНР.

Хацелася б, каб не прайшоў незаўважаным нашымі суайчыннікамі за мяжой і ліст "Гісторыкі патрабуюць дапамогі", у якім гаворыцца пра цяжкае фінансавае становішча навуковых часопісаў "Беларускі гістарычны агляд" і "Беларускі гістарычны часопіс".

# І... СМАЧНА ЕСЦІ!

У выдавецтве "Ураджай" выйшла кніга Э. Зайкоўскага і Г. Тычкі "Старадаўняя беларуская кухня". Аўтары гэтага выдання вырашылі зрабіць набыткам нашага сучасніка шмат якія кулінарныя парады, што карысталіся папулярнасцю на тэрыторыі нашай дзяржавы здаўна. Ва ўсякім разе першыя зборнікі, што ўтрымлівалі іх, адносяцца яшчэ да XVII стагоддзя. Акрамя таго, многія рэцэпты можна знайсці, як ні дзіўна, у мастацкіх творах, а таксама ў іншых публікацыях, было б толькі, як кажуць, жаданне. А яно, як бачна, у Э. Зайкоўскага і Г. Тычкі было, таму і з'явілася надзіва патрэбнае выданне, якое адначасова з'яўляецца і свайго роду гісторыяй беларускай нацыянальнай кулінарыі ад даўніны і да сярэдзіны XIX стагоддзя.

Так што паспяшайцеся набыць кнігу "Старадаўняя беларуская кухня" і, як кажуць у такім выпадку, "Смачна есці!".

## Мікола КАСЦЮКЕВІЧ



•

Ліхтарні сточваюць нажы
свайго святла аб цемру ночы.
Як прывід, золкі і прарочы,
спакой застыў каля мяжы
самоты і жадання жыць.
Яшчэ крыху — і забруіцца
ў дарогах-жылах кроў машын.
І звонкі шоргат сонных шын
не здолее як след напіцца
з асфальтавай крыніцы.

•

Я не адзін.
З фотакарткі галосяць
знічкі нязгасныя,
тлее адчай.
Як жа пакутуе
цёмная просінь,
што адбіваецца
ў гэтых вачах.
Шэрую, золкую
неба анучу
вецер маланкай
агністаю сшыў.
Кроплямі
словы расстання
балючыя
б'юцца ў самотную
шыбу душы:
Згаслых сумніваў
сатлелае лісце
нехта праз ноч
за вакном
валачэ.
У адзіноце
знойдзецца выйсце —
толькі ад памяці ж
хіба ўцячэш?

### РОСПАЧ

Калі зняможана
душа
бывае з позняга
спаткання,
іду ў свой сад.
Імглы абшар
крыху суцешвае
пад ранне.
Празрыстая ляжыць
раса —
трава сумуе ўночы
слёзна,
а ў небе месяца
каса
блішчыць пагрозліва-
сур'ёзна.
Ляскоча прывід
па труне,
баліць знявечанае
сэрца
і ўсё шапоча
да мяне:
"Нішто не ўладнае
над смерцю..."
Падасца рэўнасць
недарэчнай
і буду зноў шукаць
сустрэчы.

### ФОТАМАДЭЛЬ

Тваю спакусную
адкрытасць
удала майстра
заманіў
і прагна зыркаюць
сафіты
на цуд
святла і чысціні.
У вачах
салодкая пакута,
нябачны
водбліск залаты —
з пяшчотай,
часу непадсуднай,
першанароджаную
сутнасць
цалуе фотааб'ектыў.

•

Мінчук у пятым пакаленні
Не здольны ўпасці на калені
Перад вясковай цяжкай працай,
Калі дзень доўгі на раллі
Плуг націрае мазалі
І нельга стомай апраўдацца.

Я адцураўся, хоць і ўпотай,
Сялянскага цяжкога поту
І ад знявагі не аслеп.
Але бывае, што далонь
Пячэ няёмкасці агонь,
Калі купляю ў краме хлеб.

•

*А. С-ка*

Нам не здаецца сёння смешным
мінулым кленчыць і гавець —
душа дасведчаная першым
каханнем толькі і жыве.
Знікае ў пачуцці юнацтва,
як птушка,
збітая стралой.
Свае пятнаццаць і семнаццаць
паклалі мы на аналой
вянчання з часам.
Неадрыўна
радкі завуць у небыццё
са здымка,
дзе застыла крыўда
на ўсё астатняе жыццё.

### АЗЯРОД

Я ў новым часе жыў, не ведаў,
Як скарыстоўваў іх мой род.
Хоць часцяком і чуў ад дзеда:
— Снапам патрэбен азярод.

Як часта, дзецьмі, мы гулялі
Ва ўзмежнікаў і вавроў,
І цені продкаў акрылялі
Заместа вежы азярод.

Даўно ў вёску я не ездзіў
І чуў ад колішніх сяброў,
Нібыта хочуць зараз знесці
Больш непатрэбны азярод.

Злы час мінуласць перамеле,
Але няхай жывуць сто год
Спрадвечныя мае арэлі —
Забыты дзедаў азярод.



## Святлана БАГДАНКЕВІЧ

# ДЗЕСЬЦІ ЁСЦЬ ЛЮДСКОЕ БРАЦТВА

•

Нам бы розум калектыўны —
Збудавалі б светлы дом!
Ды не можам мы, бо спім мы
Калектыўным моцным сном.

Ці ж адрозніць мы не ўмеем
Друз — ад зоркі залатой?
Не, не ўмеем, бо хварэем
Калектыўнай слепатой.

А чаму ж не размаўляем
Моваю матчынай святой?
Бо яе мы адмаўляем
Калектыўнай глухатой.

Калектыўна пнецца глупства
Здаць даброты ўсе свае,
Калектыўнае халуйства
Стаць людзьмі нам не дае.

Дзесьці ёсць людское брацтва,
Еднасць мужная ў бядзе...
Калектыўнае ж вар'яцтва
У калектыўнае жабрацтва
Хутка ўсіх нас прывядзе.

### СНЕЖАНЬ 1994 ГОДА

Дзень — як ноч, і далёка да Бога...
Гэтак цёмна на Белай Русі!
Угнявілі — не дасць Ён нічога,
Нават снегу зімой не прасі.

Над панурым, прыгнечаным людам —
Чорны смог, як расплата за грэх.
Ледзь пад ногі — і робіцца брудам
З чысціні сваёй прывіднай снег.

І згушчаецца морак ілжывы,
І зацягвае вір мітусні
Тых, хто прагне ўсё толькі спажывы,
А не праўды і чысціні.

### СПАКОЙ

Як нічасце, жаданы, ды шкодны
спакой.
Пачнеш зарастаць
трыснягом, асакой,
Травой,
і зацягвацца цінай.
Карысней
не сажалкай быць, а ракой —
Змяняцца, жывой папаўняцца вадой,
Наперад плысці
і цягнуць за сабой,
І лопасці рухаць
плацінай.

Рачныя шляхі —
каб да мора вялі!
Там
хвалі свае з акіянскімі злі —
І будзеш агромністыя караблі
Магутнаю
гушкаць
рукою.
Там
вольным здзяйсненнем душу наталі!
Усё будзеш мець,
што ні ёсць на зямлі!
І толькі
не мецьмеш
спакою.

*г. Мінск*

Проза

Людміла РУБЛЕЎСКАЯ

# ЛЯСНЫЯ ІМПРЭСІІ



## 1. НА САМАЙ ВЫСОКАЙ ГАЛІНЦЫ САСНЫ...

На самай высокай галінцы сасны сядзіць Лесавічок.

Ля вершаліны ігліца мяккая, маладзенькая, нібыта пакрытая воскам... І сама вершаліна, як загарэлая дзявочая шчака — бурштынавая, гладкая... Лесавік пагойдваецца на сваёй галінцы ў свеце аблачынна-сонечным, хвойнакарункавым, і глядзіць на мяне праз квадратнае шкло стандартнага акна Дома творчасці пісьменнікаў. У "нумары" — задуха, а там, дзе сядзіць Лесавічок, ветрык...

Лясны дух выглядае незвычайна. На ім не жывапісныя лахманы, не простая кашуля — а зграбны фрак, і дзве чорныя фалды звісаюць з галінкі, як раздвоены пірацкі сцяжок...

Што прымусіла Лесавіка так змяніць свой воблік? Хіба суседства з гэтым Домам творчасці? Чорныя фалды пагрозна тапырацца, як вусы чорных сярэднеазіяцкіх жукоў з калекцыі аднаго нашага знаёмага біёлага. Гаспадар калекцыі — бялявы анемічны інтэлігент, а яго ўлюбёнцы — сапраўдныя пачварышчы з растапыранымі калючымі лапкамі. Экспанаты смярдзяць фармалінам, іх чорныя рыцарскія латы працяты бязлітаснымі дзідамі-шпількамі. Але гэта воі — нават мёртвыя, закліканыя ў вялікі крыжовы паход Маці-Прыроды супраць паганцаў-лю-дзей і іх паганай цывілізацыі...

Мусібыць, чорны фрак Лесавіка на сасне — таксама аб'яўленне вайны нам, пыхлівым сляпакам? Бо рэзкая змена знешняга вобліку, прадпісанага прыродай і "сацыяльным становішчам" — ці не ёсць гэта знак аб'яўлення вайны свету? Так падманутая жанчына бяжыць у цырульню з крыкам — "Падстрыгчы, завіць, пафарбаваць"... Так мамчын сынок-вундэркінд, вырасшы з аксамітных касцюмчыкаў, улазіць у драны джынсовы строй, перастае стрыгчыся і запіхвае ў самы далёкі кут антрэсоляў скрыпачку і ангельскі слоўнік... Ды й кожны, перш чым несці ў "высокія" кабінеты прашэнне-хадайніцтва-заяву, апранае касцюмчык, гальштук, новыя шкарпэткі і, магчыма, нават мые галаву...

Лесавічок у фраку! З кім ты збіраешся ваяваць? Ці са мной? Хіба я парушыла твой спакой, ссекла сонечныя дрэвы, што раслі на месцы гэтай будыніны, прыдушыла духмяную траву плітамі бетонных дарожак і кожны вечар перашкаджаю зязюлям падкладаць яйкі ў чужыя гнёзды дыскатэчным "Прилетай скорей, пташечка моя..."

Лесавічок пагойдваецца на самай высокай галінцы сасны. У промнях вечаровага сонца паблісквае яго белая манішка. Даражэнькі, я б таксама з большым задавальненнем пагойдвалася б з табой у сонечна-карункавай вышыні, чым сядзець у душным "нумары" (не пакоі), за сталом, абшарпаным сотнямі локцяў, у шуфлядзе якога папярэднія жыхары забыліся выпацканую змятую цыгарэту... А можа, ты не Лесавічок, а Дамавік гэтага Дома творчасці? Што ж прымусіла цябе, небараку, пакінуць яго муры? Ці ты проста вырашыў падыхаць свежым лясным паветрам?

Галінка, як дырыжорская палачка, адмервае мудрагелісты такт Вечнай сімфоніі. Аблачынка зачапілася за юныя хваінкі і, спрабуючы вырвацца на прастору, адчайна круціцца на месцы, звіваецца бязважкім ззяючым целам, расцягваецца ў небе... Ну, вось, адчапілася, паляцела з ветрыкам у абдоймах... А чорна-белы лесавік хоць бы варухнуўся... Але — не — хістануліся фалды шыкоўнага фрака, узняліся шырокія рукавы...

Фр-р-р-р...

Сарока, сарока... Дзе была? Далёка...

Дарэчы, той аматар жукоў яшчэ і арнітолаг... А перад жаніцьбай на маёй сяброўцы прабіў сабе нагу, наступіўшы на ласіныя рогі, зваленыя ў вітальні...

Сасна пагойдвае карункавай вершалінай, хапае дурненькія аблачынкі за доўгія залацістыя спадніцы.

Па бетонных дарожках прагульваюцца бізнесмены ў шортах. Яны ідуць з лазні, схадзіць у якую я не магу з прычыны "адсутнасці наяўнасці" грошай. І ўсё ў акаляючым свеце мае адпаведную шпільку з адпаведнай шыльдачкай "Від такі-гэткі... Жыць мусіць тамака і тамака... І больш нідзе". Сарока лётае з дрэва на дрэва і нават плётак не носіць на сваім доўгім хвасце... І не патрэбная тут ні я, ні тое, што пішу, ні тое, што буду пісаць...

І ўсё-ткі — я пакідаю за сабой "права на эмоцыю", як аднойчы сказала з трыбуны адна энергічная паэтка.

Я маю права на эмоцыю. І на гэты пісьмовы стол. І на гэты лес. І на гэтае неба. І на Лесавічка на самай высокай галінцы сасны.

І — Бог ведае — можа, гэтае маё права і ёсць адзіная вартая каштоўнасць у гэтых сцэнах?

## 2. КУ-КУ

### КАЗКА, РАСКАЗАНАЯ ДНЁМ У ДОМЕ ТВОРЧАСЦІ ПІСЬМЕННІКАЎ

Князь быў хуткі на расправу.

Апошняе дрыжачае "Ку-ку" яшчэ згасала між бухматых лап яліны, а няшчасны ляснік, што мусіў па загадзе ўладара імітаваць зязюлю, зваліўся на пышныя папаратнікі з гаспадарскай куляй у халопскім сэрцы. Сэрца тое сціснулася ад жаху амаль да кропкі, але князь патрапіў усё роўна — бо страх прыцягвае смерць...

Не забяспечыў паляванне дзічынай — рабіся дзічынай сам... Лагічна.

Князь не быў злы. У князя была хворая пячонка і камяні ў мачавым пузыры. Канешне, гэта яшчэ не падставы, каб забіваць, хто ні трапіўся, але, калі баліць пячонка, націскаць на курок нашмат лягчэй...

Ніводзін з княжацкае світы не здзівіўся і не абурыўся. Цела забітага ўзвалілі на каня, гэтак жа, як сам ляснік узвальваў забітых ім казуль і лісіц... Паляванне з'ехала, і ніхто не заўважыў, што пад сасной, на прымятай папараці, засталася бессмяротная існасць нябожчыка, у прастамоўі званая душой. Сэрца небаракі, якое падчас мусовага кування сціснулася ад смяротнага жаху да памераў кулі, выбілася стрэлам з фізічнага цела. І цяпер ляснік быў ні жывы, ні мёртвы. Спалоханая кропка пульсавала ў нябачнай плоці, як шэры начны матыль, не даючы душы канчаткова развітацца з гэтым непрыемным светам.

Да істоты, што яшчэ нядаўна была княжацкім леснікам, вярталася свядомасць. Найперш ён (для зручнасці будзем па-ранейшаму называць "гэта" леснікам) паспрабаваў заплюшчыць вочы — сляпіла сонца, сеючы прамені праз скрыжаванні яловых лапак... Але зразумеў, што вочы ўвесь час былі заплюшчаныя — проста вейкі зрабіліся празрыстыя... Ляснік варухнуўся. Рукі і ногі, несумненна, былі, але нязвыкла лёгкія — нібы з кудзелі... Небарака паспрабаваў нешта вымавіць, азвацца, як азываюцца людзі да рэальнасці падчас начных жахаў, каб прачнуцца... Але з празрыстых вуснаў вылецела толькі хрыплае дрыжачае "ку-ку"...

Прабегла лісічка, маладзенькая, сонечна-рудзенькая, паглядзела праз лесніка вочкамі-чарнічкамі... Праляцеў матылёк-лімоннік, за ім — яшчэ адзін, закружыліся разам у таямнічым вальсе кахання... Дзяцел застукаў у ствол яліны, цярушачы на цёмныя папараці пылападобнае пілавінне... Божы свет быў прыўкрасны. Але ўсю істоту лесніка напаўняў застылы жах — трапятаў недзе ў грудзях, расплываўся хвалямі...

"Ку-ку! Ку-ку!" — калі б у гэтым лесе існавалі прывіды, яны паўміралі б са смеху, назіраючы, як празрыстая істота, недарэчна і адчайна махаючы рукамі, узнялася над папараццю і паплыла-пайшла, кідаючыся ў розныя бакі — не раўнуючы, муха ў малацэ... "Ку-ку!"

І лес быў бы пазбаўлены ад прывідаў, што, несумненна, паспрыяла б усталёўванню традыцый Асветніцтва ў тутэйшых паселішчах...

Але, хаця прывідаў тут і не было, традыцыі Асветніцтва ў тутэйшых сялян не прыжываліся. Мусібыць, таму, што ў мясцовага князя была хворая пячонка?

А князь адпачываў на ўтульнай канапе ў ружова-сінія палосы. Як чалавек па сутнасці не злы, ён распарадзіўся добра забяспечыць сям'ю забітага лесніка і ўзяць яго старэйшага сына ў дом для навучання на прыслугу. Цяпер сумленне князя спакойна спала... Затое заварушыліся каменьчыкі ў мачавым пузыры... Князь пацягнуўся за шклянкай з лекавым адварам...

— Ку-ку!

За расчыненым вакном — ні дрэўца на паўвярсты (князь страшэнна баяўся замахаў на сваю асобу і загадаў высекчы ўсё вышэй травы на тэрыторыі палаца, каб прагледаўся кожны вяршок). Тым не менш — "ку-ку" гучала зусім блізка, вось тут, перад акном...

— Ку-ку!

Хіба зязюля можа так куваць?

— Ку-ку!

"Пане Езус!" Князь перастаў намацваць босымі нагамі пантофлі і выскачыў у калідор як быў — басанож, у непадвязаным халаце, а ўжо выраз твару... Слугі, што пільнавалі княжацкіх загадаў ля дзвярэй апачывальні, у жаху пападалі на калені...

Так, не лёс быў адпачыць у той дзень княжацкаму сумленню. Дый на наступны дзень — таксама... Дзе б ні хаваўся князь — яго даганяла хрыплае "ку-ку". Слугі жагналіся, сабакі вылі, нават спешчаны падушкападобны мопс княгіні...

Апошняй кропляй, пасля якой знесла хваляй жаху княжацкую вытрымку, быў сняданак. Ніхто з сям'і не сеў за стол з гаспадаром, адзін бедны родзіч, здаецца, стрыечны дзядзька, які заўсёды аддана глядзеў у вочы кармільцу, і цяпер рабіў гэтак жа, і нават не моргаў падчас прывідных "ку-ку"...

"Падла, на спадчыну спадзяецца..." Князь гнеўна абвёў вачыма рад чыстых талерак і пустых крэслаў, адшпурнуў сурвэтку і ўскочыў з-за стала...

Лекар-немец доўга даследаваў цела лесніка. Нарэшце, выціраючы чыстай анучкаю скальпель, пан лекар выйшаў да паважна чакаючых яго аўтарытэтнага меркавання асоб і аб'явіў дзіўную рэч. У целе нябожчыка адсутнічала сэрца! Усё начынне, патрэбнае для яго працы, было на месцы, але само сэрца таямніча знікла! Праўда, там, дзе яно звычайна функцыянуе, даследчык знайшоў кулю, якую вызначыў прычынай гвалтоўнай смерці, але гэта не магло вытлумачыць паталогію...

"Ку-ку!"

Князь з'ехаў за мяжу і прадаў маёнтак. Ці чулі тыя, хто жыў там пасля, нешта незвычайнае і звышнатуральнае, невядома...

Пасля надышоў час, калі фізіёлагі і натуралісты выявілі, што ўсе нашы пачуцці спараджаюцца вібрацыямі нервовых канчаткаў і двума-трыма асноўнымі інстынктамі, сэрца ёсць мышцавы мяшок для перагонкі крыві, а душа — шкодная выдумка эксплуататарскіх класаў...

Маёнтак згарэў. Лес наблізіўся ўшчыльную да папялішча, але гэта быў ужо здрабнелы, змізарнелы лес, без казуль і лісіц, не кажучы ўжо пра зуброў ды балотных рысяў. Але ўсё гэтак жа сыпаў дзяцел на цёмныя карункі папаратніка белую драўняную муку, а на Купалле расцвітала на імгненне і гасла пунсовая Папараць-кветка, якую ніхто не шукаў... А зязюлі, беларускія багіні лёсу, лічылі і лічылі гады захопленых пабудовай цывілізацыі новага кшталту людзей...

І людзі прыйшлі сюды. Але яны не верылі ў забабоны, атрымлівалі зарплату і прэміяльныя і спадзяваліся дажыць да пенсіі. І лес ссеклі зноў. Будынак, што паўстаў на месцы панскага маёнтка, былы пан прыняў бы за вялікую стайню... Ці, зважаючы на вежу з вялікімі вітражнымі вокнамі, усыпальніцу з капліцай...

А прызначэнне будынка было самае рамантычнае. Сюды мусілі прыязджаць творчыя людзі, каб на ўлонні прыроды (дальбог, сапраўднай самадайкі, бо пускае ў гэтае ўлонне ўсіх жадаючых) ствараць бессмяротныя (ці смяротныя), але цалкам літаратурныя творы.

Напачатку так і было. Пасля ж творчы люд змізарнеў і парадзеў, як той лес, і ў дом пачалі прыязджаць людзі творчыя адносна тых грошай, што ўмелі зарабляць у адрозненне ад абсалютна творчых паасобнікаў чалавецтва...

У шыкоўным нумары з мансардай і вялізным пісьмовым сталом пасялілася тыповая сям'я новага часу — мама-цырульніца, тата — уладальнік шапіка з жавальнымі гумкамі і гумкамі іншага прызначэння, і іхні сын, які быў проста пяцігадовым дзіцянём.

Цырульніца прасавала на шырокім пісьмовым стале свае шматлікія строі, татулька-гумкавы дабрадзей хадзіў у бар па каньяк, а мілае дзіцянё душыла на шыбе вялікага акна, за якім адкрывалася цудоўная панарама сасновага лесу, розных кузюрак...

"Ку-ку!"

— Зноў гэтая ненармальная зязюля! І лётае ж пад самымі вокнамі! — абурылася цырульніца. Яна не ведала, як выглядае зязюля, і шчыра лічыла, што хрыплае "ку-ку" далятае ад бяскрыўдных шпакоў, якія сапраўды лёталі проста перад вокнамі.

"Ку-ку" жаласна гойдалася ў паветры. Паўпразрысты шэры матыль пульсаваў перад самай шыбай... Цырульніца дастала з дамскага несэсэра прыгожы балон з дэзадарантам. Пш-ш-ш-ш...

"Ку-к-к-ку... к-к-ку..."

Трапяткі матыль прыціснуўся да самай шыбы...

"Кій-йа! А-а! — пругкі кулачок пяцігадовага жэўжыка абрынуўся на чарговую кузюрку. Матыль тарганўся раз, другі — і зваліўся ў шчыліну паміж падваконнем і пісьмовым сталом. Ледзь чутны ўздых палёгкі пранёсся па пакоі... Душа лесніка-зязюлі бесперашкодна ўзнеслася туды, дзе ёй даўно ўжо належала быць.

Так скончылася гэтая фантастычная гісторыя, распачатая шмат гадоў таму. Канешне, ніхто гэтага не заўважыў і ніхто б у гэта не паверыў. І хаця б можна было яшчэ паразважаць над сутнасцю і недахопамі гэтага сюжэта, пашукаць аналогій і распрацаваць сістэму яго сімвалаў, але цырульніца ўжо вядзе свае сямейства абедаць у кафэ, і фрызура на яе галаве пераліваецца ад перакіснавадародна-белай да звычайнабрунетна-чорнай...

## ДАПАМОГ... "ПРЫОРБАНК"

**У Мінскім музычным вучылішчы імя М. Глінкі адбыўся канцэрт аркестра рускіх народных інструментаў горада Ліды (мастацкі кіраўнік і дырыжор Аляксандр Патапейка). Калектыў прадэманстраваў высокі прафесійны ўзровень. З першых тактаў зала была пакорана пранікнёна-кранальным выкананнем, а збалансаванасць груп і аркестравы ансамбль проста выклікалі захапленне!**

**Аркестр існуе на базе Лідскага музычнага вучылішча — аднаго з самых маладых вучылішч Беларусі. Але нягледзячы на сваю маладосць музыканты і дырыжор дастойна развіваюць багатыя нацыянальныя традыцыі аркестравай творчасці. Ужо сёння калектыў можа ганарыцца сваімі салістамі, вялікімі і разнастайнымі канцэртнымі праграмамі.**

**Вядома, нават самы выдатны калектыў не можа існаваць і рэалізоўваць сябе без надзейнай фінансавай падтрымкі. Балазе, у Лідзе ёсць людзі, якія цэняць мастацтва. Значную матэрыяльную дапамогу аказаў аркестру кіраўнік Лідскага філіяла "Прыорбанка" Валеры Барадзін. Дзякуючы бескарыслівай дапамозе гэтага камерцыйнага банка аркестру апладзіравалі слухачы Ліды, Гродна, Мінска. У маладога творчага калектыву ёсць добрая будучыня: фінансавая падтрымка, вялізны патэнцыял, вопытны кіраўнік і вялікая светлая мара — дарыць людзям музыку!**

Галіна ПУШКІНА,
выкладчык Лідскага музвучылішча

## МУЗЫКА МАЛАДЫХ

**У Гродзенскім музычным вучылішчы ўжо стала традыцыяй праводзіць канцэрты з твораў таленавітай моладзі. Гэта традыцыя ўзнікла ў сярэдзіне 70-ых гадоў дзякуючы ініцыятыве педагога-энтузіяста, старшыні Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны Віталія Радзіёнава.**

**Многія з тых, хто выносіў на суд таварышаў свае першыя опусы, пазней абралі кампазітарскі шлях або прадаўжаюць пісаць музыку побач з выканаўчай і педагагічнай дзейнасцю. Сярод іх кампазітары Яўген Паплаўскі, Мікалай Калешка, Вадзім Сіманаў, Ала Маянская, вядомыя ў рэспубліцы гітарысты і кампазітары Уладзімір Захараў і Валерый Жывалеўскі, музыказнаўцы Іна Двужыльная, Вера Каштальян, Галіна Скіба, — усе яны вучыліся па кампазіцыі ў Віталія Канстанцінавіча! Вось і цяпер яго выхаванцы паказалі нямала цікавай музыкі: на канцэрце мы пачулі п'есы для скрыпкі Аляксандра Валавіна, п'есы для баяна Аляксандра Антончыка, Дзіцячы альбом для акардэона "Свет цацак" Наталлі Дэбыш і Дзіцячы альбом для фартэпіяна "Летнія замалёўкі" Максіма Круглага, прагучалі таксама песні Марыны Пятровай, Дзмітрыя Шчэрбы, Сяргея Шымбарэвіча, Наталлі Дэбыш.**

Таццяна СМІРНОВА,
завуч Гродзенскага
*музычнага вучылішча*

## "МАСТАЦТВА", N 7

**Нумар адкрываецца артыкулам У. Конана "Гармонія нацыянальнага і універсальнага ў беларускай культурнай традыцыі". Раздзел "Музыка" аб'ядналі згадкі пра кампазітара А. Арэхава, які заўчасна пайшоў з жыцця, — "Беларусь няхай дружна запяе..." (запіс успамінаў Т. Мушынскай), нарыс А. Марціновіча пра аднаго з піянераў беларускай музыкі кампазітара А. Абрамовіча "Буйныя кроплі на шыбах", слова К. Сядовай пра кампазітара В. Кузняцова "Мастацтва, якое спрабуе пераадолець свет".**

**У раздзеле "Народнае мастацтва" прадстаўлены Т. Варфаламеева ("Каб і голас, і слёзы, і словы"), А. Сташкевіч ("Заслаўе на парозе XXI стагоддзя"), Г. Б. ("Знесла курачка яечка...").**

**"Сшытак" "Выяўленчае мастацтва" выглядае наступным чынам: "Карціна-абагульненне" А. Гарон, "Незапатрабаваны талент" Л. Дробава, "Цярпенні і радасці працоўні..." М. Раманюка, "Запросіны ў свет радасці" Г. Фатыхавай...**

**У першую чаргу на аматараў сцэнічнага мастацтва разлічаны раздзел "Тэатр": Л. Грамыка запрашае на нядаўняе тэатральнае свята "Сакавіца" ("Штучныя кветкі"), а да яе запрашэння далучаецца Т. Ратабыльская ("У акцёрскім вымярэнні. Што можна было б пакінуць па-за ўвагай..."), змешчана заканчэнне артыкула Г. Алісейчык "Містэрыяльныя вытокі тэатра".**

**Г. Пятроўская ("Праўдзівае") расказвае пра даследчыка матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў М. Нікіфароўскага.**

**У нумары ёсць матэрыялы, змешчаныя пад традыцыйнымі рубрыкамі "Мастацкае фота", "Рэцэнзіі", "Падзеі, факты, інфармацыя".**

# "СЭРЦ МАЛЫХ" ЯДНАННЕ

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

Сёлета ён быў трэці. Адбыўся, прабіўшы жалезабетон абыякавасці, неразумення, скепсісу, а то і варожасці. Летась дамарослыя зычліўцы спрабавалі давесці, што "правядзенне масавых фестывальных мерапрыемстваў паспрыяе эпідэміі цяжкіх захворванняў". Сёлета пускалі чуткі, быццам прыход паломнікаў *з Оршы (туды яны дабіраліся цягніком)* будзе трактаваны ўладамі як "несанкцыянаванае шэсце", створыць канфліктную сітуацыю, спраакуе грамадскія беспарадкі. Арганізатарам фестывалю настойліва рэкамендавалі не ўжываць слова "паломнікі", "пілігрымы". Тады вырашылі карыстацца агульным — "госці". А на пытанне: "Чаму гэткія падазроныя госці, што здалёк ідуць пешкі?" — мелася пытанне сустрэчнае: "Ці не дадзіце транспарт, каб сустрэць на аршанскім вакзале і прывезці ў Магілёў дзве сотні гасцей, што сыдуць з цягніка?"

Ужо ў час свята "радыкальныя апазіцыянеры" проста распраўляліся з яго рэкламай: афішы на гарадскіх дошках аб'яў няўгледная спрытная рука ці зрывала, ці заклейвала...

Будзем лічыць, аднак, што ўсё гэта — чыесьці "вушы" на фоне фестывальнага сонца, якое асвятліла і асвяціла Магілёў воляю "ўладара сусветаў і сэрц малых".

## МЕСЦА ПАД СОНЦАМ

Хапіла на ўсіх і месца, і сонца, усмешка *якога вымусіла забыцца пра такую сур'ёзную* рэч, як парасон. Разам з фестывальным сонейкам усміхаліся ўдзельнікі свята, утвараючы магутную крыніцу добрай энергіі: колькасць гасцей была сёлета блізка тысячы чалавек, а яшчэ ж самі магілёўцы! Наведнікаў канцэртных праграм, што адбываліся на адкрытай эстрадзе або ў касцёле, ніхто не падлічваў. Затое наконт урачыстасцей адкрыцця і закрыцця ў палацы культуры "Хімвалакно" можна сказаць, што прысутнічала поўная тысяча (столькі крэслаў у зале) плюс шматлікія "стойкія" гледачы, без месцаў. Уявіце сабе, які вялікі акт *духоўнага яднання здзяйсняўся ў гэтай зале,* калі шматнацыянальны зводны хор вянчаў фестывальны сход гімнам-малітвай "Магутны Божа"! Дырыжыраваў маэстра Віктар Роўда.

Знаны хормайстар і сёлета ўзначальваў міжнароднае фестывальнае журы, у складзе якога змен амаль не адбылося. Зноў працавалі поруч вядомыя дзеячы айчыннага мастацтва Ганна Каржанеўская, Любоў Каспорская, Віктар Скорабагатаў. Як і летась, прыехаў з Лондана Гай дэ Пікарда. З'явілася ў судзейскай камандзе і новая асоба: мастацкі кіраўнік камернага хору "Фермата" з Познані Матэвуш Сібільскі.

Твары — усё тыя ж і незнаёмыя, ход падзей — уладкаваны і з апрабаваннем новага... Фестывальнае сонца гартавала гэты сплаў традыцыйнага і свежага.

## "КЛЯТЧАСТАЕ" ЖЫЦЦЁ

Падарожная кніжыца журналіста — далёка не ўзор дзённіка. Зробленыя ў ліхаманкавым рытме накіды, здараецца, не падлягаюць расшыфроўцы, і тады... Але ці варта пра "тады"? Папраўдзе, абмінуўшы адно-два неразборлівыя словы, можна без адмысловых намаганняў аднавіць праз паспешлівыя занатоўкі карункавую повязь фактаў, назіранняў, эмоцый, высноў.

У "сетцы" фестывальнага тыдня, здаецца, не заставалася пустых клетачак. І жыццё ішло па гэтых клетачках, як па нотах: рэпетыцыі, *праслухоўванне конкурсных праграм* у касцёле або ў Ліцэі музыкі і харэаграфіі, штовячэрнія канцэрты харавой і арганнай музыкі ў храме, канцэрты на адкрытай пляцоўцы, традыцыйная сустрэча ля вогнішча дружбы і першая спроба наладзіць навукова-практычны семінар для хормайстраў і ўсіх цікаўных...

Ужо за два дні да ўрачыстага адкрыцця горад актыўна жыў фестывалем. Апроч канцэртаў, арганізатары наладзілі некалькі выстаў: "Крокі фестывалю" (гэтая своеасаблівая фотапанарама мінулых імпрэзаў экспанавалася ў касцёле ўвесь тыдзень), "Божае слова на *кніжных старонках*", "*Вобразы Ерусаліма*" (дзіцячае маляванне). У выставачнай зале абласнога аддзялення Саюза мастакоў, дзе нас гасцінна прымала яе загадчыца Ніна Аляксеева, была прадстаўлена вялікая тэматычная, адпаведная духу хрысціянскага музычнага фэсту, падборка работ прафесійных майстроў і творцаў-аматараў.

У клетачках маёй "блакнотнай памяці" захаваліся некаторыя прозвішчы. Сяргей Фацін, таленавіты разбяр-самавук, які ўвасобіў у дрэве кананічны сюжэт "Узнясенне", зрабіў прыгожы абраз-складзень на тэму "Тайнай вячэры". *Дзяніс Арсланаў, даравіты 18-гадовы* юнак, які ў пяшчотным рытме каляровых нітачак угадаў мелодыю "Накцюрна" — і гэтак назваў свой габелен. Муж і жонка Таболічы, у чыіх жывапісных вобразах дзяцей са свечкамі праглядаюць рысы іх уласных дачкі і сына. Васіль Камароў, алегарычнае палатно якога пад назваю "Сон" прыцягвае позірк і прымушае ўглядацца то ў панараму старадаўняга, ужо нерэальнага, як міраж, Магілёва, то ў спакроўленую з гэтым краявідам фігуру асілка — мо здарожанага шляхам да страчанага горада, мо счараванага летаргіяй... Карней Аляксееў запомніўся як стваральнік дзівоснага, нібы нягучная малітва, Анёла — са светлага, выпеставанага паўднёвым сонцам, платанавага дрэва...

*Між іншым, сярод мастацкіх прац, прадстаўленых* на выставе, было некалькі, вызначаных у якасці прызоў удзельнікам фестывалю. Прызы наогул рыхтаваліся разнастайныя, і шмат: двухгадовы вопыт правядзення конкурсных агледзінаў, здаецца, зрабіў мудрэйшымі і арганізатараў, і суддзяў. Урэшце, спіс узнагароджаных, заахвочаных, ушанаваных паглынуў ладную частку майго блакнота. Таму я вылучыла толькі лідэраў, якіх і назвала ў першай пасляфестывальнай публікацыі ("ЛіМ" за 21.07.95 г.).



Але паспрабуй вызначыць адзін для ўсіх ацэнкавы крытэрый, калі сярэднестатыстычна*га ўдзельніка фестывалю нават прыдумаць* немагчыма. Ад падлеткаў да пенсіянераў, ад вакальнага дуэта да акадэмічнай капэлы, ад саліста філармоніі да ансамбля вясковых вернікаў, ад студэнцкага хору да народнага гурта: нішто сабе!

## ЗНАЁМСТВЫ І ЗНАЁМЦЫ

А ведаеце, сёлета годна паказалася Украіна: камерны Галіцкі хор "Эўшан", ансамбль "Свіціч" Нежынскага педінстытута, каларытны народны ансамбль "Дозвілля" з Жытоміршчыны, прафесійная спявачка з Львова Ларыса Дарэнская, дзіцячы царкоўны хор "Відлуння" з Драгобыча...

Беларусь параўнальна з леташнім фестывалем прадставіла менш калектываў акадэмічнага кшталту. Затое адбыліся прыемныя знаёмствы з народным квартэтам "Бялыніца" (кір. Таццяна Чайкоўская), з хорам магілёўскага касцёла св. Станіслава (кір. Эма Давыдава), з пеўчымі дзеткамі з гомельскага сабора св. Апосталаў Пятра і Паўла (кір. Галіна Яроменка)...

Былі й сустрэчы з добрымі знаёмцамі. Хаця — хаця напачатку я проста збянтэжылася, убачыўшы ў складзе ўдзельнікаў Акадэмічны народны хор Беларусі імя Г. Цітовіча. Боязна было ўявіць сабе, як прыме гэтую шматлюдную зычнагалосую грамаду трапяткая атмасфера храма.

Калі дайшла конкурсная чарга да "візітоўкі народна-харавога спявання Беларусі", я, здаецца, перастала дыхаць, пакуль не прагучаў першы акорд... А далей — за фразаю фраза, і я нават не заўважыла, як дыханне маё злілося з музычным дыханнем хору. На магутным, як звон царкоўных бомаў, крашчэнда хваля духоўнай энергіі дасягала такой вышыні, што ўздымала за сабою напорыстую хвалю эмоцый, а тая — дай толькі волю! — была ўжо гатовая падступіць да вачэй і рассыпацца рухавымі, як ртуць, кропелькамі...

Я зразумела, што па сутнасці й не ведала гэты хор, у якім знаны маэстра Міхась Дрынеўскі збудзіў крылатую душу. Ён правёў сваіх пеўчых праз выпрабаванне сумневам, праз пярэчанні, праз вялікую творчую рызыку — асвоіўшы духоўны рэпертуар. Ён паказаў, што значыць "харавая акадэмія", якое багацце тэмбраў і дынамічных нюансаў, колькі тонкасці тоіць у сабе зусім зямны, узгадаваны фальклорам, выхаваны масавай песняй, голас, калі гэты голас звяртаецца да неба. Ён паказаў, якой узрушальнай можа быць драматургія канцэртнай праграмы, калі пасля старабеларускага каляднага канта ды кананічных твораў М. Куліковіча, А. Туранкова выбухне раптам напамінак пра "зорку чорную Чарнобыля" — трагічнай сілы малітва нашага сучасніка Э. Наско — "Ратуй нас, Божа"...

Публіка, парушаючы конкурсны этыкет, ладзіла авацыю пасля кожнага нумара. Журы, не зважаючы на гонар судзейскага мундзіра, дружнай чародкай пашыбавала да маэстра Дрынеўскага з віншаваннямі. Непрыхаваным захапленнем іскрыліся вочы замежных гасцей. Каму дастанецца Гран-пры, было ўжо відавочна.

Гэтую *пераходную ўзнагароду*, абраз Маці Божай, хору ўручалі на цырымоніі закрыцця фестывалю. Міхась Дрынеўскі ўкленчыў перад іконай і пацалаваў святую выяву...

І яшчэ пра знаёмыя твары. Прыехалі ў Магілёў лаўрэаты леташняга конкурсу Новакузнецкі муніцыпальны хор пад кіраўніцтвам Сяргея Ліпавога, салістка Беларускай дзяржаўнай філармоніі Таццяна Цыбульская, арганіст Уладзімір Неўдах, якому давялося зноў, і не раз, выконваць свой канцэртмайстарскі чын. А лаўрэат І Міжнароднага фестывалю "Магутны Божа" Мінскі абласны камерны хор "Санорус" пад кіраўніцтвам Аляксея Шута зноў пацвердзіў *сваю* рэпутацыю самага духоўнага са свецкіх калектываў і — што ўзаемазвязана — здольнасць самаахвярна працаваць на энтузіязме.

Авацыя суправаджала вячэрні канцэрт хору "Санорус" у касцёле. Гучала сучасная беларуская музыка: фрагменты з "Усяночнай" Сяргея Бельцюкова ды "Літургія св. Іаана Златавуста" Алега Залётнева. Быў і абавязковы "біс": бліскучае, дынамічнае выкананне гімна Міколы Равенскага "Магутны Божа". Менавіта гэтым творам хор заканчвае цяпер усе свае выступленні, бо, як патлумачыў А. Шут, — "гэта наша душа".

Да слова, частачка душы хору "Санорус", які з Маладзечна пераехаў сёлета ў сталіцу, у Маладзечне і засталася. "Аніма" — гэта і значыць "душа". І гэтак назвалі сябе шасцёра маладзечанцаў, якія не паехалі з хорам у Мінск, працягваюць выкладаць у родным музвучылішчы. Спявае тут, дарэчы, і колішняя фестывальная "зорачка" Маргарыта Васілевіч, што сваім непаўторным сапрана аздабляла вакальную палітру "Саноруса".

"Аніма" працуе пад кіраўніцтвам Андрэя Спічака, спявае не толькі хрысціянскую музыку, а і арыгінальныя апрацоўкі беларускага фальклору, якія ўпрыгожылі выступленне гэтага новага лаўрэата ля фестывальнага вогнішча.

Прадоўжу, аднак, пра "Санорус". Хору давялося ўдзельнічаць у сёлетнім семінары. Спадар Пікарда, які, расказваючы, можа сёетое і наспяваць, прапанаваў вусны нарыс па гісторыі развіцця беларускай царкоўнай музыкі. Акрэсліў таксама ўплыў беларускай народнай песні на царкоўную традыцыю, пра што сведчыць, напрыклад, творчасць М. Равенскага. Ну, а пра лёс гэтага кампазітара апавядала яго дачка — ганаровая госця фестывалю Вольга Мікалаеўна Аляксеенка-Равенская. Падчас семінара хор пад кіраўніцтвам А. Шута быў не проста "жывой ілюстрацыяй", а падараваў прысутным паўнавартасны, натхнёны і захапляльны канцэрт мала каму пакуль вядомай беларускай духоўнай музыкі.

Але тут замест слоў захаплення мушу сказаць нешта іншае. На жаль, вызначаючы падчас цырымоніі закрыцця ўсе адметнасці сёлетняга фэсту, раздаючы ўзнагароды і раскашуючы на падзякі, згадваючы ўсіх сяброў і спонсараў, ніхто з прысутных пра "Санорус" і не ўспомніў. Яму не знайшлося месца сярод *удзельнікаў заключнага канцэрта.*

Цёплага слова не прагучала і з нагоды таго, што дзякуючы "Санорусу" сёлета ўпершыню на фестывалі адбылося знаёмства з сучаснай беларускай духоўнай музыкай і нават з яе аўтарамі. А гэта ж была і падзея для публікі, і, мабыць, выток той завядзёнкі, якой бракавала на фестывалі яшчэ летась (і даводзілася пра гэта пісаць). Цяпер на яе брак

ЛіМ ЧАСАПІС



## ГУЧЫЦЬ АРГАН



Вялікай папулярнасцю ў Пінску карыстаецца зала арганнай музыкі ў адрэстаўраваным старадаўнім будынку. Сюды прыязджаюць з канцэртамі лепшыя арганісты, камерныя аркестры. Гучаць тут галасы і знакамітых выканаўцаў рамансаў, народных песень, оперных спевакоў.

А ўсё пачалося з энтузіязму аматараў арганнай музыкі. Былы дырэктар пінскага камбіната будаўнічай індустрыі, а цяпер пенсіянер Барыс Васільевіч Косцін шукаў арган у многіх краінах. І вось у Вільні яму ўдалося купіць выдатны інструмент амерыканскай фірмы "Ален". Сам ездзіў па яго, памагаў устанаўліваць. Цяпер Барыс Васільевіч — пастаянны наведвальнік залы, актыўны памочнік яго супрацоўнікаў.



*На здымках: будынак, у якім гучыць арганная музыка. Барыс Васільевіч Косцін ля аргана.*

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ*

## "SONORUS" ЛЯ ХВАЛЯЎ БАЛТЫКІ

Мінскі абласны камерны хор "Sonorus", якім кіруе Аляксей Шут, удзельнічаў у нядаўнім традыцыйным фэсце харавых калектываў, што ладкуецца ў польскім мястэчку Мендзы-Здруй. Гэта непадалёк ад Шчэціна, на ўзбярэжжы Балтыйскага мора. Пеўчы калектыў з Беларусі меў вялізны поспех і звярнуў на сябе ўвагу спецыялістаў. Прынамсі, неўзабаве, ужо ў Магілёве, падчас III Міжнароднага фестывалю "Магутны Божа", да мастацкага кіраўніка хору падышоў ягоны калега з Польшчы, маэстра Матэвуш Сібільскі. Першыя яго словы былі прыкладна такія: "А я вас запомніў, калі слухаў на фестывалі ў Мендзы-Здруі..." Калі магілёўскае свята набліжалася да завяршэння, пан Матэвуш у прыватнай гутарцы паведаміў, што наступным разам спадзяецца прыехаць у Магілёў разам са сваім калектывам "Фермата" і ажыццявіць з Аляксеем Шутам супольны творчы праект. Які? Сакрэт. Пэўна ж, гэта будзе нейкая сучасная харавая партытура хрысціянскага зместу, якая ўпрыгожыць канцэртныя праграмы фестывалю "Магутны Божа". Да слова, гімн-малітва, які даў назву святу духоўнай музыкі, гучаў у выкананні хору "Sonorus" проста на гарадскім пляцы ў Мендзы-Здруі. А ў фестывальнай зале, сярод іншага, былі прадстаўлены новыя творы нашых сучаснікаў — фрагменты "Усяночнай" Сяргея Бельцюкова ды "Літургія св. Іаана Златавуста" Алега Залётнева. Абодва аўтары суправаджалі "Sonorus" у вандроўцы да Балтыкі.

С. ВЕТКА

*Прапануем увазе чытачоў "ЛіМа" пераклады твораў выдатнага рымскага эпіграматыста Марка Валерыя Марцыяла (жыў, прыкладна, каля 40—100 гг. н. э.), ураджэнца Іспаніі, аўтара захаваных да нашага часу 1561 твора.*

*Марцыял застаў эпіграму проста кароткім лірычным вершам-надпісам — прысвячальным, надмагільным, застольным. З яго рук эпіграма выйшла такой, якой мы яе ведаем і цяпер — прымавачна трапнай, дасціпнай, здзекліва-сатырычнай.*

*Творчасць Марцыяла — яскравая старонка ў сусветнай літаратуры. Яна таленавіта схоплівае шматстайнае рымскае жыццё на пачатку нашай эры ў яго багатых праявах.*

*Большасць эпіграм Марцыяла напісана элегічным двувершам, дзе першы (няцотны) радок даецца ў памеры гекзаметра, другі (цотны) — пентаметра.*

*Што да лічбавага абазначэння, то рымскаю лічбаю адзначаецца кніга, арабскаю — парадкавы нумар эпіграмы ў кнізе.*

Марк Валерый МАРЦЫЯЛ

# ЭПІГРАМЫ

### I 16

**Ёсць тут і добрыя творы, і так сабе, шмат і слабога**
**Знойдзеш. А іншых жа кніг і не бывае, Авіт.**

### I 38

**Тое, што ўслых ты, Фідэнтын, чытаеш, — мая гэта кніга,**
**А запінацца пачнеш, раптам як стала твая.**

### I 43

**Шэсцьдзесят нас у цябе, Манцын, было запрашоных,**
**І каб хоць што падалі ўчора, апроч вепрука!**
**Ні вінаградных тых гронак, што ў познюю восень здымаюць,**
**Ні, скажам, тых сакаўных яблык, салодкіх як мёд;**
**Ні тых ігруш, што вісяць прывязаныя да жаўтазелю,**
**Ні карфагенскіх гранат, кволых, як ружавы цвет;**
**Сыру ніводнай галоўкі не выслалі з сельскай Сасіны,**
**Ды і з пінцэнскіх збаноў не даставалі аліў.**
**Голы вяпрук як бізун! Да таго змізарнелы, што нават**
**Мог бы без зброі зусім карлік нядошлы забіць.**
**І нічагуткі пасля не паднеслі. Мы толькі глядзелі,**
**Дык і арэна вось так можа нам вепра падаць!**
**Хай жа ніколі на зуб твой больш не патрапіцца вепру,**
**А каб жа, як Харыдэм, трапіў ты вепру на зуб!**

### I 56

**Змок і разлезся, шынкар, вінаград ад дажджоў несціханых.**
**Не прадасі, каб хацеў, болей віна без вады.**

### I 71

**Шэсць я за Левію, сем за Юстыну і пяць п'ю за Ліку,**
**Ліда — чатыры яшчэ, Іда — зноў кубачкі тры.**
**Так я фалерн наліваючы, ўсіх называю сябровак,**
**Ды як не йдзе ні адна, Сон, ты прыйдзі да мяне.**

### I 83

**Губы і твар табе ліжа ахвотна, Манэя, сабачка.**
**Я не дзіўлюся: усе любяць сабакі лайно.**

### I 110

**Ты папракаеш, Велокс, што мае эпіграмы даўгія.**
**Сам жа не пішаш зусім. Дзе ўжо тут быць карацей!**

### II 5

**Хай тут памру, калі я, Дэцыян, сапраўды не хацеў бы**
**Цэлыя ночы і дні бавіць заўсёды з табой.**
**Ды аж дзве тысячы крокаў мяне ад цябе падзяляюць,**
**Выйдзе чатыры, калі ўлічым дарогу назад.**
**Часта няма цябе дома, а часта, хоць дома, адмовіш:**
**То ў цябе клопат які, то вось прылёг адпачыць.**
**Мне каб пабачыць цябе, дзвюх тысячаў крокаў не шкода,**
**Ды каб не ўбачыць цябе шкода чатыры — дыбаць.**

### II 20

**Павел шмат вершаў купіў і цяпер як свае іх чытае,**
**Бо, што купіў ты, сваім можаш па праву назваць.**

### II 21

**Тых дык цалуеш, а гэтым руку падаеш адно, Постум.**
**Скажаш: "На выбар — бяры". Выберу лепей руку.**

### II 30

**Неяк прасіў я пазычыць мне дваццаць тысяч сестэрцый.**
**Іх і зусім падарыць нават было б не наўда.**
**Бо я ж прасіў у старога, багатага сябра:**
**Скрыня ў яго аж трапчала ад тае сціжмы дабра.**
**Ён жа мне кажа: "Ты будзеш багаты — ідзі ў адвакаты".**
**Гай, дай, чаго я прашу, я ж не парады прашу.**

### III 8

**"Квінт улягае за Таяй". — "Якою?" — "Ды той, слепавокай".**
**Вока ў Таіды адно, Квінт на абодва аслеп.**

### VI 31

**Ведаеш сам, Харыдэм, і ўсё ж дазваляеш, каб доктар**
**Цешыўся з жонкай тваёй: хочаш без трасцы сканаць?**

### VI 40

**Лепшай ніводнай жанчыны, чым ты, не было, Лікарыда.**
**Лепшай жанчыны цяпер, чымся Глікера, няма.**
**Будзе яна, як і ты, а такой, як яна, ты не будзеш.**
**Што робіць час?! І яе прагну, як прагнуў цябе.**

### VII 36

**Як не змагла ўжо трываць ад дажджоў і нябеснай макрэчы**
**Недабудоўка мая, стоячы ў стылай вадзе,**
**Мне ад цябе, — каб адвесці раптоўных залеваў патокі —**
**Шмат чарапіцы прыйшло — добрая памяць твая!**
**Толькі ўжо чуеш? — дрыготлівы снежань разносіць посвіст Барэя:**
**Стэла, мой дом ты прыкрыў, дык і мяне апрані.**

### VII 53

**Умбр, расшчадрыўшыся, ты адаслаў мне ўсе падарункі,**
**Што назбіралі табе пяць Сатурналевых дзён:**
**Тузін трохлістых нататнічкаў, сем касцяных зубачыстак,**
**З імі прыйшлі заадно губка, сурвэтка, гаршчок,**
**Бобу паўмодзія разам з вярэнькай піцэнскіх алівак,**
**Чорная бутля пітва — сок лалятанскі густы.**
**Дробныя фігі прыйшлі і з імі белыя слівы,**
**Смоквы з Лівійскай зямлі — збан той адзін як падняць!**
**А як прыкінуць цану — ад сілы ці трыццаць сестэрцый**
**Будзе, а восем няслі рослых сірыйцаў дары.**
**Як жа лацвей мог бы тут мне без лішняй марокі**
**Хлопчык прынесці адзін фунцікаў пяць серабра.**

### IX 15

**Сем мужыкоў пахаваўшы, злачынка на плітах пісала:**
**"Зроблена Хлояй". Няўжо можна больш шчыраю быць?**

### X 43

**Вось ужо сёмую жонку, Філерас, ты ў полі хаваеш.**
**Поле, Філерас, табе больш чым каму ўспамагло.**

### XI 103

**Гэткі цнатлівы сабой ты, Сафроне, — душой і гаворкай,**
**Што нават дзіва бярэ, як жа ты бацькам мог стаць.**

### XII 25

**Як без закладу прашу ў цябе грошай, ты кажаш: "Не маю",**
**А як у іх за мяне поле паручыцца, — "Ёсць".**
**Ты — у чым веры не маеш мне, сябру старому, Тэлесін, —**
**Лёгка ў тым верыш грудку, дрэвам і рэчам маім.**
**Кар вось данёс на цябе: няхай жа заступіцца поле!**
**Сябра ў выгнанне з сабой просіш: хай поле ідзе!**

### XIV 25 ГРАБЯНІ

**Што ў цябе будзе рабіць тут, ні валаска не знайшоўшы,**
**Гэты шматзубы самшыт, падараваны табе?**

### XIV 83 ЧУХАЛКА СА СЛАНОВАЙ КОСЦІ

**Хай ахавае рука гэта спіну тваю ад пакутаў**
**Гнюснай блыхі ці яшчэ горшае шэльмы якой.**

### XIV 151 ДЗЯВОЧЫ ПОЯС

**Я досыць доўгі цяпер, а салодкім цяжарам набухне**
**Твой жываток, — буду я, пояс, кароткім табе.**

### XIV 194 ЛУКАН

**Ёсць і такія — не хочуць мяне прызнаваць за паэта,**
**Лічыць паэтам, аднак, той, хто мяне прадае.**

### XIV 211 БАРАНОВА ГАЛАВА

**Фрыксаваму барану перацяў ты рахманую шыю.**
**Хіба ж таго заслужыў — хто табе туніку даў.**

З лацінскай мовы пераклаў
**Анатоль КЛЫШКА**

# "МММ" — ПА-БЕЛАРУСКУ?

*(Працяг. Пачатак на стар.5)*

З кім бы з чыноўных асоб я ні размаўляў, усе яны скардзіліся на недасканаласць нашага заканадаўства, адсутнасць законаў, якія б рэгулявалі, рэгламентавалі такую новую для краіны сферу, як усталяванне рынкавых адносін у эканоміцы, станаўленне айчыннага бізнесу. Слоў няма — нам сапраўды бракуе такіх законаў і нормаў, але ж не выконваюцца і тыя, што ёсць...

Праўда і тое, што дагэтуль у нас няма дзяржаўнага органа, які б сачыў за захаваннем правоў кліентаў камерцыйных структур. Праўда, ёсць у рэспубліцы Таварыства па ахове правоў спажыўцоў, але арганізацыя гэтая, па-першае, грамадская, а, па-другое, маламагутная, малаўплывовая.

І яшчэ адно меркаванне. Адносна рэкламы, якую пры дапамозе сродкаў масавай інфамацыі і па іншых каналах распаўсюджваюць камерцыйныя структуры. У час працы над гэтым артыкулам мне неаднойчы даводзілася чуць ад пацярпелых укладчыкаў папрокі ў адрас прэсы, якая, на іх думку, друкуе розную рэкламную лухту. Чаму, мяркую, ніхто не правярае, што рэкламуе. Скажам адразу, праверыць вартасць рэкламнай аб'явы, высветліць, ці не ўводзіць яна ў зман чытача, не ў стане ніводная рэдакцыя. Але, мне здаецца, усё ж такі трэба было мець нейкі орган, які кантраляваў бы дакладнасць, пэўнасць рэкламы, ці адпавядае яе змест канкрэтным рэаліям. Фірме, якая апынулася "на заметцы" ў кантралюючага органа, я забараніў бы карыстацца рэкламай. Бо як адбываецца: у фірмы арыштаваны рахунак, супраць яе ўзбуджана крымінальная справа, а па радыё працягваюць гучаць словы ў яе гонар. Атрымліваецца амаль як з тым святлом далёкай зоркі, што даўно згасла...

Але разумею, усё гэта, з галіны, як кажуць, добрых намераў і пажаданняў. Дай нам Бог адолець у першую чаргу махляроў, прайдзісветаў, аферыстаў, што адчулі сябе вельмі ўтульна ў нашай краіне. Як кажуць у такіх выпадках, — амінь...

Тут я і пастаўлю кропку.

**Міхась ЗАМСКІ**

ЛіМ
ЧАСАПІС



## АБАРАНЯЙЦЕСЯ, КАЛІ ЛАСКА...

**Рашэннем Вышэйшай атэстацыйнай камісіі пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь у Беларускім універсітэце культуры створаны два спецыялізаваныя Саветы па абароне дысертацый:**

**— на атрыманне вучонай ступені доктара (кандыдата) навук па спецыяльнасці 17.00.08 — "Тэорыя і гісторыя культуры" па мастацтвазнаўству;**

**— на атрыманне вучонай ступені кандыдата навук па спецыяльнасцях: 13.00.05 — "Тэорыя, методыка і арганізацыя культурнаасветніцкай дзейнасці" па педагогіцы і 05.25.03 — "Бібліятэказнаўства і бібліяграфазнаўства" па педагогіцы і гісторыі.**

**Саветы пачынаюць сваю работу з верасня 1995 года.**

**Пры наяўнасці падрыхтаваных дысертацый кіраўніцтва універсітэта гатова аказаць дапамогу ў абмеркаванні, рэцэнзаванні, друкаванні аўтарэфератаў і г. д.**

**Па ўсіх пытаннях, звязаных з дзейнасцю саветаў, звяртайцеся на адрас: 220001, г. Мінск, вул. Рабкораўская, 17 да старшыняў саветаў:**

**спецыяльнасць 17.00.08 — доктар мастацтвазнаўства, прафесар САБАЛЕЎСКІ Анатоль Вікенцьевіч, тэл. 25-50-46;**

**спецыяльнасці 13.00.05 і 05.25.03 — доктар педагагічных навук, прафесар ЛЯВОНЧЫКАЎ Васіль Емяльянавіч, тэл. 25-48-72, а таксама да прарэктара па навуковай рабоце Лягчылава Аляксандра Кузьміча, тэл. 26-22-74**

## ФАЛЬКЛОРНЫ ФЕСТЫВАЛЬ У НАУСЕ



**У ліку іншых удзельнікаў на фальклорным фестывалі, які штогод праводзіцца ў грэчаскім горадзе Науса, што за 130 кіламетраў ад Салонікаў, быў запрошаны і народны ансамбль песні і танца "Сузор'е" будтрэста N 8 горада Брэста, які да гэтага ўжо пабываў у многіх краінах свету. Больш чым у дзесяці канцэртах выступалі брэсцкія артысты ў гарадах Науса, Арыдэя, Вергія. І ўсе нумары праграмы "Сузор'я" праходзілі на "біс". Асаблівай папулярнасцю ў грэкаў карысталася наша "Лявоніха" і гром апладысментаў зрываўся з трыбун, калі калектыў выконваў рускую "Кацюшу".**

**Арганізатары фестывалю зрабілі ўсё, каб артысты з 12 краін адчувалі сябе ў Наусе, як дома. Праходзілі вечары дружбы, артысты знаёміліся са старажытнай зямлёй Грэцыі, для іх была арганізавана вялікая культурная праграма.**

**Па выніках фестывалю "Сузор'е" разам з калектывам з іспанскай правінцыі Арагон прызнаны пераможцам сёлетняга года.**

**Ансамбль занесены ў спісы лепшых самадзейных калектываў, што пабылі на фестывалях фальклору ў Наусе, і адзначаны памятным залатым медалём.**

*На здымку: "Сузор'е" на вуліцах старажытнай Наусы.*

*Фота Эдуарда* ***КАБЯКА,***

***БЕЛІНФАРМ***

## МУЗЫКА Ў ФАРБАХ

**Днямі адбылася прэзентацыя выставы вядомага жывапісца Міколы Бушчыка. Яго карціны — як музычныя творы, якія часам не проста меладычна гучаць, настройваючы нас на пэўны лад, яны крычаць, каб быць пачутымі. Дзівосная прырода, чалавечыя постаці, старонкі нашай гісторыі...**

**У экспазіцыі выставы ўжо знаёмыя гледачам работы і новыя, напісаныя літаральна за апошні год — "Прысвячэнне Ефрасінні Полацкай", "На ўзыходзе дня", "Сустрэча".**

**П. ГАРДЗІЕНКА**

***Падзеі, якія падштурхнулі мяне да напісання гэтага расповяду, адбыліся ў маі 1979 года ў невялікім гарадку Калпашове на поўначы Томскай вобласці.***

***Ужо самі чуткі пра тое, што рака падмыла безыменныя магілы і імклівая плынь падхапіла сотні, а мо і тысячы астанкаў, пакінула непрыемны асадак у душах мясцовых жыхароў. Што за магілы, хто ў іх пахаваны? Але ўлады хутка заспакоілі калпашоўцаў — не трэба хвалявацца, у магілах расстраляныя бандыты, ворагі народа, так што няхай плывуць далей, да Нарыма, дзе некалі быў у ссылцы таварыш Сталін.***

з імі праводзілі следчыя. Пра тое, што ва ўнутранай турме праводзілі расстрэлы, г. зн. прыводзілі прысуд у выкананне, я ведаў ад выканаўцаў. Расстрэлы ажыццяўляліся ва ўнутранай турме, якая знаходзілася ў будынку НКУС паблізу берага ракі Абі..."

МЕРЫНАЎ Б. Е., былы оперупаўнаважаны Калпашоўскага НКУС: "Будынак КПЗ складаўся з 6 камер. Новасібірск зацвярджаў, каго расстрэльваць. Звычайна ў першую чаргу забівалі тых, каго прыгналі з цэнтральных раёнаў Беларусі, асабліва ў 1939 годзе. Пры

# КАЛПАШОЎСКІ ЯР,

## або ГІСТОРЫЯ АДНАГО ПАХАВАННЯ

І толькі ўжо ў перабудовачныя часы праўда аб калпашоўскім захаванні сяк-так пачала прабіваць сабе дарогу. Нават орган ЦК КПСС газета "Правда" 11 мая 1989 года ў артыкуле спецкара В. Чарткова, праўда, вытрыманага ў духу партыйнасці і сацыялістычнага рэалізму, дазваляў звычайнаму савецкаму чытачу, які прывык па крупінках адшукваць сутнасць і ісціну паміж радкоў, улавіць страшную карціну знішчэння ні ў чым не вінаватых людзей у гады Вялікага тэрору.

Падвёў рысу сам член Палітбюро ЦК КПСС Я. К. Лігачоў (у перыяд з 1965 па 1983 гады — першы сакратар Томскага абкама КПСС. — І. К.): "Мне вельмі цяжка назваць каго-небудзь адказнага. Бо, па-першае, гэта адбылося зусім нечакана. Гэта было сапраўднае стыхійнае бедства ў поўным сэнсе гэтага слова. Вы на гэтай зямлі жывяце і ведаеце, што часам робіць паводка. І шчыра вам скажу, паколькі мы сабраліся для гэтага, мне, напрыклад, стала вядома, што там былі пахаваны ахвяры сталінскіх рэпрэсій, менавіта пасля гэтага выпадку..." (З выступлення Я. К. Лігачова 6 снежня 1989 года на сустрэчы з прадстаўнікамі навуковай, вузаўскай, мастацкай інтэлігенцыі і студэнцтва г. Томска).

На той сустрэчы Я. К. Лігачоў не чакаў, што сярод прысутных знаходзіліся людзі, якія аддалі гады, каб даведацца праўду аб тым, што адбылося ў Калпашове.

### ЯК ГЭТА БЫЛО

"Поселок Колпашево — это бугор глины, усеянный от бед и непогодиц избами, дотуга набитыми ссыльными. Есть нечего, продуктов нет или они до смешного дороги. У меня никаких средств к жизни, милостыню же здесь подавать некому. Вспомни обо мне в этот час — о несчастном бездомном старике-поэте, лицезрение которого заставляет содрогаться даже приученных к адским картинам человеческого горя спецпереселенцев. Скажу одно: "Я желал бы быть самым презренным существом среди тварей, чем ссыльным в Колпашеве!" Небо в лохмотьях, косые, налетающие с тысячеверстных болот дожди, немолчный ветер — это зовется летом, затем свирепая 50-градусная зима..." Так апісваў Калпашова вядомы рускі паэт Мікалай Клюеў у лісце да Сяргея Клычкова ў чэрвені 1934 года.

Гарадок Калпашова невялікі, і да нядаўняга часу быў мала вядомы. Тым не менш, у мінулым ён быў адміністрацыйным цэнтрам Нарымскай акругі, асаблівай тэрытарыяльнай адзінкай у складзе Заходне-Сібірскага краю, адведзенай для знішчэння "ворагаў народа". З усёй Сібіры, з Беларусі, з Масквы і Ленінграда звозілі іх сюды на пагібель. У непралазных балотах, у тайзе, якую яны карчавалі з дапамогай першабытных прылад, ляжыць нямала і нашых землякоў.

У час калектывізацыі ў Нарымскую акругу было саслана нямала сем'яў раскулачаных. Пра маштабы гэтай высылкі сведчыць лічба — 192000 чалавек, у тым ліку больш за 20 тысяч ураджэнцаў Беларусі, прычым колькасць тых, хто выжываў на працягу двух-трох гадоў, складала каля 40 працэнтаў. Апошняя лічба ашаламляе, але не трэба забываць, пры якіх акалічнасцях спецперасяленцы траплялі ў ссылку: альбо па холадзе па зімніках, альбо — часцей так яно і было — на баржах у кароткае паўночнае лета. А ўладкоўвацца даводзілася на голым месцы, са старымі і дзецьмі на руках, з мінімумам пасяўнога матэрыялу і без вопыту таго, як можна вырошчваць хлеб у тайзе і на балотах.

ГАРАЎЦОВА-ГАРНОЎСКАЯ Агаф'я Міхайлаўна, ураджэнка в. Гарэлышы Віцебскай акругі: "Прыйшоў 1929 год. У нашай мясцовасці пачалася арганізацыя калгасаў, і на агульным сходзе сялян нашай вёскі Гарэлышы бацьку было прапанавана першаму запісацца ў калгас, паказаўшы прыклад іншым. Бацька быў адукаваным па тым часе чалавекам, карыстаўся аўтарытэтам на ўсёй нашай былой воласці. Ён адмовіўся запісацца. Гэта і паклала пачатак трагедыі нашай сям'і. Праз некалькі дзён бацьку арыштавала Віцебскае ГПУ, прад'явіўшы яму абвінавачанне ў зрыве арганізацыі калгаса. Пратрымалі яго ў турме каля двух месяцаў. А хутка бацьку была прад'яўлена пастанова Віцебскага ГПУ, што ён са сваёй сям'ёй высылаецца ў Сібір на 3 гады. На зборы далі 7 дзён. Адправілі нас без канвою да станцыі Багушэўская, а адтуль пасажырскім цягніком да Новасібірска. Новасібірскае ГПУ накіравала на пасяленне ў Калпашоўскі раён. Прыехаўшы туды, наша сям'я цярпела моцную нястачу. Ссыльным дазвалялася працаваць толькі ў лесе. Мяне ўзялі адны мясцовыя гаспадары ў нянькі за 3 рублі ў месяц. Настаў 37-ы год. Жудасны лёс спасціг нас. У снежні 1937 года быў арыштаваны брат Аўрам, у студзені 1938 — браты Георгій, Цімафей і сястра Ліда. Пра іх далейшы лёс многія гады ў сям'і нічога не ведалі. Пасля цэлага шэрагу хадайніцтваў перад пракуратурай Томскай вобласці Калпашоўскі гарЗАГС выдаў даведкі: Аўрам памёр 23.02.44 г. ва ўзросце 41 год ад гнойнага плеўрыту; Цімафей — 12.05.42 г. ад менінгіту; Георгій — 1.02.44 г. ад запалення лёгкіх. Усё гэта было грубай фальсіфікацыяй. Толькі ў 1990 годзе сям'я даведалася: што ўсе браты 16 лютага 1938 года былі прысуджаны да расстрэлу Камісіяй НКУС і 20 лютага расстраляны ва ўнутранай турме НКУС г. Калпашова".

Такі жудасны лёс падзялілі ў Калпашоўскім яры больш за тысячу нашых землякоў.

Масавыя расстрэлы пачаліся ў Калпашове ў другой палове трыццатых, калі ў мясцовым НКУС пачалі фабрыкавацца фантастычныя справы накшталт "паўстанцкага цэнтра", які нібыта быў тайна сфарміраваны ссыльнымі і чакаў толькі ўстаноўленага сігналу, каб нанесці ўдар па Савецкай уладзе. У час правядзення масавай акцыі па "изъятию врагов народа" ў кастрычніку 1937 года з нізоўяў ракі Об у Нарымскі акраадзел на дзвюх баржах даставілі "ворагаў народа" з Аляксандраўскага, Каргасокскага, Парабельскага, Калпашоўскага раёнаў. З мэтай забеспячэння аховы гэтыя баржы былі пастаўлены на якары пасярод ракі, адкуль арыштаваныя дастаўляліся лодкамі ў акраадзел Калпашова.

КАРПАЎ С. П., былы оперупаўнаважаны Калпашоўскага НКУС: "...у маі 1937 года я пачаў працаваць у гараддзеле НКУС. Пры НКУС знаходзілася ўнутраная турма (прыкладна восем камер). Асноўная маса арыштаваных утрымлівалася ў гарадской турме. У мае абавязкі ў гэты перыяд уваходзіла праводзіць арышты па ордэрах. На арышты хадзілі, як правіла, тры чалавекі з панятымі. Наша задача была даставіць арыштаванага ў аддзел. Што было далей з арыштаванымі, я не ведаю. Работу мне прыводзілі этапы па 40—50 чалавек з іншых мясцін. Назад нікога не адводзілі. Хавалі расстраляных у двары КПЗ. Ямаў было тры. Пад канец хавалі там, дзе расстрэльвалі — у камерах..."

Работнікамі НКУС у 30-ыя гады была прыдумана не існуючая ў прыродзе нацыяналістычная арганізацыя "Польская арганізацыя вайсковая", якая нібыта мела свой цэнтр у Маскве і адпаведныя "камітэты" ва ўсіх рэгіёнах былога Савецкага Саюза. У адпаведнасці з дырэктыўнымі ўказаннямі НКУС па Запсібкраі такая арганізацыя была "створана" і ў Нарымскай акрузе. Пад яе непасрэдным кіраўніцтвам і па яе прамым указанні павінны былі дзейнічаць "ворагі народа" з польскімі і беларускімі прозвішчамі і імёнамі.

Асаблівых складанасцей гэта не выклікала: працэнт палякаў і беларусаў, што жылі тут, быў досыць высокі: іх шмат перасялілася ў Сібір у канцы мінулага і пачатку цяперашняга стагоддзя.

Прэамбула абвінаваўчага заключэння заўсёды заставалася нязменнай, мяняліся толькі прозвішчы ды назвы населеных пунктаў, ды "факты" і "прыклады" варожай дзейнасці.

ФІЛІПОВІЧ С. Ф., былы супрацоўнік Новасібірскага ўпраўлення НКУС, ураджэнец Мінскай губерні: "Пры допытах высвятлялі, дзе працаваў да арышту абвінавачаны, чым займаўся, ці былі якія-небудзь факты пажараў, атручвання скаціны па месцы яго нага жыхарства, і гэтак далей. Высветліўшы гэтыя пытанні, прыпісвалі ў паказаннях абвінавачаных здзяйсненне тых альбо іншых актаў шкодніцкай або дыверсійнай дзейнасці..."

Справы на "Польскую арганізацыю вайсковую" розніліся ад іншых тым, што амаль усе яны былі групавымі. Дастаткова нагадаць лёс жыхароў сяла Беласток Крывашэінскага раёна Заходне-Сібірскага краю, дзе за адну ноч з 11 на 12 лютага 1938 года былі арыштаваны практычна ўсе мужчыны ва ўзросце ад 17 да 70 гадоў. Большасць з іх закончылі свой жыццёвы шлях у Калпашоўскім яры.

СПРАГОЎСКІ А. І., былы следчы УКДБ СССР па Томскай вобласці: "У перыяд з 1955 па 1960 год я займаўся пераглядам архіўна-следчых спраў на асуджаных пазасудовымі органамі. Не ўдаючыся ў сутнасць гэтых спраў, пэўна магу сцвярджаць, што 99 працэнтаў правераных спраў былі груба сфальсіфікаваны былымі работнікамі Томскага і Нарымскага аддзелаў НКУС... Сведкі, якіх мне давялося дапытваць, казалі, што за гэтай агароджай турмы ляжаць людзі, расстраляныя ў 37—38 гадах.

Помню паказанні Караваева Сяргея Рыгоравіча, які быў непасрэдным выканаўцам расстрэлаў, цяпер ён памёр. Тады дзейнічала брыгада, якой для храбрасці давалі спірт. За агароджай былі ўстаноўлены трапы, па якіх арыштаваныя ішлі да выкапанай ямы. Калі асуджаны падыходзіў да пэўнага месца, чуўся стрэл з прыкрыцця. Чалавек падаў у яму. У мяне склалася цвёрдае перакананне, што за той агароджай пахаваны тысячы невінавата асуджаных людзей..."

Што ўяўляў сабою будынак акраадзела НКУС? Па словах відавочцаў ён знаходзіўся за 30—40 метраў ад берага ракі, акружаны прыкладна трохметровай агароджай. Непадалёк ад адміністрацыйнага корпуса знаходзіўся будынак турмы, які складаўся з шасці камер. Тут утрымліваліся арыштаваныя і асуджаныя да расстрэлу. Тут жа, у будынку турмы, у адной з камер прыво-

дзіліся ў выкананне прысуды "троек", "двоек" і Асаблівай нарады. У турму звычайна прыбывалі этапы па 40—50 чалавек. Пасля правядзення прысуду ў выкананне трупы расстраляных паслойна перасыпаліся гашанай вапнай (каб лішні раз не закопваць да прыбыцця чарговай партыі. — І. К.) у ямах, выкапаных у дворы. Потым, калі плынь асуджаных рэзка павялічылася, расстраляных пачалі закопваць пад насцілам камер. Ямы з трупамі, натуральна, як абвяшчала інструкцыя, зраўніваліся з зямлёй і нічым не абазначаліся.

Большасць ні ў чым не вінаватых грамадзян былі расстраляны ў Калпашове ў перыяд з 8 мая 1937 года па 4 мая 1943 года. Паводле папярэдніх дадзеных, атрыманых з матэрыялаў і дакументаў пракуратуры Томскай вобласці і ваеннага трыбунала Сібірскай ваеннай акругі, можна меркаваць, што тут было знішчана ад 1 да 1,5 тысячы ўраджэнцаў Беларусі. Устанавіць усіх пайменна па вядомых прычынах не ўяўляецца магчымым. Назаву толькі некалькі ўстаноўленых прозвішчаў некаторых нашых землякоў, забраных Калпашоўскім ярам: Адамскі Браніслаў Генрыхавіч, 1894 года нараджэння; Бараноўскі Аляксандр Фаміч, 1893 г. н.; Белых Фёдар Яфімавіч, 1888 г. н.; Бяганскі Аляксандр Дзям'янавіч, 1904 г. н.; Берасневіч Іосіф Іосіфавіч, 1909 г. н.; Бугароўскі Іван Лявонцьевіч, 1888 г. н.; Віцеўскі Іван Алімпіевіч, 1905 г. н.; Урублеўская Кацярына Іванаўна, 1908 г. н.; Дарашкевіч Васіль Яфімавіч, 1901 г. н.; Дуда Аляксей Янавіч, 1913 г. н.; Дуда Ян Вітавіч, 1885 г. н.; Зданевіч Аляксандр Восіпавіч, 1884 г. н.; Здановіч Іван Васільевіч, 1910 г. н.; Здановіч Станіслаў Вікенцьевіч, 1882 г. н.; Іваноўскі Іосіф Мікалаевіч, 1903 г. н.; Кавецкі Адольф Васільевіч, 1892 г. н.; Каменка Аляксей Мікалаевіч, 1898 г. н.; Касцецкі Юльян Францавіч, 1880 г. н.; Лясняк-Чарнова Марыя Францаўна, 1891 г. н.; Навіцкі Апалінар Баляслававіч, 1915 г. н.; Палякоў-Сіліцкі Васіль Мітрафанавіч, 1904 г. н.; Рагачоўскі Аляксандр Пракопавіч, 1903 г. н.; Рагачоўскі Пракоп Пракопавіч, 1888 г. н.; Сварчэўскі Аляксандр Піусавіч, 1873 г. н.; Солтан Карней Восіпавіч, 1878 г. н.; Татыржа Баніфат Адамавіч, 1895 г. н. і іншыя.

Колькі чалавек было расстраляна ў Калпашове ў самы пік рэпрэсій, устанавіць ужо немагчыма. Можна меркаваць, што ў гэтым пахаванні іх ляжыць не менш за 4—5 тысяч . Хоць ёсць звесткі, што расстрэлы праводзіліся не толькі ў Калпашове, а і ў прыгарадным Тагуры і шэрагу іншых мясцін.

## ПАРАГРАФ З НЯДАЎНЯЙ ГІСТОРЫІ

Пасля вайны будынак акраддзела НКУС быў знесены і на гэтым месцы ўтварылася пустка. Мінулі гады. Наступ ракі на горад прывёў да таго, што недзе з 1960 года тэрыторыя былога НКУС пачала абрушвацца ў Об. З таго часу і пачалі агаляцца магілы расстраляных. Гэта занепакоіла ўлады. Пад кіраўніцтвам прадстаўнікоў органаў дзяржбяспекі пачалі праводзіцца буравыя работы на тэрыторыі, якая раней належала акраддзелу. Першая стадыя работ па знішчэнні пахаванняў праводзілася ў 1968 годзе.

Тэхналогія іх была наступная. Бурылі вызначальныя свідравіны. Пры выхадзе костак бурэнне свідравін рабілася ўпарадкаваным. У свідравіны, у якіх знаходзілі косці, засыпалі рэчыва белага колеру і добра залівалі вадой. Потым кожная свідравіна засыпалася грунтам.

Пасля заканчэння работ "геолагі" дзеньдругі прасавалі тэрыторыю бульдозерам, утрамбоўваючы верхні грунт, разрыхлены бурэннем.

У 1979 годзе, напярэдадні майскіх свят, у чарговы раз абваліўся край берага ў самым цэнтры горада, за некалькі дзесяткаў метраў ад таго месца, дзе абрываецца, упіраючыся ў Об, вуліца Леніна. З боку ракі, з лодак, можна было ўбачыць страшную карціну. З абрыва вышынёю ў два метры тырчэлі чалавечыя рэшткі: рукі, ногі, галовы. Адкрыты зрэз пахавання меў памеры да чатырох метраў ушырыню і да трох метраў углыбіню. Трупы ў магіле былі складзены штабелямі, і калі верхнія цалкам сатлелі, то ніжнія захаваліся на рэдкасць добра. Па сутнасці, гэта былі муміі жаўтавата-карычневага колеру. Твары, валасы захаваліся ў такой ступені, што, па сведчанні відавочцаў, можна было правесці апазнанне забітых. У патылічнай частцы чарапоў былі кулявыя адтуліны. У многіх чарапах іх было па дзве, прычым другая часта была на скроневай косці.

Пахаванне вырашана было змыць у раку. Праўда, спачатку была зроблена спроба раскапаць магілы з берага і вывесці трупы на аўтамашынах у кар'ер, але хутка ад гэтага адмовіліся. У прыватнасці, па той прычыне, што канфігурацыя пахавання аказалася няпростай, а колькасць трупаў — дастаткова вялікая. Выкарыстаць жа тэхніку на краі абрыва перашкаджаў пясчаны грунт. І нягледзячы на тое, што было дастаткова жадаючых зрабіць гэта ўручную, кампетэнтнымі органамі было прынята рашэнне проста размыць бераг.

Да трэцяга мая доступ да пахавання строга не ахоўвася, і многія гараджане пабывалі каля яго. Большасць людзей прыходзіла проста дзеля цікаўнасці. Але было і другое — самае, магчыма, страшнае. Да раскрытай магілы ішлі сваякі тых, хто бясследна знік у засценках Калпашоўскага НКУС, а іх у трыццацітысячным райцэнтры тады яшчэ было нямала. Дзеці і жонкі, браты і сёстры. Многім з іх здавалася, што сярод складзеных штабелямі трупаў яны па вопратцы пазнаюць сваіх блізкіх.

Горад Калпашова перажываў гнятлівыя, ні на што не падобныя дні. Горад Томск знаходзіўся ў напружаным роздуме. Сігнал трывогі даляцеў да Масквы...

Трэцяга мая месца пахавання было сіламі будбата абнесена высокай агароджай з надпісам: "Санітарная зона". Каля зоны з'явілася ахова. Для непасрэднага кіраўніцтва тэхнічным забеспячэннем акцыі, якая ўтрымлівала ўсе прыкметы злачынства (артыкул 229 і артыкул 191 УК РСФСР), у Калпашова быў камандзіраваны сакратар Томскага абкама КПСС А. І. Бортнікаў. Інтарэсы УКДБ па Томскай вобласці прадстаўляў палкоўнік дзяржбяспекі Мікалай Іванавіч з засакрэчаным па сённяшні дзень прозвішчам. Прысутнічала таксама нейкая асоба з Масквы.

Тыдзень вяліся падрыхтоўчыя работы, а 11-12 мая ў Калпашова прыйшлі двухтысячасільныя цеплаходы. Бераг мылі націскам вады з-пад вінтоў, якія кругласутачна працавалі на поўную магутнасць.

ЧАРАПАНАЎ В. П., капітан буксіра ОТ-375: "...Адбойнай хваляй пачалі падмываць бераг. Працавалі гадзіны дзве. Спачатку падалі косці. Калі тое, што было ў яме, абвалілася, праявіліся цёмныя прамавугольнікі. Трупы з ямы пачалі падаць у ваду. Мёрзлы верхні пласт зямлі абвальваўся вялікімі глыбамі па меры размывання ніжняга талага пласта грунту. Падмывалі з 11 па 15 мая кругласутачна. Было шмат ям, колькасць назваць не магу. Трупы былі цэлыя, рознай велічыні. Бачыў на іх ружова-белую бялізну. Трупы плавалі, кэгэбэшнікі фатаграфавалі. Нам забаранілі выходзіць на радыёсувязь. У гэты час на беразе бурылі свідравіны, шукалі нязнойдзеныя захаванні. Цеплаход амаль увесь увайшоў у бераг. Смурод быў жудасны. Мы людзі паднявольныя, рабілі, што загадаюць. Раней я не расказваў пра гэта, баяўся наступстваў. Гэта ж КДБ!"

КАПЕЙКІН С. Н., старшы памочнік капітана ОТ-375: "Бачыў на трупах кашулі і споднікі... Трупы былі спляжаны, быццам пабывалі пад прэсам... Яны плавалі, цячэннем іх падхоплівала, круціла ў віры ад цеплахода. Плоць не згніла, высушаныя яны былі. Цэлаў у ямах было шмат. Я бачыў ям пяцьшэсць. У яме, на мой погляд, па дваццаць-трыццаць цэлаў. Яны ляжалі ўпавал. Працавалі мы каля трох сутак. Рухавікі пераграваліся, нас адкідвала, трос трэскаўся, мы некалькі разоў адыходзілі. Нам тлумачылі, што гэта — санітарнае мерапрыемства. Казалі, каб мы не расказвалі пра гэта... Праз паўмесяца ў Томску да нас прыехалі двое з УКДБ і далі прэмію. Капітану — прыёмнік "Том", пяці членам экіпажа — гадзіннікі, астатнім па 20 рублёў"...

Тое, як "працавалі" цеплаходы, мог бачыць увесь горад. Трупы, што плылі па Абі, "добраахвотнікі" вылоўлівалі баграмі, чаплялі ім да пояса цагліны, металічныя балванкі — тапілі ў рацэ. Тых, хто не паддаваўся, не ішоў на дно, кіраваўся ў свае апошнія ўцёкі да Ледавітага акіяна, — секлі на кавалкі вёсламі. Дзень за днём, ноч за ноччу... Некаторыя цэлы ўсё ж былі ўпушчаны, іх бачылі потым у Прахоркіне і Наванікольскім, за сотні кіламетраў уніз па цячэнні. Так жывыя "перамаглі" мёртвых суайчыннікаў у маі 1979 года...

## "ПРОЧИЕ ЖЕ... НЕ РАСКАЛЯЛИСЬ В ДЕЛАХ РУК СВОИХ..."

І ўсё ж такі "калпашоўская справа" атрымала ход...

Дзіўная гэта крымінальная справа, немагчымая, небывалая. Следства было даручана ў 1989 годзе пракуратуры Новасібірскай вобласці, так што вымяралася яна нібыта абласной меркай. Але па сэнсе сваім — гэта была першая ў гісторыі нашай шматпакутнай айчыны спроба дазнання па справе аб злачынствах дзяржавы супраць свайго народа і — злачынным жа — утойванні іх.

Што тычыць зганьбавання калпашоўскіх магіл, дык гэта не дробязны эпізод, які заўтра будзе забыты. Як і не будзе забыта, што ўсе важнейшыя рашэнні прымаліся ў кабінетах партыйных работнікаў — першага сакратара Томскага абкама КПСС Я. К. Лігачова і першага сакратара калпашоўскага гаркама В. Н. Шутава (цяпер генеральнага дырэктара канцэрна "Томлеспрам". — І. К.). Назіраць за работай чэкістаў прыбылі тады абкамаўскія сакратары: А. І. Бортнікаў, Я. А. Валогдзін, П. Я. Слезка (што тычыццаў П. Я. Слезкі, дык той пазней стаў загадчыкам аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПСС, і следствам, натуральна, дапытаны не быў. — І. К.). Між іншым, як і будуць забыты імёны афіцэраў КДБ: К. М. Івано-ва, М. І. Петрачэнкі, В. Н. Капейкі, Г. П. Бусыгіна, Н. А. Татаркіна, Д. П. Давыдава (некаторыя з іх дагэтуль працуюць на кіруючых пасадах у апараце кіравання ФСК РФ па Томскай вобласці).

І цяпер жыве ў закрытай зоне Томска-7 пенсіянер Сафрон Пятровіч Карпаў, у органах НКУС-НКДБ-МГБ праслужыў з 1935 па 1956 год, салдзены тэрмін — у Калпашове, прычым у самыя "расстрэльныя" гады. Працаваў служывы і па следчай частцы, і па начальніцкай. Ведаю не пра адно абвінавачае заключэнне па справе "тэрарыстычнай эсэра-манархічнай паўстанцкай арганізацыі", падпісанае ім уласнаручна. У цэлым толькі па гэтых справах было рэпрэсіравана некалькі дзесяткаў чалавек.

"Паўстанцам", якія былі выяўлены пільным Сафронам Пятровічам, стралялі ў патыліцу з нагана, трупы звальвалі ў ямы, выкапаныя ў двары нарымскага акраддзела НКУС, і перасыпалі мёрвыя целы хлоркай, як таго вымагала старая медыцынская інструкцыя АГПУ. І вось яны вясной 1979 года паплылі па Абі.

Наш зямляк Васіль Ханевіч з Томска склаў мартыралог на загінуўшых аднагоадзінага сібірскага сяла Беласток, дзе жылі перасяленцы з Гродзенскай, Віцебскай і Віленскай губерняў. Вось яны: Артыш Восіп Восіпавіч, Артыш Баляслаў Восіпавіч, Артыш Іван Іванавіч, Арцімовіч Адам Іосіфавіч, Маркіш Пётр Фадзеевіч, Маркіш Мікалай Ігнатавіч, Мазюк Іпаліт Міхайлавіч, Мазюк Павел Міхайлавіч, Мазюк Антон Міхайлавіч...

І далей можна працягваць. Усе гэтыя людзі былі расстраляны ў Калпашове ў адзін дзень — 14 мая 1938 года. А ўсяго ў гэты дзень у Калпашове па адной "справе" з беластокцамі было забіта 47 чалавек! І гэта толькі тыя, чые прозвішчы ўдалося ўстанавіць В. Ханевічу. Хутчэй за ўсё загінуўшых было больш. А колькі дакладна, даведацца кіраўніцтву дзяржбяспекі зусім нескладана: крымінальная справа N 830458 у трох тамах на жыхароў сяла Беласток захоўваецца ў былым архіве КДБ у Маскве.

Але гэта толькі адно сяло, а ішлі ў Калпашова этапы, плылі баржы з усяго неабдымнага Нарымскага краю. І акрамя мясцовых, чалдонаў і асцякоў, было нямала і іншых, каго валілі ў калпашоўскія ямы: спецперасяленцы, адміністрацыйныя ссыльныя...

Так, пытанняў застаецца шмат.

Дзе матэрыялы, што тычацца знішчэння магіл у Калпашове? Хто, калі і пры якіх абставінах (яшчэ ў 1965 годзе) звярнуўся да кіраўніцтва КДБ з прапановай ліквідаваць магілы? Хто аддаў загад аб гэтай акцыі? Якая тут роля Ю. В. Андропава, якога інфармавалі аб калпашоўскіх падзеях у 1979 годзе? Выкарыстаны ў Калпашове спосаб знішчэння захаванняў — бурэнне свідравін з засыпкай туды хімікаліяў — звычайны? Дзе яшчэ падобным чынам знішчаліся брацкія магілы?

## ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

У студзені 1991 года "калпашоўская справа" перавандравала з Новасібірска ў Маскву, прайшла праз пракуратуры РСФСР, Саюза, Галоўную Ваенную пракуратуру, каб у выніку вярнуцца ў Новасібірск, у пракуратуру Сібірскай ваеннай акругі.

Быў дапытаны Кім Міхайлавіч Іваноў, былы начальнік упраўлення КДБ СССР па Томскай вобласці. Цяпер ён — начальнік упраўлення па абслугоўванні замежных прадстаўніцтваў, акрэдытаваных у Санкт-Пецярбурзе. Быў дапытаны незабыўны Ягор Кузьміч Лігачоў, злавіць якога на відавочнай хлусні ў маскоўскіх следчых, якім было перададзена адпаведнае следчае даручэнне, духу ўсё ж не хапіла. Да павеўрым яму ў адным: пытанне аб знішчэнні калпашоўскага захавання было ўзгоднена і з Ю. В. Андропавым, і з М. А. Сусловым. Аднак не гэта самае важнае, Новасібірскае УКДБ назвала першых 1445 расстраляных у Калпашове!

У сакавіку 1993 года калпашоўская справа была закрыта за даўнасцю гадоў і "адсутнасці саставу злачынства ў дзеяннях службовых асоб".

Кажуць, што не ўвесь гэты жудасны пясчаны маўзалей быў змыты тады. Нібы засталася яшчэ адна яма. А раптам праўда?

І што, зноў паплывуць трупы па Абі?..

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук**
*Калпашова—Томск—Мінск*

***У 1994 г. споўнілася 200 гадоў з года нараджэння (1794), а ў 1996 г. споўніцца 140 гадоў з года смерці (1856) вялікага расійскага іншадумцы Пятра Якаўлевіча Чаадаева — аўтара "Філасафічных лістоў", змест аднаго з якіх, што быў апублікаваны ў 1836 г., выклікаў ідэалагічны "шок" у цара Мікалая I і рэакцыйных колаў Расіі. К таму часу Вялікае княства Літоўскае (і цяперашняя Беларусь) было заваявана Расіяй і ўваходзіла ў склад імперыі, што знаходзілася ў стане застою, панавання рэакцыйнай самадзяржаўна-праваслаўнай ідэалогіі. У Чаадаева ёсць нямала думак, адпаведных часу, які перажываецца Расіяй і нашай шматпакутнай Бацькаўшчынай зараз. Ёсць усе падставы ўзгадаць аб гэтым славутым сыне Расіі сёння і перачытаць яго "Філасафічныя лісты" ў кантэксце часу.***

# ЁН ІМКНУЎСЯ ДА ІСЦІНЫ

## ЗГАДКІ ПРА ЛЁС П. ЧААДАЕВА

Чаадаеў доўга пражыў у краінах Заходняй Еўропы; вярнуўшыся дамоў, быў здзіўлены панаваўшай на радзіме рэакцыяй. У адным са сваіх "філасафічных лістоў" (усіх іх было 8), напісаным у рэзка крытычнай форме і апублікаваным на французскай мове ў маскоўскім часопісе "Тэлескоп" (1836), ён раскрытыкаваў становішча ў Расіі, за што і быў пакараны. Астатнія "лісты" публікаваць дома пабаяўся. Два з іх былі апублікаваны пры жыцці аўтара ў Францыі, а іншыя — праз многа гадоў пасля яго смерці.

Чаадаеў пісаў: "У нашай крыві ёсць нешта варожае ўсялякаму сапраўднаму прагрэсу. Мы жывём толькі дзеля таго, каб паслужыць якім-небудзь важным урокам для аддаленых продкаў..."

На яго думку, у прагрэсіўным развіцці Заходняй Еўропы вялікую ролю адыграла і іграе рымска-каталіцкая царква. На працягу стагоддзяў народы Захаду пад рымскай царквой жылі адным жыццём, як члены адной сям'і, памагалі адзін другому, падтрымлівалі слабых, ішлі адным шляхам да адной мэты. Дзякуючы гэтым агульным намаганням яны апярэдзілі ўсе астатнія народы. Апекаваныя царквой у пошуках "Царства Божага", яны знайшлі ўсе зямныя даброты — навуку, мастацтва, грамадзянскую супольнасць. І такім моцным быў гэты першы штуршок, што ён да цяперашняга часу рухае тыя народы да лепшага...

Сузіраючы нікчэмнасць стану Расіі, нэндзу жыцця ў ёй, рэакцыйнасць царскага рэжыму, Чаадаеў часта паўтараў: "Adveniat regnum Tuum" ("Няхай прыйдзе ўладарства тваё"). Мелася на ўвазе не якая-небудзь "светлая будучыня камунізму", а — узаемнае памкненне сусветнага людства да ўзаемнага дабра, шчасця і прагрэсу.

Чаадаеў лічыў, што адна Расія не ўдзельнічае ў гэтым руху. Хрысціянства "прынята ёй з заразнага вытоку, растленнай, паўшай Візантыі, што пазбылася царкоўнай еднасці, вырвала яе з сусветнага руху да прагрэсу, кінула ў пустую прастору, як блукаючы метэор".

Рымская царква ў тысячагадовай барацьбе з Рымскай імперыяй сцвердзіла сваю свабоду ад свецкай улады, дзяржавы, і свабода царквы сталася крыніцай усіх грамадзянскіх свабод: "Усе палітычныя рэвалюцыі Захаду па змесце — рэвалюцыі духоўныя".

"Расійская ж царква падначалілася дзяржаве, — працягвае П. Чаадаеў, — і рабства царквы сталася вытокам усіх нашых рабстваў. Расійскае сацыяльнае развіццё — адзінае ў сусветнай гісторыі, у якім усё ад самага пачатку імкнецца да падначалення асобы і грамадства".

Вось чаму, на яго думку, у Расіі няма гісторыі ў сапраўдным сэнсе слова. Знаходзячыся як бы па-за часам, яна пазбаўлена пачуцця сусветна-гістарычнай непарыўнасці. "Мы жывём адным цяперашнім у самых цесных яго граніцах, без мінулага і прышласці, сярод мёртвага застою... Мы так незвычайна рухаемся ў часе, што з кожным наступным імгненнем папярэдняе знікае для нас беззваротна". "...Самотныя ў свеце, мы нічога не далі свету, нічому не навучылі яго... Мы ўзялі ўсё у іншых і ўсё перакруцілі... Ніводная плённая думка не нарадзілася на бясплоднай глебе нашай радзімы: ніводная вялікая ісціна не выйшла з нашага асяроддзя". "І хто скажа, калі, нарэшце, знойдзем саміх сябе сярод чалавецтва, і колькі бед нам наканавана перацярпець, перш чым споўніцца нашае прызнанне?"

(З таго часу Расія перацярпела шмат бед, але асаблівага прызнання няма і цяпер, прыходзіцца нават працягваць руку і прасіць дапамогі...)

Па Чаадаеву, выхад з тупіка ў наступным: "пакуль з нашых вуснаў не вырвецца прызнанне ўсіх памылак нашага мінулага; пакуль з нашых нетраў не звергнецца крык болю і раскаяння, водгук якога напоўніць свет", — мы не ўбачым выратавання.

(Пасля краху Савецкага Саюза былыя дзеячы КПСС-КПБ як хамелеоны сталі мяняць крывава-чырвоны колер на мяккія дэмакратычныя афарбоўкі. Яны як кляшчы ўпіліся ў цела дэмакратыі і высмоктваюць з яе ўсе сокі...)

Чаадаеў лічыў, што ў Расіі няма мінулага, але ў яе ёсць магчымасць выкарыстаць вопыт нашых старэйшых братоў — народаў еўрапейскага Захаду. І хоць у Расіі ў мінулым — пустэльня, але гэтая пустэльня можа стацца свабодаю. "Рускі чалавек — самы свабодны чалавек у свеце — у магчымасці".

(Цяперашняя Расія і ўсе краіны былога Саюза імкнуцца выкарыстаць вопыт Захаду, ды і ўсёй сусветнасці.)

"Мы — агромністая нечаканасць без унутранай сувязі з мінулым, без прамой сувязі з цяперашчынай. Шлях Захаду — паступовае развіццё, шлях эвалюцыйны; наш — рэвалюцыйны, таму што, супрацьлегласць Захаду, мы толькі і робім, што парываем з мінулым".

(Цяперашняя Расія парывае з бальшавіцкім мінулым.)

Чаадаеў упершыню ў Расіі адстойваў ідэю сусветна-гістарычнай неабходнасці ўключэння ва ўсёчалавечы кірунак развіцця. Ён лічыў, што ў рускіх (расійцаў) дзве радзімы: Расія і Еўропа, а для ўсяго свету зямля — "Зямля нічыя", таму што яна — Божая.

У сваёй гісторыі многія народы перажылі перыяды нацыянальнай замкнёнасці і ўключэння ў сусветную плынь развіцця чалавецтва. Беларусь (Вялікае княства Літоўскае) патрапіла ў яго раней, чым Расія: ВКЛ было не дэспатычнай манархіяй, а шляхецкай рэспублікай; гарады мелі магдэбургскае права, сяляне плацілі чынш (падатак), па тым часе нядрэнна была пастаўлена адукацыя, вучыліся ў еўрапейскіх універсітэтах; развівалася друкарская справа і г. д. Да агульначалавечай плыні развіцця нам трэба далучацца і цяпер...

Спробы розных народаў і дзяржаў, у тым ліку і Расіі, падначаліць сабе сусветнасць, навязаць ёй сваю волю, ідэалогію, урэшце, заваяваць — канчаліся крахам. Цяпер мы перажываем такі крах былой бальшавіцкай расійскай імперыі...

Аб апублікаваным у "Тэлескопе" "Філасафічным лісце" шэф мікалаеўскіх жандармаў Бенкендорф далажыў Мікалаю І. Той, прачытаўшы "ліст", наклаў рэзалюцыю: "Прочитав статью, нахожу, что содержание оной — смесь дерзостной бессмыслицы, достойной умалишенного". Меркавалі, што аўтар "ліста", магчыма, знаходзіцца ў змове супраць рэжыму. Стварылі камісію, і хоць ніякай змовы не знайшлі, з аўтарам расправіліся бязлітасна нават па тым часе: часопіс "Тэлескоп" забаранілі выдаваць; рэдактара Надзеждзіна саслалі ў Усць-Сысольск; цэнзара Болдырава адхілілі ад пасады, а Чаадаеў па "высочайшему повелению" быў аб'яўлены "вар'ятам"...

Чаадаева спачатку не зразумеў нават А. С. Пушкін. "Клянусь вам честью, я не хотел иметь ни отечество, ни другую историю, чем те, которые дал нам Бог", — пісаў ён да Чаадаева. Але потым называў яго сваім выратавальнікам: "Никогда я тебя не забуду. Твоя дружба заменила мне счастье: одного тебя может любить холодная душа моя" (Кішынёўскі дзённік, 1821).

Шэлінг назваў Чаадаева "адным з выдатнейшых людзей свайго часу".

Славянафілы абвінавачвалі Чаадаева ў непатрыятызме. На што ён з поўным правам адказваў: "Я больш чым хто-небудзь з вас люблю сваю бацькаўшчыну... Цудоўная рэч любоў да радзімы, але ёсць яшчэ больш цудоўнае — любоў да ісціны. Не праз радзіму, а праз ісціну вядзе шлях на неба, у царства Божае". Ён быў патрыётам не толькі Расіі, але і Еўропы, усёй сусветнасці, царства Божага. Малітву "Няхай прыйдзе ўладарства тваё...", маючы на ўвазе Расію, Чаадаеў паўтараў усё жыццё. Малітва не састарэла.

Сёння і нам, беларусам, ёсць у ёй патрэба. Да нас уладарства Божае прыйдзе тады, калі беларусы будуць паміж сабой салідарныя, будуць узаемна дапамагаць адзін аднаму, стануць нацыянальна свядомымі, патрыётамі сваёй Бацькаўшчыны, адродзяць і ўзбагацяць нацыянальную мову, культуру, навуку — як мага хутчэй; не дазволяць навязваць сабе ў якасці дзяржаўнай чужую мову, грэбаваць і пагарджаць дзяржаўнымі сімваламі... Уладарства Божае к нам прыйдзе тады, калі народныя выбраннікі адвучацца лгаць, ашукваць, абяцаць і не выконваць сваіх абяцанняў; калі не будзе цэнзуры на інфармацыю, не будзе весціся падрыўная праца супраць беларускай дзяржавы і нацыі; калі будуць ліквідаваны дзяржаўны феадалізм у сельскай гаспадарцы і манапалізм у прамысловасці, калі вытворцы і службоўцы будуць атрымоўваць за сваю працу не 10—15 працэнтаў яе сабекошту, а 85—90 працэнтаў. Нарэшце, уладарства Божае ў Беларусі надыдзе тады, калі знікне злачыннасць, карупцыя, п'янства, не будзе 30—50 працэнтаў разводаў, а бацькі і дзеці будуць сумленна выконваць свае сямейныя абавязкі, калі не будуць парушацца правы чалавека.

Няхай прыйдзе ўладарства тваё!..

**Іван МІРОНЧЫК,**
**прафесар**

*г. Мінск*

### АД РЭДАКЦЫІ

Прафесар І. М. Мірончык — вядомы медык — зведаў лёс, у нечым падобны да лёсу П. Чаадаева. У 1983 г. ён даслаў у ЦК КПСС "99 сустрэчных заклікаў", якія, вядома ж, апынуліся ў Мінскім КДБ, праз калідоры якога аўтару давялося шмат паблукаць — перад тым як апынуцца ў "вар'ятні"... Што гэта былі за заклікі? Вось некаторыя з іх: 1) Аўтарытэт КПСС падае; 2) Савецкі Саюз ідзе да краху; 3) У нас разгортваюцца польскія падзеі; 4) Камунізм пабудаваць немагчыма, як і вечны рухавік; 5) Наш "развіты сацыялізм" — несапраўдны; 6) Далоў марыянетачныя прафсаюзы! 7) Камуністычных забойцаў мільёнаў ні ў чым не павінных суайчыннікаў — да адказнасці, як і нямецка-фашысцкіх злачынцаў, незалежна ад часу зробленага імі злачынства; 8) Пакуль будуць калгасы і саўгасы — ніякая "Харчовая праграма" не будзе выканана; 9) Далоў дзяржаўны феадалізм у сельскай гаспадарцы! 10) Далоў цэнзуру! 11) Далоў псеўдаінтэрнацыяналізм! 12) Няхай у Беларускай ССР дзяржаўнай мовай будзе беларуская мова! 13) Няхай у навучальных установах выкладанне вядзецца на роднай беларускай мове! І да т. п. Тады "сустрэчныя заклікі" праф. І. Мірончыка ў правячай партыі таксама выклікалі ідэалагічны "шок". У выніку аўтар зведаў чаадаеўскі лёс — як і многія іншадумцы Савецкага Саюза.

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

У шэрагах, дзе адлік вёўся да двух, новыя павевы — дазваляецца, каб узняць дух, дадаваць: "левай". Ці далёка зайшло зло? Да "раз, два, тры" не дайшло.

●

"Лысая Гара" ўся ў персаналіях, закіды ці не ў кожным радку. Ды каго зацікавяць тыя рэаліі недзе ў сотым ад выдання гадку? Чытаем жа сёння Джанатана Свіфта, і не ўспрымаем яго адно як палеміста. І беларускай "Гары" пры ўсёй яе накіраванасці неўміручасць наканаваная. А калі праз гады за жывое бярэ, дык якое яно тады тысячагоддзе на двары?

●

Выявы Рамзеса ў калонах? Хіба выкінеш з нейчага існавання тры дзесяцігоддзі абагаўлення фараона і сем дзесяцігоддзяў пірамідабудавання?

●

Суседзі ў свеце пярэстым, мы на розныя выйшлі кругі, калі і яднае нас бездань, дык раз'ядноўваюць берагі.

●

Божачка, колькі ж гэта павінна быць пячонак у траскі, траскі ў моры, мора ў чалавека, каб нарабіць столькі кансерваў, і колькі спатрэбіцца напояў, каб наробленае пусціць пад закусь!

●

Не, той, хто накрэмзаў на муры адзінае гэта слова, не грубіян, ён скарэй афарыст, бо выказаўся гранічна каротка, хіба што вельмі ўжо просталінейна.

●

З Жака Прэвера. Людовікі — 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12, 13, 14, 15, 16, 17, 18-ы — а далей нікога, хоць прыплаці. Што гэта за сямейка, якая не здолела далічыцца да дваццаці?

●

Аб чым клапоціцеся, сексуальныя меншасці? Аб правах чалавека? А правы чалавецтва? Бо калі вас будзе большасць, адкуль возьмуцца меншасці?

●

За інтэлект плаціць як за маёмасць? Выдатны праект. Інтэлектуалам патрэбна ўласнасць, уласнікам — інтэлект. Але ўнясём яснасць, праект не сучасны — бо хто ў нашых умовах дбае пра інтэлект?

●

— Кажуць, навучыліся чытаць чужыя думкі, — жахаецца сусед і сам сябе суцяшае: — Зрэшты, не трэба будзе прыкідвацца, што думаеш, хоць на самай справе ні аб чым не думаеш, а на самай справе ні аб чым не думаць і не рабіць выгляду, што думаеш... Усё-такі ён збянтэжаны: — А што як палічаць хітрэйшым за разумнікаў?


ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
**Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| Х.Дунец | (1932-35) |
| І.Гурскі | (1935-41) |
| А.Куляшоў | (1945-46) |
| М.Горцаў | (1947-49) |
| П.Кавалёў | (1949-50) |
| В.Вітка | (1951-57) |
| М.Ткачоў | (1957-59) |
| Я.Шарахоўскі | (1959-61) |
| Н.Пашкевіч | (1961-69) |
| Л.Прокша | (1969-72) |
| Х.Жычка | (1972-76) |
| А.Асіпенка | (1976-80) |
| А.Жук | (1980-86) |
| А.Вярцінскі | (1986-90) |

Галоўны рэдактар
Мікола ГІЛЬ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Жана ЛАШКЕВІЧ
Алесь МАРЦІНОВІЧ
Барыс ПЯТРОВІЧ, *першы намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА
Віктар ШНІП, *намеснік галоўнага рэдактара*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі -- *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара -- *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі -- *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі -- *331-985*
літаратурнага жыцця -- *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі -- *332-204*
паэзіі і прозы -- *332-204*
музыкі -- *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання -- *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- *332-462*
навін -- *332-462*
мастацкага афармлення -- *332-204*
фотакарэспандэнт -- *332-462*
бухгалтэрыя -- *268-640*

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»**
**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах
Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)
Індэкс 63856. Наклад 7172.
Нумар падпісаны 24. 8.1995 г.
ЗАКАЗ 3393
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12